Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя У. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

Т. XXIII АДДЗЕЛ С.-Г. ЭКОНОМІІ І АГРАРНАЙ ПОЛІТЫКІ Вып. 12

М. ЛАЙКОЎ

# НАРЫС ПА ГРАМАДЗКАЙ АГРОНОМІІ БЕЛАРУСІ

(Прынцыповыя падставы, гісторыя, організацыйныя формы і зьмест работы агрономаў)

По літаратурных крыніцах і рэкогносцыйным абсьледваньні 39-ці раёнаў Беларусі




ТРУДЫ БЕЛОРУССКОГО НАУЧНО-ИССЛЕДОВАТЕЛЬСКОГО ИНСТИТУТА СЕЛЬСКОГО и ЛЕСНОГО ХОЗЯЙСТВА им. В. И. ЛЕНИНА при СНК БССР

Н. ЛАЙКОВ

ОЧЕРК ПО ОБЩЕСТВЕННОЙ АГРОНОМИИ БЕЛОРУССИИ

BULLETIN OF THE WHITE RUTHENIAN LENIN'S INSTITUTE FOR SCIENTIFIC RESEARCH OF AGRICULTURE AND FORESTRY AT THE SOVIET OF W-R SSR

N. LEIKOFF

AN OUTLINE OF PUBLIC AGRONOMY IN WHITE-RUTHENY (BIELARUS)

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — MINSK
1929 г.



БЕЛАРУСКІ НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧЫ ІНСТЫТУТ
СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя Ў. І. ЛЕНІНА

АДДЗЕЛ С.-Г. ЭКОНОМІІ і АГРАРНАЕ ПОЛІТЫКІ

М. ЛАЙКОЎ

# НАРЫС ПА ГРАМАДЗКАЙ АГРОНОМІІ БЕЛАРУСІ

## (ПРЫНЦЫПОВЫЯ ПАДСТАВЫ, ГІСТОРЫЯ, АРГАНІЗАЦЫЙНЫЯ ФОРМЫ І ЗЬМЕСТ РАБОТЫ АГРОНОМАЎ)

По літаратурных крыніцах і рэкогносцыйным анкетным абсьледваньні 39-ці раёнаў Беларусі







БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1929



## I. Уступ.

З узмацненьнем тэмпу соцыялістычнага будаўніцтва ў нашым Саюзе Соцыялістычных Рэспублік цэнтральныя органы савецкае ўлады і партыі знайшлі магчымым і патрэбным паставіць перад савецкай грамадзкасьцю ва ўсю велічыню пытаньне аб шляхох і мэтодах падвышэньня ўраджайнасьці. І гэта зусім зразумела. „Сельская гаспадарка мае выключна важнае значэньне ў народнай гаспадарцы нашае краіны (Саюзу), а ўздым і разьвіцьцё вытворчых сіл яе зьяўляецца адным з асноўных умоў разьвіцьця ўсяе народнае гаспадаркі. Кошт агуловай продукцыі сельскай гаспадаркі СССР у 1925—26 годзе дасягнуў па даваеннай цане 11.289 мільёнаў рублёў, прычым на долю зямляробства і жывёлагадоўлі прыпадала 10.165 мільёнаў рублёў. Кошт агуловай продукцыі сельскае гаспадаркі амаль у два разы перавышаў кошт продукцыі прамысловасьці (фабрычна-заводзкай і саматужна - рамесьніцкай), якая ў тым-жа годзе складала 6.933 мільёны рублёў“[1]).

Такім парадкам, для кожнага зразумела, што тэмп разгортваньня індустрыялізацыі краіны, гэтага падмурку соцыялістычнае гаспадаркі, ня можа быць пасьпяховым без узмацненьня продукцыі сельска-гаспадарчага сэктару—сыравіннае базы буйнае прамысловасьці, і хоць цяпер мы дасягнулі ўзроўню даваеннага часу па асноўных паказьніках народнае гаспадаркі, у тым ліку і сельскае гаспадаркі, але „...гэта толькі першы бліжэйшы этап аднаўленчага пэрыоду“[2]). Дарэволюцыйны тэмп росту ўраджайнасьці і продукцыі сельскае гаспадаркі наогул ня можа задаволіць

---

[1]) З прадмовы рэдакцыйнае колегіі да кн. проф. А. О. Фабрыканта—„Агульныя асновы агродапамогі“, 1927 г., стар. 1.

[2]) Тамсама.

рэволюцыйнага тэмпу творчага будаўніцтва. Канечна, трэба напружыць усе сілы, каб хутчэй пабудаваць соцыялізм у нашай адсталай зямляробскай краіне.

Наша грамадзкасьць шырока адгукнулася на заклік савецкае ўлады. Цяпер па ўсім Саюзе, у кожным кутку гэтая проблема абгаворваецца і на дыспутах, і ў друку. Кожны спэцыялісты сельскае гаспадаркі так ці інакш прымае ўдзел у адшуканьні пэўных шляхоў для вырашэньня пастаўленага пытаньня. Прычым розныя колы спэцыялістых вырашаюць гэтае пытаньне па-рознаму—экономістыя бачаць выхад галоўным чынам у мерапрыёмствах экономічнай політыкі, а людзі з тэхнічным ухілам часта звужаюць проблему да таго ці іншага тэхнічнага прыёму гаспадараньня. Ва ўмовах Беларусі найбольш яскравае, крышталёва-чыстае выступленьне экономістага мы бачым у прамовах на дыспуце і ў артыкуле „Савецкай Беларусі“ ў дырэктара Навукова-Дасьледчага Інстытуту т. Гарэцкага Г. І. Апошні проблему ўраджайнасьці замяняе проблемаю павялічэньня вытворчасьці ўсяе сельскае гаспадаркі Беларусі, і галоўнымі шляхамі для вырашэньня гэтае проблемы лічыць:

1) „Інтэнсыўнае будаўніцтва чыгунак і шосаў, іх найбольш „эфэктыўнае“ разьмяшчэньне на тэрыторыі БССР. Халадзільнае будаўніцтва, „апанаваньне“ небеларускім рынкам“.

2) „Індустрыялізацыя ды урбанізацыя БССР. Утварэньне ёмкага ўнутранога рынку“.

3) „Максымальнае разьвіцьцё с.-г. прамысловасьці“.

4) „Мэліорацыя балот Беларусі. Узмацненьне яе тэмпу“.

5) „Колектывізацыя с.-г. коопэрацыі“.

6) „Агрономізацыя“ зямляўпарадкаваньня, самой агрономіі і сялянства“.

7) „Мінэральныя ўгнаеньні, сідэрацыя—як цэнтральныя „тэхнічныя“ проблемы“.

8) „Племянная і насеньняводная справа“.

Адным словам, мінімум увагі тэхнічным проблемам і максымум экономічным мерапрыемствам і—справа будзе вырашана.

З другога боку, дырэктар тарфяное станцыі даводзіў, што ва ўмовах Беларусі праз ужываньне торфу на ўгнаеньне ва ўсіх сялянскіх гаспадарках мы дасягнем надзвычайна

вялікай продукцыі ў сельскай гаспадарцы, а калі будзе што прадаваць, дык знойдуцца і рынкі збыту і шляхі да гэтых рынкаў.

Нам думаецца, што і той, і другі погляд староньнія, і таму трэба лічыць іх памылковымі. Ні староньнімі мерамі экономічнае політыкі, ні тым больш паасобнымі захапленьнямі тэхнічнымі прыёмамі справу ня вырашыш. Трэба гаварыць не аб паасобных „эфэктыўных“ прыёмах, а аб комплексе мерапрыемстваў, накіраваных на рэорганізацыю сельскае гаспадаркі.

Цалкам згаджаючыся з Г. І. Гарэцкім, што экономічныя фактары надворна-гаспадарчага парадку маюць надзвычайна вялікае значэньне для пасьпяховае рэорганізацыі сельскае гаспадаркі, мы ні ў якім разе ня можам згадзіцца, што пры вырашэньні гэтых пытаньняў сельская гаспадарка сама сабою рэорганізуецца. Згадзіўшыся з гэтым палажэньнем, мы павінны былі-б згадзіцца і з другім, што процэс рэорганізацыі сялянскіх гаспадарак ёсьць толькі стыхійны процэс прыстасаваньня да рынку і што організаваная воля рабочых і сялян у выглядзе агрономічнае організацыі, ня мае ніякага ўплыву на організацыю гаспадаркі. Адгэтуль лёгічным вынікам павінна было-б быць ліквідаваньне грамадзкае агрономіі, як непатрэбнае організацыі. Бязумоўна, такая пастаноўка пытаньня была-б вельмі памылковаю, дый сам Гарэцкі прызнае, што патрэбна „агрономізацыя“ агрономіі. Вось гэтую тэзу трэба расшыфраваць і перасунуць на адно з першых месц пры вырашэньні проблем ураджайнасьці і наогул у сыстэме соцыялістычнага будаўніцтва. Нам здаецца, што ўсе частковыя проблемы, як падвышэньне ўраджайнасьці, павялічэньне ўдойлівасьці кароў, бэконізацыя сьвіней і г. д., галоўным чынам таму і зьяўляюцца, што ў нас да гэтага часу яшчэ няма правільна наладжанай агрономічнай дапамогі сельскай гаспадарцы і нават няма правільных поглядаў на самую організацыю на мясцох. А што ўзмацненьне вагі да сельскае гаспадаркі і організацыя агродапамогі насельніцтву шчыльна зьвязаны паміж сабою, няма чаго доўга і гаварыць. Падмацаваньне гэтага палажэньня мы знаходзім у гістарычных фактах. Досыць адзначыць, што сама ідэя організацыі агродапамогі насельніцтву ў Расіі выклікана такімі ліхамі, як неўраджай, голад, шкоднікі і г. д. Так, у сувязі з выключ-

ным неўраджаем у 1833 годзе старая царская ўлада організавала ўрадавы агрокультурны цэнтр „Камітэт удасканаленьня зямляробства ў Расіі“. Але гэты першы ў Расіі агрокультурны асяродак быў больш дэклярацыйнага характару, бо ён ня меў на мясцох практычных дзеячоў.

Пачатак агрономічнае організацыі на мясцох таксама выкліканы народным ліхам—масавым зьяўленьнем шкоднікаў у сельскай гаспадарцы. Інстытут „агрономічных дазорцаў“ нарадзіўся ўпяршыню ў Пэрмскай губэрні ў 1883 годзе для змаганьня са шкоднікамі. Неўраджай і голад 1891—92 году, абхапіўшы значную частку Расіі, прымусілі царскую ўладу зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на дапамогу сельскай гаспадарцы. З гэтаю мэтаю ў 1894 годзе старое міністэрства дзяржаўнае маемасьці зьмяняецца ў міністэрства зямляробства і дзяржаўнае маемасьці, якое пачынае організоўваць агродапамогу насельніцтву праз спэцыяльна-ўтвораны дэпартамант зямляробства. Адначасова ўзьнімаецца пытаньне аб прыцягненьні ўвагі і тагачаснае грамадзкасьці ў асобе земства. Такім чынам, неўраджай і голад прымусілі старую царскую ўладу паклапаціцца аб інтарэсах сельскай гаспадаркі. Няма чаго і гаварыць, што гэта дапамога была накіравана на абарону абшарніцкіх інтарэсаў. Агродапамога сялянскай гаспадаркі пачала ажыцьцяўляцца толькі земскай агрономіяй і то ў тых губэрнях, дзе сялянства (хоць і кулацкае) прымала шырокі ўдзел у земстве (Пэрмскае, Вяцкае ды інш.). Аднак, і ў земстве ўстаноўка была няправільная. Земства глядзела на грамадзкага агронома, як на доктара, як на лекара асобных хвароб-болек. Будучы абшарніцкай організацыяй і ня маючы агульна-дзяржаўнага пункту погляду на справу рэорганізацыі сельскай гаспадаркі, як часткі народнай гаспадаркі, земства інакш глядзець на агрономію і не магло. Характарнаю адзнакаю капіталістычнай сыстэмы зьяўляецца стыхійнасьць, няплянавасьць, а значыцца і організацыя сельскай гаспадаркі ёсьць стыхійны процэс, які самастойна адбываецца, агроном-жа толькі памочнік па тэхнічных ведах, лекар асобных хвароб, пра якія селянін можа і ня ведаць. Адгэтуль і асноўная ўстаноўка старой агродапамогі—агропропаганда, паказальныя мерапрыемствы, змаганьне са шкоднікамі і г. д. Толькі паасобныя адзінкі з выдатных земскіх агрономаў лічылі, што такі падыход нездавальняючы ды імкнуліся

перанесьці цэнтр увагі ў працы агронома на арганізацыю гаспадаркі (Манькоўскі, Чалінцаў, Мінін, Мацэевіч, Фабрыкант, Кастроў ды інш.). Аднак, падкрэсьліваю, гэта былі паасобныя натугі, якія не маглі знайсьці шырокага водгуку ў сыстэме капіталістычнага будаўніцтва.

Толькі з прыходам савецкае ўлады, якая сваёй мэтавай устаноўкай мае перабудову ўсёй народнай гаспадаркі на новых соцыялістычных падставах, у плянавым парадку, пачала ажыцьцяўляцца і ідэя рэорганізацыі распыленых сялянскіх гаспадарак. Але і ў савецкі пэрыод, асабліва ў пачатку будаўніцтва, ня ўсё рабілася так, як трэба, рэволюцыйны процэс разбурэньня старога ладу і організацыйных форм ня мог абмінуць і агрономічную організацыю, і апошняя, у час ваеннага комунізму, была амаль зусім зруйнавана. Усе агрономічныя сілы былі перакінуты або на спажывецкі фронт, або на организацыю буйных савецкіх гаспадарак, якім у той час надаваўся характар фабрык хлеба. Неўраджай і голад 1921 г. паставілі перад савецкай дзяржавай пытаньне аб ліквідацыі гэтай стыхійнай спадчыны капіталістычнай сыстэмы гаспадараньня. Соцыялістычная плянавая гаспадарка, з аднаго боку, неўраджай і голад, як вынік стыхійных уплываў прыроды, з другога—гэта рэчы несумяшчальныя, тым больш, што агрономічная навука, якая цяпер зьяўляецца асноўным сродкам змаганьня працоўных мас, мае пэўныя шляхі для перамогі над стыхійнымі сіламі прыроды. Дасьледчыя станцы. Паваложжа і ў сухмень па цэлым шэрагу культур мел здавальняючы ўраджай. Але гэтыя станцыі зьяўляліся оазам сярод разбураных сялянскіх гаспадарак, якія і далей жылі і гаспадарылі па-старому. Пагадзіцца з гэтымі фактамі савецкая дзяржава не магла і ўхваліла цэлы рад практычных мерапрыемстваў па ліквідацыі ўплываў стыхійных сіл прыроды. Быў створаны спэцыяльны фонд змаганьня з сухменем (77 мільёнаў рублёў), якія ўвесь час і выкарыстоўваюцца на рэорганізацыю гаспадаркі сухменных раёнаў. Але самае галоўнае, з нашага пункту погляду, было разварушэньне савецкай грамадзкасьці і прыцягненьне ўвагі ўсіх грамадзкіх сіл да пытаньня організацыі дзяржаўнай агрономічнай дапамогі сельскай гаспадарцы. Зусім выразна было пастаўлена пытаньне аб тым, што бяз плянавай рэорганізацыі распыленай сельскай гаспадаркі нельга пабудаваць народнай гаспадаркі.

Трэ‘ было поруч з арганізацыяй буйнай прамысловасьці, гэтай асновы пролетарскай дыктатуры, арганізаваць на новых падставах сельскую гаспадарку, гэтую базу сыравіны, і плянава яе падпарадкаваць соцыялістычнаму будаўніцтву. І вось у 1922 годзе ўлада склікае I ўсесаюзны агрономічны зьезд у Маскве (3-ці па ліку наогул у Расіі), на якім пытаньні аб арганізацыі агродапамогі і былі пастаўлены ў поўным абхваце. Не закранаючы цяпер усіх пытаньняў, разгледжаных на гэтым зьезьдзе, мы толькі адзначым, што на гэтым зьезьдзе савецкая ўлада ў прамовах адказных прадстаўнікоў партыі яскрава і выразна формулявала сутнасьць савецкай грамадзкай агрономіі, і што з гэтага моманту і можна лічыць сталае разгортваньне агрономічнай сеткі па абслугоўваньні сельскай гаспадаркі.

Самым фактам пастаноўкі і прапрацоўкі асноў сельска-гаспадарчай палітыкі на гэтым зьезьдзе савецкая ўлада прызнала агронома асноўным агентам сельска-гаспадарчай палітыкі на вёсцы. Савецкі агроном ёсьць практычны дзеяч па ажыцьцяўленьні сельска-гаспадарчае палітыкі, якая накіравана на рэорганізацыю сельскай гаспадаркі на соцыялістычных падставах. Адгэтуль асноўная мэтавая ўстаноўка савецкай агрономіі—рэорганізацыя гаспадаркі. Агроном ня лекар асобных хвароб, а рэорганізатар гаспадаркі ў цэлым.

Дзе-ж падстава таму п‘едэсталу, на які савецкая ўлада паставіла свайго агронома.

З бегам гістарычнага часу ўсё мяняецца і набывае ўсё новыя і новыя формы, то лепшыя, то горшыя, у залежнасьці ад таго, як арганізавана само жыцьцё. У сучасны момант, калі грамадзкая думка непадзельная з дзяржаўнай, калі арганізаваная воля рабочых і сялян ажыцьцяўляецца дзяржаўным апаратам, усё павінна рабіцца так, як вымагае само жыцьцё, з пункту погляду інтарэсаў працоўных мас. А як зазначалася вышэй, жыцьцё вымагае, каб хутчэй ажыцьцявіць соцыялізм, для гэтага трэба распыленую індывідуальную сялянскую гаспадарку падпарадкаваць агульна-клясаваму соцыялістычнаму будаўніцтву. Мэта надзвычайна вялікая, адказная, але-ж і надзвычайна цяжкая. Консэрватыўная, індывідуалістычная сялянская маса, надзвычайна няруховая, складае такую стыхію, якую вельмі цяжка перамагчы і накіраваць у належным кірунку. Прыватна-гаспадарчыя ўлась-

ніцкія мотывы надзвычайча моцна пануюць у гэтай асярэдзіне. Быт, што гістарычна склаўся, паднявольнага сялянства, сыстэма гаспадаркі, сыстэма зямлякарыстаньня (асабліва ў нас падворна-надзельная сыстэма зямлякарыстаньня) зрабілі моцны адбітак на псыхіку сельска-гаспадарчага насельніцтва. Патрэбна надзвычайна ўпартая барацьба за новую культуру, за перавыхаваньне нашага сялянства. Патрэбна цэлая сыстэма, падрабязна апрацаваная да канца, экономічнай і сельска-гаспадарчай політыкі, якая кіравала-б разьвіцьцём сельскае гаспадаркі ў плянавым парадку, у належным кірунку.

Хто-ж павінен устанаўляць і ажыцьцяўляць гэтую політыку? Зямельныя органы савецкае ўлады зьяўляюцца тэй кузьняй, дзе на падставе дырэктыў партыі і савецкае ўлады куюцца асноўныя кірункі і пляны ажыцьцяўленьня сельска-гаспадарчай політыкі, а рэальным выканаўцам гэтых плянаў зьяўляецца савецкая агрономічная організацыя. Таму кожны савецкі агроном, хоча гэта ён ці не, павінен зьяўляцца агентам с.-г. політыкі на вёсцы. На яго абавязках ляжыць распыленую індывідуальную сельскую гаспадарку рэорганізаваць на новых социялістычных падставах.

Яшчэ нябожчык проф. А. Ф. Фортунатаў у сваіх лекцыях і артыкулах па грамадзкай агрономіі даводзіў, што дысцыпліна пра агродапамогу мае свае карані ў навуцы аб адміністрацыйным праве і лічыў, што „мясцовы агроном... гэта дзеяч агрономічнае дапамогі мясцоваму гаспадарчаму насельніцтву, *дзеяч сельска-гаспадарчага кіраўніцтва*, які знаходзіцца ў беспасрэдных адносінах з мясцовымі гаспа камі“... і далей... „Пасада грамадзкага мясцовага агронома ствараецца не ў інтарэсах паасобных пэрсон, а ў інтарэсах мас...“ [1]).

Гэта навукова-пэўная формулёўка паняцьця „грамадзкага агронома“ вельмі не падабалася тагачасным прадстаўнікам грамадзкае агрономіі, якія ў сваёй лепшай частцы былі проці існуючага царскага рэжыму. Прадстаўнікі земскае агрономіі лічылі сябе рэформатарамі грамадзкага жыцьця і таму рашуча адхілялі ад сябе сувязь з адміністрацыйным

[1]) *А. Ф. Фортунатаў* с статьи „Кто он?“ Сборник статей по общественной агрономии, 1920 г., стр. 15.

кіраўніцтвам. Вось чаму і да гэтага часу ў агрономічнай сям'і больш любяць ужываць тэрмін „грамадзкі агроном“, каб такім чынам адмежавацца ад „урадавага“ агронома, які мае функцыі і адміністрацыйнага парадку. Па сутнасьці справы як раней, так і цяпер мясцовы агроном быў і ёсьць агентам с.-г. політыкі. Розьніца толькі ў тым, што раней ён ажыцьцяўляў політыку буржуазна-абшарніцкае верхавіны, а цяпер рабоча-сялянскай масы. Калі-ж хто і ўхітраўся адкаснуцца ад гэтае ролі, дык адразу-ж зьмяняўся ў чыстага „спэца“, у культуртрэгера, якім земства ахвотна надавала ролю лекара паасобных хвароб.

У сучасны момант, калі падзелу паміж грамадзкасьцю і дзяржаваю няма, мясцовы агроном заняў пачэснае месца ў сыстэме соцыялістычнага будаўніцтва, як агент с.-г. політыкі.

Пасьлядоўца А. Ф. Фортунатава проф. А. О. Фабрыкант у сваёй працы „Агульныя асновы агродапамогі“ ў разьдзеле II „Адміністрацыйнае права і агрономічная дапамога насельніцтву“ навукова давёў, якая існуе сувязь паміж названымі дысцыплінамі і якое месца займае мясцовы агроном у савецкай сыстэме. Не закранаючы ўсіх зачэпленых там пытаньняў і самага аналізу, адзначым толькі канчатковую формулёўку сутнасьці агродапамогі. Проф. Фабрыкант кажа: „Агродапамога ня мае свайго асобнага спэцыфічнага зьместу: яна зьяўляецца прыладай сельска-гаспадарчай політыкі і характарызуецца, як асобная форма і спосаб правядзеньня мерапрыемстваў, і, як ужо адзначалася, ужывальна толькі пры існаваньні цэлага шэрагу ўмоў соцыяльна-экономічнага і політычнага парадку. *Яе сутнасьць залежыць ад характару існуючай сыстэмы сельска-гаспадарчай політыкі*, а продукцыйнасьць знаходзіцца ў цеснай сувязі з разьвіцьцём навукова-агрономічных ведаў“ [1]).

Такім парадкам, толькі пры савецкай уладзе і тэорытычна і практычна мясцовы агроном знайшоў сабе адпаведнае месца ў сыстэме соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта канечна ўдзельнік савецкае сыстэмы, рэальны дзеяч с.-г. кіраўніцтва.

---

[1]) Проф. *А. О. Фабрикант* „Общие основы агропомощи“, стр. 58.

Зрабіўшы гэты гістарычны агляд і параўнаньне, мы лічым патрэбным падкрэсьліць, што сама ідэя агродапамогі ў старыя часы выклікана была народным ліхам: калі не хапала хлеба, пачыналі гаварыць аб неабходнасьці ўзмацненьня агродапамогі. Гэтыя-ж прычыны мелі месца і ў пачатку савецкага будаўніцтва, але яны не зьяўляюцца характарнымі адзнакамі для савецкай сыстэмы. *Асноўнымі рысамі савецкай сыстэмы зьяўляецца плянавае будаўніцтва, і калі ўзмацняецца соцыялістычнае будаўніцтва, дык узмацняецца і ўвага да агродапамогі, да агрономічнай організацыі — гэтага праваднікa сельска-гаспадарчай політыкі на вёсцы.*

І вось цяпер, калі савецкая ўлада прызнала, што тэмп узросту і павышэньня ўраджайнасьці вельмі слабы, што агуловая продукцыя сельска-гаспадарчага сэктару ня можа цалкам забясьпечыць пасьпяховае разьвіцьцё соцыялістычнай гаспадаркі, проблема хутчэйшага падвышэньня ўраджайнасьці пастаўлена перад савецкай грамадзкасьцю ва ўсю велічыню. Зразумела, практычнае ажыцьцяўленьне гэтай чарговай задачы будзе ляжаць, галоўным чынам, на агрономічнай організацыі.

Раз мы прызналі, што савецкі агроном ёсьць асноўны агент с.-г. політыкі на вёсцы, дык гэтай установцы павінны быць падпарадкаваны і сама форма агрономічнай організацыі, зьмест і мэтод працы.

Пачнем з формы агрономічнай організацыі.

Шмат каму здаецца, што організацыйныя формы самае агрономічнае організацыі ня маюць вялікага значэньня, што ў першую чаргу трэба зьвярнуць увагу на зьмест і мэтоды працы. Тымчасам гэта далёка ня так. У сваёй працы на падставе фактычнага матэрыялу мы пастараемся давесьці, што ў залежнасьці ад організацыйных форм значна зьмяняецца і кірунак, і зьмест працы мясцовых агрономаў. І гэта зусім зразумелая рэч. Раз ёсьць выразная організацыйная ўстаноўка, ёсьць выразнасьць і ў працы. З другога боку, заўсёды людзям, мала знаёмым з сутнасьцю таго ці іншага прадмету, здаецца, што ўсё проста і зразумела і ўсё само сабой адбываецца. Па нашаму-ж глыбокаму пераконаньню, на падставе досыць уважлівага і шырокага азнаямленьня з організацыйнымі формамі агрономічнае організацыі БССР, УССР, Паўночнага Каўказу і цэнтральных губэрняў РСФСР, орга-

нізацыйныя формы аграномічнае арганізацыі маюць надзвычайна вялікае значэньне. Нельга не прадумаўшы да канца ўсю сыстэму агродапамогі чакаць пэўных вынікаў працы. А тымчасам арганізацыйныя формы агродапамогі ў нас менш за ўсё прадуманы. На 12-м годзе рэволюцыі мы яшчэ ня можам з пэўнасьцю сказаць, якая-ж форма аграномічнае арганізацыі адпавядае савецкай сыстэме. Розныя рэспублікі, аўтономныя вобласьці, а ў нас нават акругі па-рознаму падыходзяць да ўкомплектаваньня аграномічнага апарату. Уся справа ў тым, што сама савецкая сыстэма зьяўляецца выключнай зьявай ва ўсім сьвеце, а значыцца і паасобныя зьвены гэтае сыстэмы ня маюць прыкладаў у другіх больш культурных краінах. У гэтым сэнсе ні Захад, ні Амэрыка нам ня ўзор. Мы павінны знайсьці свае найбольш адпаведныя формы. І калі ў пачатку савецкага будаўніцтва нельга было стала гаварыць аб формах, бо ня было свае мясцовае практыкі, дык цяпер у пачатку другога дзесяцігодзьдзя творчага шуканьня паасобных мясцовых арганізацый, надышоў час, калі можна было-б заняцца навуковым вывучэньнем розных падыходаў мясцовых арганізацый. На вялікі жаль і да гэтага часу ва ўсім Саюзе няма такога навуковага асяродку, які-б займаўся вывучэньнем агродапамогі. Дзіўная рэч—у нас ёсьць шмат навукова-дасьледчых інстытуцый па вывучэньні розных галін сельскай гаспадаркі, інстытуцый сялян-дасьледчыкаў, станцыі па НАП, а вось інстытуцый па навуковай арганізацыі агродапамогі, гэтага адказнага фронту соцыялістычнага будаўніцтва на вёсцы, у нас няма. Чым займаецца мясцовы аграном, ці накіроўвае ён гаспадарку ў бок соцыялістычнае рэконструкцыі, ці адпавядае ён свайму прызначэньню—ніхто гэтым ня цікавіцца. Уся праца мясцовых агрономаў адбываецца самапасам, таксама, як і пашырэньне самой агросеткі. Пастаўленая перад савецкай грамадзкасьцю проблема ўраджайнасьці дае магчымасьць завастрыць пытаньне аб арганізацыі самае агродапамогі. Наша агрономія, як убачым далей з фактычнага матэрыялу, займаецца ўсім, чым хочаце, толькі не рэконструкцыяй сельскае гаспадаркі. Трэба раз назаўсёды дагаварыцца—хто такі савецкі аграном, якое яго месца ў савецкай сыстэме, чым ён павінен займацца і потым забясьпечыць яму мажлівасьць выконваць тую ролю, якую ўскладае на яго рабоча-сялян-

ская ўлада. Але ведамственным парадкам зрабіць гэтага нельга. Агрономічная корпорацыя тым заўсёды яскрава вылучалася з колаў іншых спэцыялістых, што ў сваёй сутнасьці мае шырокі грамадзкі характар і колектывізм у сваёй працы. Трэба колектыўна прапрацаваць усе пытаньні, усебакова іх высьветліць, угрунтаваць і потым дружна, па ўсім фронце ажыцьцяўляць. З гэтага пункту погляду трэба шчыра вітаць пастанову ўраду БССР аб скліканьні І Ўсебеларускага агрономічнага зьезду ў студзені 1929 году. Патрэба ў гэтым зьезьдзе ўжо цалкам высьпела ня толькі ў нас, але і ў саюзных рэспубліках. Наркамзем РСФСР таксама склікае Ўсерасійскі зьезд агрономаў з запрашэньнем прадстаўнікоў саюзных рэспублік. Нам думаецца, што Беларусь прыме шчыры ўдзел у працы і гэтага зьезду, бо толькі такім шляхам можна выкарыстоўваць практыку нашых суседзяй для таго, каб як найлепей пабудаваць сваю організацыю. Трэба памятаць, што на працягу ўсёй гісторыі агродапамогі ў Расіі агрономічныя зьезды адыгрывалі надзвычайна вялікую ролю. Так, першаму агрономічнаму зьезду ў Маскве ў 1901 г., па выразу проф. А. Ф. Фортунатава, „належыць заслуга практычнага ажыцьцяўленьня сувязі агрономічнае навукі з мясцовымі запатрабаваньнямі расійскай гаспадаркі“ [1]). Акрамя таго, увесь першы зьезд прайшоў пад сьцягам патрэбнасьці мясцоваму агроному мець сталую „програму грамадзка-агрономічнай работы“. З гэтага моманту ў агрономічнай асярэдзіне стала замацаваўся погляд, што без програмы працы немагчыма продукцыйная работа мясцовага агронома. На вялікі жаль і да гэтага часу шмат каму прыходзіцца даводзіць тое, што 30 год таму назад цьвёрда ўстаноўлена, як убачым далей, некаторыя РВК і цяпер аддаюць перавагу выкарыстоўваць агронома бяз жаднага пляну і програмы, выкарыстоўваючы яго на бягучыя патрэбы сёнешняга дня.

II Ўсерасійскі зьезд у Кіеве ў 1913 годзе паставіў націск на організацыйныя пытаньні і агродапамогу. Паўтараем, што ўжо ў той час лепшыя прадстаўнікі грамадзкае агрономіі лічылі канечна патрэбным падыйсьці да справы організацыі сялянскае гаспадаркі, а каб продукцыйна займацца гэтаю справаю патрэбна, як асноўны прынцып набліжэньня агрономіі да

---

[1]) *А. Ф. Фортунатаў*—З прамовы на І агрономічным зьезьдзе 1901 г.; „Сборник статей по общественной агрономии“ 1920 г., стар. 79.

насельніцтва. Прынцып, што выявіўся да таго часу, вучастковай аграномічнай арганізацыі пасьля II аграномічнага зьезду набыў правы грамадзянства. З гэтага часу і лічыцца сталае разгортваньне аграномічнай арганізацыі ў Расіі ў земскіх губэрнях На вялікі жаль гэта не датычыла Беларусі, бо, як вядома, беларускія губэрні да 1911 г. ня мелі абраных земскіх самакіраўніцтваў. Аграномічная арганізацыя па даных А. М. Міхайлава да 1910 г. складалася па Менскай губэрні з 2—3 інструктароў па малочнай гаспадарцы, прыкамандыраваных у якасьці консультантаў да адзінага буйнага с.-г. асяродку губэрні—„Менскага Таварыства сельскае гаспадаркі“. „І толькі ў 1910 годзе быў запрошаны (першы) урадавы агроном“[1]).

Такім парадкам сталае разгортваньне агрбдапамогі ў земскіх губэрнях пачалося пасьля II аграномічнага зьезду ў форме вучастковай агрономіі. Перадваенныя гады 1912—1914 былі гадамі пышнага росквіту аграномічнае арганізацыі. Але, як адзначалася вышэй, ажыцьцявіць цалкам высунуты арганізацыйны прынцып нельга было, бо грамадзкая агрономія ў большасьці была процілеглай існуючай так званай сталыпінскай с.-г. політыцы. Рэорганізаваць гаспадарку можна было толькі ў кірунку ўзмацненьня кулацкае гаспадаркі, утварэньня на вёсцы „моцнага мужычка“, а ўсякі іншы кірунак лічыўся „крамолай“. Вось чаму земскія агрономы, якія сваім об‘ектам лічылі ўсю масу сялянства, не маглі стала заняцца рэорганізацыяй гаспадаркі, а займаліся паасобнымі прыёмамі агрокультурнага ўплыву, разьлічанага на ўсю масу сялянства. Зразумелая рэч, што паасобнымі прыёмамі палепшаньня тэхнікі гаспадараньня гаспадарку не рэорганізуеш, чаму і пачалі накапляцца ноты пэсымізму і расчараваньня. Гэта лішні раз падкрэсьлівае, што агродапамога ня можа быць аполітычна, што продукцыйнай праца агронома будзе толькі тады, калі яна шчыльна будзе ўвязана з кірункам с.-г. політыкі. Так, сталыпінская аграномічная арганізацыя ў раёнах зямляўпарадкаваньня якраз выгадна адрозьнівалася ад грамадзкай агрономіі сваімі рэальнымі дасягненьнямі, бо мэтодычна паступова вяла справу да поўнай рэорганізацыі гаспадаркі.

---

[1]) *А. М. Міхайлаў.* „Краткий очерк развития агрономической помощи населению в Минской губ. и советской Белоруссии“ 1923 год, стр. 6.

Вайна, а потым і рэволюцыя надоўга спынілі рух разьвіцьця агрономічнай дапамогі і не далі цалкам ажыцьцявіцца занатаванай форме вучастковай організацыі.

Трэці агрономічны зьезд, які адбыўся ў 1922 г. ў Маскве, пры савецкай уладзе, прайшоў таксама пад знакам вырашэньня організацыйных пытаньняў, але з пункту погляду прыстасаваньня агродапамогі да новае савецкае сыстэмы. Як ужо адзначалася вышэй, роля савецкага агронома ў сыстэме соцыялістычнага будаўніцтва была выяўлена вельмі яскрава. Савецкі агроном—гэта ня просты спэцыялісты, тэхнік, а актыўны ўдзельнік у распрацоўцы і ажыцьцяўленьні с.-г. політыкі на вёсцы. З другога боку, III агрономічны зьезд спрабаваў вызначыць і організацыйныя формы агрономічнай організацыі ў савецкай сыстэме, але да адназгоднага вырашэньня гэтага пытаньня ня прышоў. Як усім добра вядома, зьезд падзяліўся на дзьве часткі—большая палова зьезду прызнала вучастковую форму організацыі, „вытрымаўшай экзамін жыцьця", а другая частка (значна меншая) высоўвала новыя організацыйныя формы ў выглядзе раённай спэцыялізаванай агрономіі. У выніку, пасьля доўгіх заўзятых спрэчак, была вынесена компромісная рэзолюцыя, дзе ў першым пункце падкрэсьліваецца, што вучастковая форма агрономічнае організацыі павінна быць прызнана *асноўнай* для далейшай мясцовай агрономічнай работы, а ў далейшых пунктах дазваляецца „паасобным організацыям адпаведна з мясцовымі асаблівасьцямі і за іх адказнасьцю" ўжываць і іншыя організацыйныя формы, але калі яны не парушаюць „асноўныя, найбольш каштоўныя і канечна патрэбныя ўмовы ўсяе мясцовае агрономічнае работы, — а менавіта: а) яе набліжэньня да мясцовай гаспадаркі, як об'екту агрономічнага назіраньня і ўплыву і б) блізкасьць да мясцовага насельніцтва" [1]). Такім парадкам, зьездам была прынята компромісная рэзолюцыя хаця і з выразным націскам на прынцып вучастковай формы. У чым-жа справа такой нявыразнай пастановы. Нам думаецца, што справа ў тым, што сам зьезд быў яшчэ непадрыхтаваны да вырашэньня гэтага пытаньня ва ўмовах савецкае дзяржавы. Для вырашэньня такога кардынальнага організацыйнага пытаньня ня было ніякіх даных.

---

[1]) С резолюции III агрономического с'езда, стр. 55—56.

Аграномічная арганізацыя толькі пачала адраджацца, практыкі пабудовы *савецкае аграноміі яшчэ ня было* і таму ўсе спрэчкі адбываліся на грунце тэорытычных разважаньняў аб рацыяналізацыі прынцыпу спэцыялізацыі агрдапамогі і на ацэнцы унівэрсалізму на прыкладзе земскае аграноміі. Нам думаецца, што гэтых даных для вырашэньня пытаньня мала. Ацэнка вучастковага прынцыпу па практыцы земства для нас не закон, бо тады была зусім іншая сыстэма кіраўніцтва, дый прынцып вучастковай аграноміі, як адзначалася вышэй, ня мог цалкам ажыцьцёвіцца, з другога боку, тэорытычныя разважаньні *„спэца"*, што ня кожны агроном здолен быць „унівэрсальным", спэцыялістым па ўсіх галінах сельскай гаспадаркі, таксама нічога не даюць для вырашэньня арганізацыйнай проблемы, бо гутарка ідзе аб сыстэме агродапамогі, а не аб лячэньні паасобных хвароб.

Такім парадкам, хаця І Ўсесаюзны зьезд аграномаў канчаткова і ня вырашыў пытаньня аб арганізацыйных формах аграноміі, але завострана паставіў гэтую проблему перад мясцовымі арганізацыямі. На мясцох пашло ажыўленае адшуканьне новых форм і практычныя прыстасаваньні да жыцьця мала вядомай, але тэорытычна вабныя формы спэцыялізаванай (раённай) аграноміі.

Так, найбольш актыўная аграномічная арганізацыя УССР на сваім зьезьдзе ўвосень таго-ж 1922 году ўхваліла: 1) „Прымаючы пад увагу востры недахоп аграномічнага пэрсоналу Украіны і адсутнасьць масавай кваліфікацыі і вопыту"..., перабудову аграномічных вучасткаў у больш буйныя па тэрыторыі „раёны-вучасткі, з дасьвечаным кіраўніком на чале". (Ужо ў гэтым першым пункце рэзолюцыі мы бачым рашучае адхіленьне ад занатаванага прынцыпу *набліжэньня* аграномічнае арганізацыі да насельніцтва, далейшыя-ж пункты яшчэ больш выразна гавораць аб іншай устаноўцы погляду на агродапамогу).

Так, у пункце 3-м гаворыцца: „Пры пабудове вучасткаў-раёнаў павінны быць прыняты пад увагу натуральна-гістарычныя і экономічныя асаблівасьці раёну". У гэтым пункце, не называючы пакуль-што рэчаў сваімі імёнамі (вучастак-раён), робіцца пэўная ўстаноўка на спэцыялізацыю агродапамогі, для чаго, як асноўны фактар, павінны быць вылучаны спэцыялізаваныя тэрыторыі...

У наступных пунктах (4 і 5) рэзолюцыі яскрава вызначаецца і структура агрономічнага апарату. Так, у пункце 4-м мы чытаем: „У аснову разьмеркаваньня агропэрсоналу па вучастках-раёнах павінен быць пакладзены прынцып падзелу працы паміж агрономам“.

Пункт 5: „Кожны раён-вучастак павінен мець неабходны лік агротэхнікаў розных спэцыяльнасьцяй... з агрономам-організатарам на чале, пад непасрэдным кіраўніцтвам якога павінна праходзіць работа рэшты агрономічнага пэрсоналу“.

Як відаць з паданых выняткаў з рэзолюцыі па дакладах Манькоўскага К. І. і Алава-Лапскера А. С., украінская агрономічная організацыя, па сутнасьці справы, ухваліла прынцып пабудовы раённае (спэцыялізаванае) агрономічнае організацыі хаця пакуль-што і не называючы рэчаў сваімі імёнамі. Тут яшчэ тэрміны „вучастак“ і „раён“ як-бы роўназначны і ўжываюцца ў розных комбінацыях, або „вучастак-раён“, або „раён-вучастак“.

З другой-жа рэзолюцыі таго самага зьезду, па дакладах С. Е. Любарскага і А. П. Слабосьніцкага „аб організацыі агрономічнага апарату“—у пункце 2-м мы чытаем зусім выразную формулёўку: „Кіраваньне правядзеньнем паказаных (вышэй) мерапрыемстваў ускладаецца *пэрсанальна на раённых агрономаў* і загадчыкаў адпаведных зямельных органаў.

Абагульваючы пастановы агрономічнага зьезду Украіны трэба адзначыць, што організацыйныя формы прапрацаваны вельмі ўважліва. Тэорытычна сыстэма ўкладзена досыць удала. Аднолькава ў натуральна-гістарычных і экономічных умовах раён абслугоўваецца агрономам-організатарам, які адзіны зьяўляецца адказным агентам с.-г. політыкі на вёсцы раёну. Рэшта агрономаў—гэта тэхнікі, спэцы паасобных галін гаспадаркі, на абавязках якіх ляжыць тэхнічнае абслугоўваньне насельніцтва.

Такім парадкам на Украіне з 1922 году дэ-факто замацоўваецца прынцып пабудовы раённае (спэцыялізаванае) агрономіі.

Усе далейшыя зьезды і цыркуляры НКЗУ толькі ўдасканальвалі і прыстасоўвалі гэты прынцып да жыцьця. Аднак, усе намаганьні 6-цігадовага няўхільнага насаджэньня гэтага прынцыпу ў жыцьцё не далі поўных станоўчых вынікаў—





раённы прынцып цалкам не замацаваўся. Запатрабаваньні жыцьця ўносяць свае корэктывы. Па ўласнаму знаёмству з Украінскай агрономічнай організацыяй у час навуковай камандыроўкі ад Беларускай с.-г. акадэміі ў 1926 г., па літаратурных крыніцах і па водгуку агрономаў, што працавалі на Украіне, можна сьцьвярджаць, што прынцып раённае агрономіі і на Украіне яшчэ далёка не замацаваўся цалкам. Прычын гэтаму шмат і калі стала пераглядаць прынцып пабудовы агрономічнае організацыі ў нас на Беларусі вывучэньне практыкі Украіны канечна.

Сярод прычын, якія перашкаджаюць замацаваньню раённага прынцыпу магчыма адзначыць галоўныя з іх.

Па-першае, для раённай агрономіі канечнай прадпасылкай павінна быць раёнаваньне тэрыторыі ў с.-г. адносінах паводле натуральна-гістарычных і экономічных паказьнікаў.

Гэтая задача аказалася надзвычайна цяжкай, нават для ўмоў Украіны. Зробленае ў 1924 годзе раёнаваньне паказала, што тэрыторыя Украіны падзялялася на вельмі няроўнамерныя раёны: побач з раёнам меншым па тэрыторыі аднае быўшае воласьці (агровучастку) выяўляляліся такія раёны, якія абхаплялі па некалькі паветаў. Вядома, што абслугоўваць такія прасторы аднаму чалавеку (райагроному) абсолютна немагчыма. Прышлося вялікія с.-г. раёны падзяляць (умоўна) на падраёны, што ўжо моцна набліжае да вучастковага прынцыпу. З другога боку, прымацаваныя да гэтых раёнаў раённыя агрономы структурна ня былі ўвязаны з існуючымі зямельнымі органамі, дзякуючы таму, што с.-г. раёны або абхаплялі толькі частку адміністрацыйнае адзінкі, або часткова ўваходзілі ў некалькі адміністрацыйных адзінак.

У сувязі з гэтым Украінскай організацыі прышлося пераглядзець гэты асноўны прынцып і ад яго адмовіцца, прывязаўшы спэцыялізаваную агрономію да адміністрацыйных раёнаў. У гэтым сэнсе цяпер паміж раёнамі Украіны і Беларусі няма ніякай прынцыповай розьніцы, бо як там, так і тут у адміністрацыйным раёне могуць (фактычна так і ёсьць) уваходзіць тэрыторыі розных прыродных і гаспадарчых формацый.

Па-другое, прынцыпы дыфэрэнцыяцыі сялянскіх гаспадарак па спэцыялізацыі галін продукцыі як там, так і тут надзвычайна нязначныя. Як вядома, таварнасьць сялянскай

гаспадаркі ў сучасны момант надзвычайна нізкая, забесьпячэньне вёскі промтаварамі слабое і таму кожны селянін імкнецца весьці больш-менш унівэрсальнага тыпу гаспадарку. Ёсьць паасобныя аматары тае ці іншае галіны, але гэта адзінкі, а для абслугоўваньня паасобных аматараў няма сэнсу трымаць дзяржаве вузкіх спэцыялістых. Абслугоўваньне-ж тэхнічных прадпрыемстваў с.-г. коопэрацыі і саўгасаў павінна весьціся вузкімі спэцыялістымі самае коопэрацыі або саўгасаў. Такім парадкам вузкія спэцыялістыя ў сыстэме земорганаў яшчэ не знаходзяць поўнае нагрузкі і самім жыцьцём прымушаюцца займацца агульнай агрономічнай працай па рэорганізацыі гаспадаркі ў цэлым. Нам вядомы выпадкі, калі райзоотэхнікі ды іншыя спэцы займаюцца ацэнкаю зямлі пры зямляўпарадкаваньні або пераводам гаспадарак на шматпольле.

З другога боку, райагроном, адзіны прадстаўнік с.-г. політыкі, ня можа справіцца з працаю па рэорганізацыі гаспадаркі ўсяго надзвычайна вялікага адміністрацыйнага раёну. Адсюль тэндэнцыя або падзелу раёну на падраёны, або фактычнае816 пературэньне на справе вузкіх спэцыялістых у простых памочнікаў агронома унівэрсальнага тыпу.

І той, і другі шлях вядзе да набліжэньня да вучастковага прынцыпу—набліжэньня агродапамогі да насельніцтва. Нельга актыўна ўплываць на рэорганізацыю гаспадаркі ў пажаданым кірунку, калі агроном жыве за дзесяткі кілёмэтраў ад самае гаспадаркі. Адхілены ў 1922 годзе прынцып набліжэньня агродапамогі да насельніцтва з-за *„недахвату агропэрсоналу“*, з памяншэньнем гэтае гострасьці, сам сабою прасякае ў жыцьцё і павінен зьявіцца асноўным падмуркам пабудовы агрономічнае організацыі на бліжэйшае дзесяцігодзьдзе. Сталая праца па рэконструкцыі сялянскай гаспадаркі толькі пачынаецца і таму рэорганізатары гаспадаркі, агенты с.-г. політыкі павінны быць як мага бліжэй прасунуты да мясцовага насельніцтва. Больш вытрыманая з тэорытычнага пункту погляду спэцыялізаваная агрономія будзе шпарка разгортвацца толькі на грунце рэорганізаванай гаспадаркі. Правільна-ж рэорганізаваная з пункту погляду народнай гаспадаркі сельская гаспадарка павінна мець той ці іншы спэцыяльны ўхіл, які ў даных конкрэтных умовах найбольш рацыянальны і рэнтабельны. І вось для тэхнічнага абслугоў-

ваньня выяўленых галін і зьявіцца патрэба ў вузкіх высокакваліфікаваных працаўніках, якія і будуць складаць спэцыяльны пэрсонал адзінай агрономічнай організацыі, але ўтрыманая за сродкі коопэрацыйных і гаспадарчых органаў, а не зямельных устаноў.

Такім парадкам, выходзячы з сутнасьці савецкага агронома, як агент с.-г. політыкі, улічваючы прапрацоўку гэтага пытаньня на агрономічных зьездах і ў практыцы паасобных організацый мы прыходзім да наступнага заключэньня па форме агрономічнае організацыі:

1. Савецкая агрономічная організацыя ўтвараецца для рэорганізацыі сельскае і паасобку сялянскае гаспадаркі на соцыялістычных падставах.

2. Паколькі грамадзкасьць у савецкай сыстэме неадлучальна ад дзяржаўнасьці, пастолькі агрономічная організацыя зьяўляецца дзяржаўным апаратам у сыстэме заморганаў і агроном зьяўляецца непасрэдным выканаўцам с.-г. політыкі на вёсцы.

3. Для пасьпяховага і больш хуткага вырашэньня пастаўленай мэты, агрономічны апарат павінен быць як мага шчыльней увязаны з мясцовым насельніцтвам.

4. Першапачатковай адзінкай агрономічнай організацыі павінен быць агрономічны вучастак, плошча якога вызначаецца на падставе дробнага раёнаваньня адміністрацыйных раёнаў і якую рэальна можа абслугоўваць адзін агрономорганізатар унівэрсальнага тыпу.

Вось асноўныя тэорытычныя прынцыпы, на падставе якіх павінна будавацца савецкая агрономічная організацыя кожнае рэспублікі і краіны Савецкага Саюзу. Што-ж да формы організацыі ў БССР, дык дэталёва яе будзем высьвятляць і ўдасканальваць далей на падставе фактычнага матэрыялу становішча агродапамогі. Нам здаецца, што шлях выўчэньня існуючых форм і розных спроб зьяўляецца найбольш карысным; гэты спосаб, апрача таго, хутчэй прыводзіць да канчатковае мэты.

Тэорытычныя спрэчкі вельмі каштоўны для пастаноўкі і завастрэньня пытаньня, а вырашэньне пытаньня павінна ісьці пасьля экспэрымэнтальнай праверкі розных форм у жыцьці. У пачатку другога дзесяцігодзьдзя савецкага будаўніцтва наогул, і паасобку на падставе ўпартых шуканьняў

сталых форм арганізацыі агродапамогі на працягу 8 год існаваньня беларускае савецкае агрономіі, можна па гэтым пытаньні сказаць канчатковае слова. Будзем спадзявацца, што надыходзячы зьезд агрономаў Беларусі гэтае слова скажа, а савецкая ўлада, урадаваю пастановаю яго занатуе і ажыцьцёвіць.

Што-ж да зьместу і мэтодаў працы савецкай агрономіі, дык гэтыя проблемы мы спадзяемся асьвятліць у спэцыяльных працах на падставе выўчэньня назьбіранага справаздачнага матэрыялу і спэцыяльных дасьледваньняў паасобных раёнаў БССР. Аднак, некаторыя прынцыповыя ўстаноўкі паспрабуем зрабіць і ў гэтай працы, пасьля разгляду матэрыялу рэкогносцыйнага дасьледваньня, якое ў нас ёсьць.

Сталае грунтоўнае выўчэньне агродапамогі зьяўляецца неадкладнай задачай сёнешняга дня. Толькі на грунце навуковага аналізу фактычнага матэрыялу магчыма правільна разгортваць сталую сыстэму агродапамогі. У гэтым-жа кірунку зроблена надзвычайна мала: так, паводле профэсара А. О. Фабрыканта, „граніцы і абхват агрономічнае дапамогі насельніцтву не атрымалі больш-менш акрэсьленага вызначэньня і ў практычнай сапраўднасьці (ня кажучы ўжо аб тэорытычным афармленьні—*М. Л.*). Устанаўленьне іх само па сабе зьяўляецца проблемаю тэорытычнага аналізу. Становішча ў даным выпадку ўскладняецца тым, што грамадзкаагрономічная практыка не зьяўляецца нечым застыглым і раз назаўсёды занатаваным. Наадварот, яна заўсёды знаходзіцца ў стане няўстойлівае роўнавагі, відазьмяняецца ў залежнасьці ад умоў, часу і месца і цэлага шэрагу прыватных прычын і прымае новыя формы“ [1]). Івось выўчэньне аднаго з разьдзелаў дысцыплін агродапамогі, а менавіта „арганізацыйных форм“ і зьяўляецца задачаю нашае работы, на падставе беларускіх матэрыялаў.

---

[1]) *А. О. Фабрыкант.* „Общие основы агропомощи“, стар. 24.

## Каротkі гістарычны нарыс разьвіцьця агрономічнае організацыі ў БССР.

Бясспрэчны факт, што Беларуская агрономічная організацыя зьяўляецца аднэй з маладых організацый у параўнаньні з іншымі часткамі Саюзу Рэспублік. Як вядома, у склад сучаснае БССР уваходзяць часткі так званых „новых земскіх губэрняў“, як Менская, Магілеўская і Віцебская. Абранае земства ў гэтых губэрнях пачало існаваць толькі з 1911 году, а як даводзілася вышэй, росквіт агродапамогі ў Расіі якраз зьвязаны з росквітам дзейнасьці земстваў. Беларускім губэрням у гэтым сэнсе не шанцавала. На сельскую гаспадарку Беларусі, а тым больш на дапамогу сялянскай гаспадарцы, не зваралася аніякае ўвагі. Тагачаснае становішча агродапамогі на Беларусі вельмі добра ахарактарызавана ў наступнай заяве проф. А. Ф. Фортунатава, якую ён зрабіў на І-м агрономічным зьезьдзе ў 1901 годзе: ...„Я дазволіў-бы сабе толькі адзначыць адно пытаньне, якое мучыць мяне... Гэта адшуканьне сродкаў мясцовай агрономічнай дапамозе сельскай гаспадарцы *няземскіх губэрняў Заходняе Расіі.* Страшэнна сказаць, а тымчасам гэта так, што с.-г. патрэбны масы насельніцтва ў Кіеўскай *або Менскай губэрні мы ведаем менш, чым у губэрнях Іркуцкай або Енісейскай“* [1]) (падкрэсьлена мною. *М. Л.*).

Такое становішча было і да II агрономічнага зьезду ў 1911 годзе, г. зн. да канчатку працы земства ў нашых губэрнях.

Гісторыя разьвіцьця агрономічнае дапамогі ў нас на Беларусі досыць уважліва прапрацована ў 2-х працах А. М. Міхай-

---

[1]) *А. Ф. Фортунатов.* „Сборник статей по общественной агрономии“, стр. 86—87.

лава: 1) „Кароткі нарыс разьвіцьця агрономічнай дапамогі насельніцтву ў Менскай губэрні і Савецкай Беларусі", надрукавана Наркамземам Беларусі ў 1923 годзе і 2) „Агрономічная дапамога насельніцтву ў БССР" (пашыранай Беларусі), якая на вялікі жаль і да гэтага часу яшчэ не надрукавана, хаця гатова да друку з 1925 году.

Лічачы, што апошняя праца А. М. Міхайлава надзвычайна каштоўная ўсё-ж будзе выдрукавана, мы ўстрымаемся ад поўнага выкладаньня гісторыі разьвіцьця агродапамогі і толькі падамо кароткі нарыс асноўных этапаў, карыстаючыся данымі А. М. Міхайлава.

Апошні падзяляе ўвесь пэрыод разьвіцьця агродапамогі на 4 пэрыоды:

1. Да ўвядзеньня абранага земства—да 1911 году.

2. З часу абранага земства да пачатку вайны 1914 году.

3. З пачатку вайны і да вызваленьня Беларусі ад польскае окупацыі.

4. Савецкі пэрыод, прычым гэты пэрыод падзяляецца на дзьве часткі—да ўзбуйненьня БССР і пасьля ўзбуйненьня, шляхам далучэньня Магілеўшчыны і Віцебшчыны.

Першы пэрыод характарызуецца амаль поўнай адсутнасьцю і сродкаў і пэрсоналу па абслугоўваньні сельскае гаспадаркі. Так, на мерапрыемствы па сельскай гаспадарцы ў пэрыод 1906—10 г.г. асыгноўвалася „спрошчаным земствам" усяго 0,3—0,7 проц. ад усіх земскіх выдаткаў па Віцебскай губэрні і ня больш 0,6 проц.—на Менскай. Агрономічны пэрсонал нават у 1910 годзе складаўся з 6 агрономаў і 3 інструктароў па Віцебскай губэрні і 23 інструктароў па малочнай гаспадарцы ў Менскай губэрні. Першыя земскія агрономы, па адным на павет (5 чалавек), былі запрошаны ў Менскай губэрні ў 1910 годзе, а губэрскі агроном толькі ў 1911 годзе. Такое-ж становішча было і на Магілеўшчыне, але конкрэтных даных няма.

Праўда, у гэты пэрыод, у сувязі з законам аб сталыпінскім зямляўпарадкаваньні, пачала існаваць урадавая агрономія па абслугоўваньні насельніцтва, што зямляўпарадкавалася, але тэмп разьвіцьця яе ў першыя гады быў таксама нязначны. Другі пэрыод, спачатку работы земства і да пачатку імпэрыялістычнае вайны можна ахарактарызаваць шпаркім росквітам агродапамогі і на Беларусі. II агроно-

мічны зьезд у 1911 годзе зьявіўся пераломным момантам і для Беларускае агрономіі. Гэтаму вельмі спрыяла с.-г. палітыка царскага ўраду, напалоханага павевамі аграрнае рэвалюцыі, асабліва ў нашых пералюдненых губэрнях; таму ён імкнуўся ўсімі мерамі спыніць аграрны рух. Уся сыстэма тагачаснае палітыкі была накіравана на ўтварэньне ў вёсцы „моцнага мужычка", які-б зьяўляўся падмуркам старое ўлады. На зямляўпарадкаваньне насельніцтва сродкаў не шкадавалі і разам з тым пашыралі ды ўзмацнялі штат агрономаў па абслугоўваньні зямляўпарадкаванага (хутарскога) насельніцтва. І трэба адзначыць, што гэтая агрономія працавала ня дрэнна. Агрономы не займаліся канцылярскай пісанінай і балбатнёю, а займаліся выключна гаспадарчым упарадкаваньнем хутаран. Ня „сказам", а „паказам" імкнуліся агрономы агітаваць за новую форму зямлякарыстаньня. Паказальныя дзялянкі з штучным угнаеньнем, з лепшаю апрацоўкаю глебы, з радковым засевам і г. д.; паказальныя палеткі з шматпольным севазваротам, паказальныя сады і гароды, паказальныя двары для жывёл і сядзібы; агнятрывалае будаўніцтва, цэмэнтавыя студні і г. д.—вось асноўныя галіны работы зямляўпарадчае агрономіі.

І хаця з палітычнага пункту погляду гэта агрономія рабіла вялікую шкоду, затрымліваючы рэвалюцыйны рух на вёсцы, але з агрыкультурнага пункту погляду работа іх і асабліва мэтоды работы заслугоўваюць вялікае ўвагі. Савецкай агрономіі, таксама клясавай хоць і процілеглай, шмат можна навучыцца ў зямляўпарадчай агрономіі ў сэнсе мэтодыкі работы. Сьляды іхнае работы і да гэтага часу захаваліся ў выглядзе культурных гаспадарак хутаран, якія і да гэтага часу, як і дасьледчыя ўстановы, сьведчаць аб магчымасьцях дасягненьня іншых гаспадарчых вышынь. Пляны пераходу да шматпольля можна і цяпер знайсьці за бажніцамі сталыпінскіх хутаран, дзякуючы таму, што яны зробены акуратна (у асобных друкарскіх папках) і відавочна давялі селяніну карысьць ад гаспадарчага ўпарадкаваньня. Такія сяляне і да гэтага часу памятуюць імя і прозьвішча таго агронома, які ўводзіў шматпольле, або іншыя палепшаньні.

А чаму такая пашана? Таму, што ўсякія пляны рэарганізацыі гаспадаркі праводзіліся да канца і падмацоўваліся матэрыяльнаю базаю—с.-г. крэдытам. Сталыпінскі агроном

мэтодычна і да канца праводзіў рэарганізацыю гаспадаркі ў кірунку тагачаснае палітыкі. Гэта трэба запомніць і ўзяць пад увагу савецкаму агроному і кіраўнікам зямельных органаў. Нельга раскідвацца на паасобныя дробязі і асабліва захапляцца агродапамогаю, а мэтодычна і рэальна ажыцьцяўляць палітыку па рэарганізацыі гаспадаркі на новых соцыялістычных падставах. А кожнаму матэрыялістаму зразумела, што адным ідэолёгічным перавыхаваньнем сялянскае гаспадаркі не перарабіць—трэба ў падмурку кожнага мерапрыемства мець моцную матэрыяльную базу. Калі комплекс мерапрыемстваў правесьці мэтодычна, то ён забясьпечыць поўнае ажыцьцяўленьне пастаўленае мэты.

Апроч непасрэдна ўрадавых агрономаў і агрономаў па зямляўпарадкаваньні, царскі ўрад імкнуўся ажыцьцяўляць сваю палітыку і праз земскія організацыі. Быў выданы закон, паводле якога міністэрства зямляробства давала датацыю земствам у такім самым памеры, колькі земства вызначала на агродапамогу. Такая пастаноўка справы вельмі дапамагала пашырэньню сеткі земскіх вучастковых агрономаў. Паміж іншым, як сьведчыць адзін з працаўнікоў земскае агрономіі Менскае губэрні, вучастковая агрономія ў Меншчыне толькі таму і нарадзілася, што абвясьціўшы, аб організацыі вучастковае агрономіі, земства атрымала датацыю, і замест аднаго павятовага агронома, падзяліўшы паветы на 2 вучасткі, прызначыла па 2 агрономы ў кожным павеце.

Як-бы там ні было, але гады 1912—1914 далі надзвычайна вялікі рост агрономічнага пэрсоналу па беларускіх губэрнях. Крывую росту колькасьці земскага агропэрсоналу можна характэрызаваць наступнымі лічбамі (паводле даных А. М. Міхайлава):

Па Віцебскай губэрні: 1909 год—3 чал., 1910 год—9 чал., 1911 год—16 чал., 1912 год—50 чал , 1913 год—79 чал. і на першага студзеня 1914 году—98 чал.

Па Меншчыне: 1911 год—5 чал., 1913 год—20 чал., 1914 год—47 чал.

Па Магілеўшчыне: на 1 студзеня 1913 году было 16 чал., а праз год—39 чалавек.

Асабліва ўзмацнілася колькасьць земскіх агрономаў за 1914 год, калі крывая росту дала павялічэньне амаль у 2 разы. Што-ж да ўрадавае агрономіі, дык за гэты пэрыод

яна значна ўзрасла і няўхільна пашыралася. Так, на 1 студзеня 1913 году ўрадавая агрономія складалася з 155 асоб, а на 1 студзеня 1914 году ўзрасла да 218, значна перавышаючы земскую.

Павялічваўся склад аграпрацаўнікоў і коштам грамадзкіх організацый—с.-г. таварыстваў.

З павялічэньнем ліку аграпрацаўнікоў і ў беларускіх губэрнях пачаў ажыцьцяўляцца прынцып вучастковае агрономіі. Так, на 1 студзеня 1914 году ў большасьці паветаў Віцебскае губэрні вучастковая форма занатавалася (там і ўрадавая агрономія замацоўвалася за пэўнымі вучасткамі), а па Меншчыне і Магілеўшчыне гэты прынцып толькі-толькі пачаў ажыцьцяўляцца і адразу-ж спыніўся з пачаткам вайны. Усяго-ж к пачатку імпэрыялістычнае вайны, на 1 студзеня 1914 г. ў нас было: на Віцебшчыне—47 вучастковых агрономаў (разам з урадавымі), па Магілеўшчыне—16 і па Меншчыне—10. Разам 73 асобы. Склад агрономічнае організацыі на 1 студзеня 1913 і 1914 г. г. можна паказаць у наступнай табліцы:

| Дата | Урадавая агрономія | | | | | | Земская агрономія | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Інспэктары с.-г. | Пазямляўпар. | Спэцыял. | Інструктары | С.-г. старасты | Усяго | Губ. агроном | Павят. агроном | Вуч. агроном | Спэцыяліст. | Інструкт. | Усяго | Разам |
| На 1 студз. 1913 г. . | 6 | 38 | 10 | 23 | 78 | 155 | 3 | 20 | 11 | — | 31 | 65 | 220 |
| На 1 студз. 1914 г. . | 6 | 44 | 14 | 46 | 108 | 218 | 3 | 7 | 44 | 1 | 72 | 127 | 345 |

З гэтай табліцы яскрава відаць, што ў складзе мясцовага агропэрсоналу пераважную частку складала ўрадавая агрономія (65,2 проц. на 1/I—1914 г.), прычым сярод апошніх пераважнае месца займае інструктарска-тэхнічны пэрсонал (інструктары па культуры балот і паплаўніцтву, па садоўніцтву і гародніцтву і с.-г. старасты).

Склад агроработнікаў па адукацыі быў пераважна з ніжэйшай с.-г. асьветай. Так, урадавая агрономія па Менскай губэрні складалася на 70 проц. з асоб з ніжэйшай адукацыяй, 12 проц.—з сярэдняй і 18 проц.—з вышэйшай. Што-ж да земскае вучастковае організацыі, дык яна адзначалася вышэй,

яна толькі пачала організоўвацца. Зразумелая рэч, што аб набліжэньні агродапамогі да насельніцтва за гэтыя гады цяжка гаварыць. Для ілюстраваньня сказанага і для далейшых параўнаньняў са ступеньню насычанасьці агродапамогаю насельніцтву ў сучасны момант падаем цалкам вынятак з працы А. М. Міхайлава. Так у пачатку свае працы ён кажа:

„Для ілюстраваньня памераў агрономічных вучасткаў падаем даныя па Віцебскай губэрні з найбольш разьвітаю сеткаю агровучасткаў за 1913 год. Тут па 6 паветах сярэдняя плошча вучастку хісталася ад 80 да 90 тысяч дзесяцін; у трох паветах ад 90 да 100 тысяч дзесяцін; у 2-х ад 50 да 70 тысяч дзесяцін. Сярэдняя колькасьць сялянскіх гаспадарак на вучастак хісталася ў 3-х паветах ад 2.200 да 3.000, у 4-х паветах ад 3.000 да 4.000, у 4-х ад 4.000 да 5.000 гаспадарак. Радыус агрономічных вучасткаў хістаўся ад 20 да 40 вёрст. У Менскай-жа і Магілеўскай губэрнях земскі агрономічны вучастак быў куды буйнейшы, напрыклад, па Менскай губэрні ён быў ад 230 тысяч да 700 тысяч дзесяцін і вышэй". Як убачым далей з фактычнага матэрыялу сучаснага становішча агродапамогі, тут і ня можа быць нават параўнаньня.

Усе паданыя вышэй лічбы яскрава сьведчаць і аб тым, што непасрэдная агродапамога насельніцтву (апроч зямляўпарадчай) толькі-толькі пачыналася і што вучастковая форма агрономічнае організацыі амаль зусім ня мае каранёў у даваеннай організацыі. Гэта дае права лічыць, што наша савецкая агрономія ня мае каранёў у мінулым, а значыць, ня мае моцных традыцый земскае агрономіі, якія ў РСФСР вельмі перашкаджаюць крышталізацыі савецкай агрономіі.

Галоўны кірунак работы тагачаснай агрономіі—гэта агропропаганда, паказальныя мерапрыемствы (галоўным чынам, зямляўпарадчая агрономія), організацыя с.-г. складаў, пунктаў для ачышчэньня насеньня, пракатных ды злучных і дапамога разьвіцьцю с.-г. коопэрацыі, с.-г. таварыстваў і зямляробскіх гурткоў.

Трэці пэрыод у жыцьці беларускае агрономічнае організацыі, а менавіта: гады імпэрыялістычнае вайны і першыя гады рэволюцыі, а потым окупацыі, зьяўляецца пэрыодам ня росту, а ліквідацыі агродапамогі на Беларусі. Беларускія губэрні зьяўляліся або тэрыторыяй непасрэдных ваенных боек, або прыфронтоваю паласою, таму ў гэты пэрыод ня-

можна было нават і думаць аб аграномічнай рабоце. Аграномічная організацыя паступова ліквідавалася, агрыкультурныя ўстановы эвакуаваліся, аграработнікі забіраліся на вайсковую службу. Той, хто так ці іначай аставаўся на пасадзе агронома, займаўся забесьпячэньнем арміі спажывецкімі продуктамі і фуражом або абслугоўваў гаспадаркі армейцаў.

Досыць адзначыць, што да Лютаўскае рэволюцыі на тэрыторыі Менскай губэрні зусім не асталося аграномічнае організацыі. Што-ж да Магілеўскае і Віцебскае губэрні, дык там хоць організацыя і захавалася, але шырока-арганізаванае працы ня было. Такім парадкам, аграномічная організацыя Беларусі, што нарадзілася пад напорам аграрнае рэволюцыі, памерла разам з усёй сыстэмаю буржуазнага ладу. Маладой расійскай буржуазіі, разам з іх агентамі с.-г. політыкі, не ўдалося спыніць рэволюцыйнага руху рабочых і сялян, і пасьля крывавых баёў прышлося ўступіць месца новай соцыяльнай сыстэме. Організаваная воля рабочых і сялян пачала пановаму, зусім на новых соцыяльных падставах будаваць сваё жыцьцё.

Пасьля сканчэньня грамадзянскага змаганьня замацаваная рабоча-сялянская ўлада з усім рэволюцыйным энтузіязмам узялася за адбудову разбуранае за час вайны і рэволюцыі народнае гаспадаркі, у тым ліку і сельскай гаспадаркі. Трэ' было як мага адрадзіць сельскую гаспадарку. Існаваўшая у той час у Расіі політыка „ваеннага комунізму“ лічыла мажлівым усёй сілай дзяржаўнае ўлады прымусова рэорганізаваць сельскую гаспадарку. Пачалася організацыя засеўных камітэтаў, на абавязках якіх павінна было быць рэгуляваньне сельскае гаспадаркі да гаспадаркі селяніна ўключна. Аднак, гэты пэрыод прымусовага рэгуляваньня ў значнай ступені абмінуў Беларусь, дзякуючы барацьбе беларускіх працоўных з панскай Польшчай. Беларусь з грамадзянскае вайны вышла прыблізна к моманту абвяшчэньня ў Расіі новае экономічнае політыкі, і таму пачатак організацыі беларускае савецкае агрономіі адносіцца к пэрыоду пачатку плянавай дапамогі разьвіцьцю сельскае гаспадаркі. Выходзячы з гэтага прынцыпу, аграномічная организацыя Беларусі амаль адразу-ж пачала будавацца, як прыбліжаная да насельніцтва ў выглядзе вучастковае агрономіі, ня лічачы 1921 году, калі ўсе агрономы прымацоўваліся толькі да саўгасаў і іх абслугоўвалі.

Уся тэрыторыя тагачаснае Савецкае Беларусі (6 паветаў былое Менскае губ.) была падзелена на 36 вучасткаў, якія і павінны былі абслугоўвацца вучастковымі агрономамі. Аднак, адсутнасьць кваліфікаваных работнікаў, дрэнныя матэрыяльныя ўмовы працы, труднасьць прыезду ў БССР, як прыфронтавую паласу, работнікаў з цэнтральнае Расіі,—усё гэта ня спрыяла нават колькаснаму росту, і толькі з канца 1921 г., пасьля другой агранамічнай нарады пры НКЗБ, пачаўся большы прыцёк аграработнікаў на Беларусь.

3-я агрономічная нарада пры НКЗБ (14—16 лютага 1922 г.) распрацавала і ўхваліла проект „Палажэньня аб арганізацыі аградапамогі насельніцтву ў БССР“ у форме вучастковае агрономіі і з гэтага часу трэба лічыць сталае разгортваньне агросеткі, няўзбуйненай Беларусі. Ужо з вясны 1922 году пачалася організацыя і абсталяваньне агропунктаў у 20 узбуйненых агровучастках. Агрономічны пэрсонал агровучасткаў быў вызначаны з 4 асоб—вучастковага агронома і 3-х тэхнікаў па сельскай гаспадарцы.

Варты ўвагі адзін гістарычны факт у жыцьці беларускае агрономіі—гэта організаваная практыка студэнтаў-беларусаў Цімразеўскае с.-г. акадэміі, якая адбылася на тэрыторыі няўзбуйненае БССР улетку 1922 году. Як вядома, тагачасная БССР ня мела свае вышэйшае с.-г. школы, і таму сыны рабочых і сялян Беларусі здабывалі вышэйшую асьвету ў вузах РСФСР. У аднэй Цімразеўскай с.-г. акадэміі ў 1922 г. навучалася каля 300 выхадцаў з Беларусі. Абуджаная Кастрычнікавай рэволюцыяй нацыянальная самасьвядомасьць штурхнула студэнцтва раней прыгнечаных нацый да згуртаваньня з мэтаю падрыхтоўкі да культурна-нацыянальнага адраджэньня. Організаваная ў 1920 годзе Беларуская культурна-навуковая асоцыяцыя студэнтаў Цімразеўскае (у той час Пятроўскае) с.-г. акадэміі сваёй асноўнай мэтай паставіла падрыхтоўку спэцыялістых для культурна-экономічнага адраджэньня разбуранае за час вайны бацькаўшчыны. Для таго-ж, каб у час навучаньня не адрывацца ад мясцовай сапраўднасьці, а, наадварот, на грунце выўчэньня сучаснага становішча і запатрабаваньняў сельскай гаспадаркі Беларусі вучыцца, каб потым больш дакладна задавальняць гэтыя запатрабаваньні, БК-Н асоцыяцыя лічыла, як сыстэму падрыхтоўкі, вытворчую практыку студэнтаў-беларусаў на

Беларусі. вось узімку 1921—22 году праўленьне асоцыяцыі падпісала ўмову з Наркамземам БССР на 3-месячную практыку 60 студэнтаў Беларусі. І трэба адзначыць, што НКЗБ, ня гледзячы на невялікую тэрыторыю БССР (усяго 6 паветаў б. Менскае губэрні), на абмежаванасьць сродкаў па бюджэту, правільна аценіў патрэбу ў падрыхтоўцы мясцовых спэцыялістых, і такую ўмову падпісаў. І вось у чэрвені 1922 году на тэрыторыю БССР прыехала організаваная група студэнцтва ў ліку 72 асоб[1]), якія і былі разьмешчаны па саўгасах і агропунктах 6 паветаў Меншчыны. Уся практыка праводзілася пад кіраўніцтвам спэцыяльна ўтворанай камісіі асоцыяцыі па ўзгадненьні з кіраўніцтвам сельскае гаспадаркі НКЗБ[2]). Гэты організаваны паход беларускага студэнцтва ў родную вёску зрабіў надзвычайна вялікі ўздым у савецка-грамадзкіх колах і падняў настрой ды энэргію ў мясцовых аграработнікаў. Гэта практыка была моцным штурхачом у разьвіцьці і дасьледчай працы. Выдзеленая найбольш актыўная група практыкантаў у ліку 8 асоб для працы па організацыі агрономічнай станцыі зьявілася тэй інтэлектуальнай сілай, якая пад кіраўніцтвам вядомага дасьледчыка проф. С. В. Скандракова шпаркімі крокамі пачала разгортваць дзейнасьць першай у БССР дасьледчай станцыі на мінэральных глебах. Адкрытая ўвосень таго-ж году с.-г. выстаўка ў Банцэраўшчызьне прыцягнула вялікую ўвагу ня толькі ўсіх практыкантаў, якія цалкам прысутнічаюць, але і ўсіх працаўнікоў НКЗБ ваколічных аграўчасткаў і ўсяго вакольнага сялянства. З гэтага часу дасьледчая станцыя ў Банцэраўшчызьне пачала шпарка разгортваць сваю дзейнасьць, пакуль пад уплывам інтрыг паасобных работнікаў Менскага с.-г. інстытуту ня была зьліквідавана. Гісторыя не даруе гэтага факту інтрыганам, і Рабоча-Сялянская Інспэкцыя, якая зацікавілася фактам пераводу станцыі з Банцэраўшызны на перагноеныя гарадзкія глебы „Пярэспы“, бязумоўна знойдзе вінаватых і прыцягне да адказнасьці. Для падмацаваньня высунутых палажэньняў падаем вытрымкі з савецкіх газэт,

---

[1]) Умова была падпісана з асоцыяцыяй на 60 чал., а потым дадаткова яшчэ на 12 чалавек.

[2]) У склад камісіі ўваходзілі: П. П. Рогава (старшыня камісіі), М. З. Лайкоў (член праўленьня асоцыяцыі, упоўнаважаны па правядзеньні практыкі), Карняеўскі П. А., Хоцкі, Ярмоленка В.

як савецкая грамадзкасьць таго часу разглядала організаваную практыку студэнтаў-беларусаў.

Вытрымкі з артыкулу „Да пабачэньня“.

Вытрымка з „Савецкай Беларусі“ (№ 217 за 1 кастрычніка 1922 году):

„...яшчэ, быць можа, ранавата падагульваць іх (студэнтаў) работу за мінулыя тры месяцы, але адно можна сказаць напэўна: Наркамзем Беларусі добра зрабіў, запрасіўшы вясною студэнтаў-пятроўцаў для практыкі ў сваіх савецкіх гаспадарках, зямельных аддзелах і дасьледчых станцыях... З кіпучай энэргіяй і маладым задорам *гэтыя будучыя агрономы ўскалыхнулі сонную падчас глухмень*“.

„Але асабліва важную спадчыну пакінулі нам пятроўцы на Банцэраўскай дасьледчай станцыі. Іх рукамі, іх працаю і парывам там быў заснаваны с.-г. музэй, адчынены 27 верасьня. Ён створаны, можна сказаць, з нічога“.

„Ужо і цяпер гэты музэй карысна абглядаць ня толькі кожнаму селяніну, але і кожнаму агроному і грамадзкаму працаўніку“.

„Быўшыя тут на практыцы студэнты-пятроўцы—гэта не ранейшыя *студэнты-панічы, а нашы студэнты*, студэнты рабоча-сялянскае краіны. Гэта ўсе сыны беларускага сялянства, якія спадзяюцца папрацаваць у нас і ў будучыні“.

„Праводзячы іх у Маскву, мы пачуваем, што расстаемся з імі не назаўсёды. Мы пачуваем, што мы моцна зьвязаны з імі, што мы яшчэ сустрэнемся з імі, каб весьці далей распачатую працу па адраджэньні сельскае гаспадаркі Беларусі. Да пабачэньня, таварышы-практыканты! Да пабачэньня на будучую вясну!“

У другім артыкуле „Ажываючыя пяскі“ („Савецкая Беларусь“ № 217 і № 224), у разьдзеле „Пятроўцы і іх роля“, мы мы чытаем: „...Бяз моладзі, бяз студэнтаў-пятроўцаў, бяз іх парыўчасьці і энэргіі музэй усё роўна было-б цяжка стварыць. Як-бы там ні было, а музэй створаны і створаны блізка з нічога“.

Не выпадкова было падкрэсьлена значэньне музэю, бо да таго часу Беларусь ня мела ніякага музэю, і Банцэраўскі музэй паклаў пачатак стварэньня с.-г. музэю Беларусі. Зусім правільна было адзначана, што „самым цікавым у музэі зьяўляецца так званы „аддзел дапасаваньня“, у якім яскрава

выяўлены тыповыя сялянскія гаспадаркі некалькіх вёсак. Іх севазварот, іх культура—як на далоні". (Там-жа).

Апроч уздыму тагачаснае грамадзкасьці, практыка студэнтаў зьвязала апошніх з Беларусьсю ня толькі маральнымі, але і матэрыяльнымі ніткамі, у выніку чаго мы ў сучасны момант маем значны лік работнікаў на адказных пасадах Беларусі. Каля 50 проц. складу асоцыяцыі першага году яе існаваньня так ці іначай зьвязаны з Беларусьсю. Апроч мясцовага, беларускага значэньня, практыка студэнтаў-беларусаў у 1922 годзе набывае значэньне ўсесаюзнае. Трэба адзначыць, што гэта была першая спроба вытворчае практыкі для студэнцтва с.-г. вузаў. Дзякуючы ўдаламу правядзеньню ідэя гэта пачала пераймацца іншымі зямляцтвамі розных вузаў, а ў сучасны момант Галоўпрофасьветаю лічыцца абавязковай, як сыстэма падрыхтоўкі спэцыялістых.

Мы знарок падрабязна спыніліся на гэтай гістарычнай зьяве з тае прычыны, што гэты факт творчасьці абуджанае рэволюцыяй нацыянальнасьці адыграў значную ролю ў разьвіцьці агродапамогі ў БССР, а тымчасам нідзе ён не занатаваны ў спэцыяльнай літаратуры. Гадавая справаздача асоцыяцыі за 1921—22 год дзейнасьці з падрабязнай справаздачай аб праведзенай практыцы і да гэтага часу не надрукавана (хаця грошы друкарні аплочаны) і чакае свайго зьяўленьня ў сьвет.

Пераходзячы да колькаснае характарыстыкі разьвіцьця агродапамогі на Беларусі за першыя гады існаваньня савецкай улады, адзначым, што з першых-жа гадоў плянавага будаўніцтва яна пачала разгортвацца шпаркімі крокамі. Так, на 1 чэрвеня 1923 году, паводле даных А. М. Міхайлава, па БССР (6 паветаў б. Менскае губэрні) мы маем 103 агрономы з якіх 8 асоб у апараце НКЗБ і 95 на паветах і вучастках. Праўда, замяшчэньне пасад адбывалася „неадсартаваным насельнем", з тых, хто быў пад рукамі і не знаходзіў больш выгодных пасад, але ў колькасных адносінах мы да 1923 году перасягнулі даваенныя часы. Асоб з вышэйшай с.-г. асьветай было толькі 9 проц., з сярэдняй—38 проц., з ніжэйшай—51 проц. і 2 проц. нават з хатняй адукацыяй (практыкі).

Што-ж да Магілеўшчыны і Віцебшчыны, у тых частках, якія ў 1924 годзе далучаны да БССР, дык тэмп разьвіцьця агродапамогі за першыя гады рэволюцыі быў значна слабейшы. Наркамзем РСФСР мала зьвяртаў увагі на акраін-

ныя губэрні. Досыць азначыць, што яшчэ ў 1923-24 г. заработная плата вучастковага агронома Віцебшчыны ў некаторых паветах не перавышала 10 руб. у месяц і амаль ніякіх асыгнаваньняў па каштарысу на агродапамогу. Толькі з далучэньнем гэтых паветаў да БССР пачала плянава разгортвацца агрономічная сетка.

Для ілюстраваньня разьвіцьця агрономічнае сеткі ў частках Беларусі ў момант узбуйненьня БССР (на 1-IV—1924 г.) падаю наступную табліцу з працы А. М. Міхайлава:

| У якіх частках | Павятовы агропэрсонал | | Вучастковы | | Разам | На 1 аграраработ. прыпадае | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Павятовы агрон. | Спэцыял. | Вуч. агр. | Памочн. і тэхн. | | Вясковага насельніцтва | Дзесяцін засеву |
| Меншчына (6 паветаў) . | 6 | 13 | 33 | 51 | 103 | 13082 | 7115 |
| Віцебшчына (4 паветы) . | 4 | 2 | 35 | 3 | 44 | 21385 | 8778 |
| Гомельшчына (3 паветы). | 3 | 8 | 38 | 5 | 54 | 17677 | 10946 |
| Смаленшчына (2 паветы) | 2 | 2 | 7 | 1 | 12 | 17500 | 6088 |
| | 15 | 25 | 113 | 60 | 213 | 16211 | 8377 |

З гэтае табліцы яскрава відаць, што да моманту ўзбуйненьня БССР па Меншчыне мы мелі значна разгорнутую агрономічную сетку. Гэтым заканчваецца першы этап савецкага будаўніцтва агродапамогі на Беларусі—зьбіраньне агрономічных сіл. З моманту-ж узбуйненьня БССР пачынаецца другі этап організацыйнага афармленьня агрономічнае організацыі.

З далучэньнем новых тэрыторый савецкая ўлада Беларусі зрабіла адміністрацыйна-гаспадарчае раёнаваньне. Уся тэрыторыя БССР была падзелена на 10 акруг, якія ў сваю чаргу былі падзелены на раёны—100 раёнаў. Агрономічная організацыя, як вучастковая, што склалася да таго часу, была прыстасавана да новых адміністрацыйных адзінак—раёнаў і атрымала назву—раённай агрономіі. Гэты факт зрабіў надзвычайна вялікую блытаніну ў паняцьці агродапамогі на Беларусі. Шмат агрономаў пачалі называцца раённымі агрономамі і паводле гэтага прынцыпу (неспэцыялізаванае агрономіі) пачалі будаваць апарат вучастку (раёну). Запатрабавалася нават спэцыяльная пастанова зьезду зямельных

працаўнікоў (1924 году) аб тым, што асноўнай формай пабудовы агрономічнай організацыі зьяўляецца „вучастковая агрономія“. Гэта-ж падкрэсьлена і ў справаздачы за 1924-25 г., дзе сказана: „Тэрыторыяльнай адзінкай абслугоўваньня агросеткі ў справаздачным годзе, як і ў папярэднія гады, зьяўляўся *агрономічны вучастак*, супадаючы з межамі і тэрыторыяй аднэй узбуйненай воласьці (раёну)“.

З формальнага пункту погляду ўсё стаіць добра—беларуская агрономічная організацыя засталася вернай прынцыпам I Ўсесаюзнага зьезду, як вучастковая організацыя, а ў жыцьці пашло нешта іншае. Ужо летам 1925 году пры складаньні першага пэрспэктыўнага пляну разьвіцьця сельскае гаспадаркі ў нетрах НКЗ паўсталі спрэчкі—у якіх формах будаваць агрономічную організацыю. Частка абараняла вучастковы прынцып, а частка лічыла мажлівым, па прыкладу Украіны, у межах адміністрацыйных раёнаў будаваць спэцыялізаваную агрономію.

І хаця думкі падзяліліся і пэрспэктыўны плян укладзены быў компромісна, але кірунак беларускае організацыі А. М. Міхайлаў у сваёй, ненадрукаванай яшчэ, працы бярэ зусім выразную ўстаноўку на раённую агрономію. Тымчасам жыцьцё вымагае нечага іншага. Так, яшчэ ў 1924-25 годзе была спроба падзелу адміністрацыйнага раёну на два самастойных вучасткі ў Шклоўскім раёне Магілеўскае акругі, і вынікі працы былі больш эфэктыўныя, чым у іншых раёнах. У 1925-26 г. такі падзел быў зроблены ў Бялынецкім раёне тэй-жа акругі. У гэтым-жа годзе пачалі дзяліць раёны на вучасткі ўся Мазырская і часткова Барысаўская акругі, а ўжо ў 1926-27 годзе гэты процэс драбленьня раёнаў абхапіў значную частку БССР. Усё гэта сьведчыць аб тым, што з павялічэньнем колькасьці агропэрсаналу пачаліся ўпартыя шуканьні больш лепшых організацыйных форм, што прымушае нас больш уважліва вывучыць гэтае пытаньне, аналізуючы ўсю назьбіраную практыку ў даным кірунку і пасьля колектыўнае праппрацоўкі на агрономічным зьезьдзе ўзяць цьвёрды кірунак у будаваньні сеткі агрономічнае організацыі. Такім парадкам, пачатак другога этапу разьвіцьця агродапамогі ў БССР у пэрыод савецкага будаўніцтва характарызуецца прыстасаваньнем вучастковае формы агродапамогі да адміністрацыйных раёнаў. І хаця адміністрацыйных раёнаў было зроблена

ў 2 разы больш, чым было агравучасткаў на гэтай тэрыторыі да вайны (100 раёнаў, дзе было 50 агравучасткаў), і хаця на кожны раён у 1924-25 годзе прызначалася два агрономы, а ў 1925-26 годзе—тры асобы, аднак, тэрыторыя агравучасткаў была настолькі вялікая, што ня было магчымасьці іх абслугоўваць. Калі-ж прыняць пад увагу павялічаныя запатрабаваньні насельніцтва, абуджанага рэволюцыяй, да аградапамогі, каб адрадзіць разбураную за час вайны гаспадарку, дык стане зусім зразумелым, што агропэрсонал раскідаўся па ўсім вялікім раёне для абслугоўваньня бягучых патрэб сёнешняга дня, а рэальнай работай па рэорганізацыі гаспадаркі ня меў часу займацца. Адсутнасьць-жа выстарчальных сродкаў перасуваньня яшчэ больш адрывала агронома ад непасрэднае агрономічнае работы і прымушала больш сядзець у канцылярыях РВК або траціць марна час на перасуваньне па спосабу „апостольского хождения“. Усе гэтыя прычыны прымушалі мясцовых аграработнікаў упарта ставіць пытаньне аб далейшым набліжэньні аградапамогі насельніцтву, аб падзеле раёнаў на агравучасткі. Дзякуючы-ж шырокай дэцэнтралізацыі агрономічнае організацыі, гэты прынцып пачаў шпарка ажыцьцяўляцца ў некаторых акругах Беларус супроць жаданьняў працаўнікоў НКЗБ.

Каб паказаць законамернасьць такое зьявы, падаем з працы А. М. Міхайлава табліцу, якая характарызуе велічыню агравучастку (раёну) Беларусі за 1925 год.

| Назва акруг | Лік агравучасткаў | Сярэднія даныя па агравучастках (раёнах) | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Радыус у кілёмэт. | Плошча ў кв. клм. | Засеўная плошча ў гектар. | Лік сельсаветаў | Лік пасе-лішч | Лік с.-г. насельніцтва | Лік сялянскіх гаспадарак |
| Менская . . . | 11 | 17 | 1004 | 30624 | 11 | 310 | 32709 | 6181 |
| Барысаўская . . | 9 | 19 | 1330 | 28289 | 12 | 304 | 37004 | 6674 |
| Слуцкая . . . | 7 | 19 | 1155 | 32381 | 13 | 224 | 36960 | 7228 |
| Бабруйская . . | 12 | 19 | 1188 | 25630 | 12 | 168 | 35032 | 6511 |
| Мазырская. . . | 10 | 21 | 1566 | 18069 | 12 | 151 | 29135 | 5388 |
| Аршанская . . | 10 | 16 | 787 | 26206 | 11 | 187 | 35269 | 6576 |
| Магілеўская . . | 10 | 19 | 1160 | 33599 | 16 | 157 | 47092 | 8303 |
| Калінінская . . | 10 | 16 | 858 | 25631 | 12 | 136 | 35937 | 6505 |
| Віцебская . . . | 12 | 17 | 948 | 27666 | 11 | 468 | 38194 | 7193 |
| Полацкая . . . | 9 | 18 | 1003 | 25012 | 11 | 519 | 32194 | 6200 |
| Па БССР . | 100 | 19 | 1099 | 27173 | 12 | 263 | 35943 | 6688 |

Нам здаецца, што тлумачэньні да гэтае табліцы не патрэбны—лічбы гавораць самі за сябе. Абслужыць 36.000 насельніцтва, згуртаванага амаль у 7 тысячах гаспадарак, якія раскіданы больш чым на 1000 квадратовых кілёмэтрах, з радыусам 20—22 кілёмэтраў, рэч зусім немагчымая, хоць-бы і для трох агрономаў, якія жывуць у адным адміністрацыйным цэнтры.

З афармленьнем агрономічнае організацыі склад агропэрсоналу Беларусі кожны год паступова павялічваўся. Так, на 1/І—26 году мы маем: вучастковых агрономаў—91 (па штату прадугледжана 100), памочнікаў—167 (па штату 200), тэхнікаў па жывёлагадоўлі 13 (30), тэхнікаў па пчалярству—4 (8), тэхнікаў па ільнярству—2 (10), контроль-асыстэнтаў—4 (па штату 10),—разам 281 (па штату прызначалася 358).

Такім парадкам, за два гады другога этапу разьвіцьця савецкае агрономіі склад нізавой агросеткі павялічыўся на 62,4 проц. Таксама павялічыўся і склад агропэрсоналу НКЗБ і акруговых апаратаў: на 1/І—26 году мы маем у НКЗБ—12 чалавек (па штату прадугледжвалася 13), акруговых агрономаў 10, памочнікаў акруговых агрономаў 7 (10) спэцыялістых па жывёлагадоўлі 11, акруговых садаводаў 9 (10). Разам 49 (па штату меркавалася 54). Усяго-ж агропэрсоналу Беларусі на 1/І—26 году было 330 чалавек (па штатах прызначалася 412), апроч спэцыяльнага пэрсоналу па культуры балот ды сенажацяй, які знаходзіцца ў сыстэме кіраўмэліозему, працаўнікоў па дасьледчай справе, якія маюць сваю організацыю, працаўнікоў па с.-г. асьвеце, спэцыялістых саўгасаў і г. д.

Такім парадкам, на 1/І—26 году мы па лініі непасрэднага абслугоўваньня вясковага насельніцтва значна перавысілі лічбу агропэрсоналу даваеннага часу і амаль зраўняліся з агульнаю лічбаю ўсіх катэгорый (402 чал. ў 1914 годзе), а калі быў-бы запоўнены ўвесь штат, дык і перасягнулі-б яе.

Пастаўленыя ў дужках лічбы сьведчаць аб тым, што штатныя адзінкі ня ўсе запоўніліся. Прычын гэтаму шмат, з якіх пераважнае месца займае нізкая заработная плата, чаму высокакваліфікаваныя маладыя спэцыялістыя, якіх рыхтуе Беларуская сельска-гаспадарчая акадэмія, ня ідуць працаваць на вёску, ня гледзячы на вялікія запатрабаваньні сялянства і штатныя мажлівасьці зямельных органаў.

Тым ня менш, якасны склад агропрацаўнікоў значна палепшыўся. Так, на 1/X—25 году мы маем 16,0 проц. асоб з вышэйшай адукацыяй, 51,7 проц.—з сярэдняй і толькі 32,3 проц.—з ніжэйшай. Бязумоўна і такія суадносіны (значна лепшыя ў параўнаньні з 1924 годам) не маглі задаволіць НКЗБ, таму з 1925 году распачынаецца праца па падвышэньні кваліфікацыі мясцовага агропэрсоналу, шляхам прапусканьня агрономаў праз 2—3-месячныя курсы пры Беларускай с.-г. акадэміі. Курсы гэтыя сыстэматычна адбываюцца вось ужо 4 гады, і, бязумоўна, шмат зрабілі ў сэнсе падвышэньня кваліфікацыі мясцовых агрономаў.

Разам з колькасным ростам агрономічнае організацыі павялічаецца і матэрыяльная база агрodaпамогі. Так, па каштарысу 1925/1926 г. на агродапамогу насельніцтву (апроч дасьледчае справы) было вызначана 9,5 проц. усіх выдаткаў па сельскай гаспадарцы. Удзельная вага агродапамогі гэтага пэрыоду ў 16 разоў перавышае ўдзельную вагу выдаткаў земства Менскай губэрні за 1914 год на агродапамогу, але-ж і гэтага, відавочна, мала. Аналізуючы кірунак выдаткаў, мы заўважаем, што, напрыклад, у 1924-25 годзе каля 51 проц. пашло на заработную плату, менш 50 проц. на мерапрыемствы, тымчасам, як нормальным трэба лічыць, каб заработная плата агропэрсоналу складала ня больш 25 проц. усіх сродкаў на агродапамогу. Нельга савецкага агронома разглядаць, як „грамафон“ (так называлі сяляне ў старыя часы), які сілаю лёгікі і пэўных слоў здолее пераорганізаваць гаспадарку. Пара агульных разважаньняў ды агропропаганды даўно кончылася, і агронома трэба зрабіць рэальным дзеячом па рэорганізацыі гаспадаркі шляхам ажыцьцяўленьня комплексу мерапрыемстваў, якія патрабуюць значных сродкаў.

Будзем спадзявацца, што грунтоўна пастаўленая проблема падвышэньня ўраджайнасьці зробіць рашучы пералом у бок падвядзеньня моцнае матэрыяльнае базы, для дасягненьня пастаўленае мэты.

Цяпер пераходзім да сучаснага становішча агродапамогі на Беларусі пад пунктам погляду пастаўленае намі проблемы выяўленьня організацыйных форм ды зьместу працы беларускае агрономіі і на падставе фактычнага матэрыялу, сабранага ад 39 аграўчасткаў па нашай програме.

## Да гісторыі разьвіцьця дасьледчае працы ў галіне агрodaпамогі і характарыстыка сабранага матэрыялу.

Перш чым перайсьці да выкладаньня вынікаў дасьледваньня, трэба высьветліць якасьць сабранага матэрыялу. Паколькі-ж работа па вывучэньні агродапамогі толькі пачынаецца, пастолькі варта адзначыць і гісторыю пастаноўкі гэтае работы і мэтодыку дасьледваньня.

Як кожнаму вядома, агродапамозе ў гэтым сэнсе не шанцуе. Больш таго, шмат хто проста ня лічаць агродапамогу асобнай дысцыплінай. Праўда, пасьля навуковага аформленьня гэтае дысцыпліны проф. А. О. Фабрыкантам спрэчкі па сутнасьці ўжо ня так часта ўзьнімаюцца, але-ж фактычна да гэтага часу ва ўсім Саюзе рэспублік мы ня маем навуковага цэнтру па вывучэньні агродапамогі. Парадоксальна, але-ж факт, што агрономічная організацыя ў савецкіх умовах надзвычайна шпарка пашыраецца, а чым займаецца гэта організацыя, ніхто ня цікавіцца. Існуючыя пры с.-г. вузах катэдры агродапамогі саматужным парадкам імкнуцца наладзіць дасьледчую працу, але зямельныя органы і дасьледчыя ўстановы на гэты від дасьледчае працы не звaрачаюць аніякае ўвагі і ня ідуць на падтрыманьне катэдр ні моральна, ні матэрыяльна. Да гэтага часу мы ня маем ніводнае навуковае экспэдыцыі па вывучэньні агродапамогі, за выключэньнем экспэдыцыі проф. А. Н. Чалінцава па вывучэньні эфэктыўнасьці капітальных укладаньняў у сельскую гаспадарку. І хаця капітальныя ўкладаньні прасуваюцца ў сельскую гаспадарку шляхам ажыцьцяўленьня розных мерапрыемстваў агрономічнай організацыі, аднак, як бачым, гэтую экспэдыцыю праводзяць „чыстыя“ экономістыя, бяз удзелу навуковых працаўнікоў грамадзкае агрономіі. Зразумелая

рэч, што і вынікі будуць мець чыста экономічны характар і сама роля агродапамогі застанецца з боку.

Што-ж да БССР, дык да 1925 году тут таксама не існавала асяродку па вывучэньні агродапамогі. Толькі дзякуючы адчыненьню Беларускай сельска-гаспадарчай акадэміі ў Горках, на базе аб'яднаньня двух с.-г. вузаў—Горацкага і Менскага, зьявілася мажлівасьць адчыніць катэдру агродапамогі ў складзе двух працаўнікоў—проф. І. І. Перасьвет-Солтана і асыстэнта М. З. Лайкова. Аднак, першы год працы катэдры быў чыста організацыйным, па афармленьні і абсталяваньні самое катэдры, і толькі на другі год катэдра распачала рэкогносцыйнае дасьледваньне становішча агродапамогі на Беларусі. Аўтарам гэтых радкоў была ўкладзена програма-анкета „па выяўленьні форм агрономічнае організацыі і для выяўленьня характарных асаблівасьцяй у працы паасобных раёнаў БССР", запаўненьне якой было апрабавана на курсах па перападрыхтоўцы агрономаў у Горках узімку 1925-26 году. (Думкі, выказаныя агрономамі-курсантамі пры запаўненьні анкеты, будуць таксама выкарыстаны пры далейшым выкладаньні). Пасьля спробы распрацоўкі даных анкеты апошняя была перапрацавана і ўзгоднена з проф. А. О. Фабрыкантам, а потым і з проф. І. І. Перасьвет-Солтанам. Адозва да агрономаў Беларусі была ўкладзена ад імя катэдры і разам з анкетамі разаслана па ўсіх акругах з просьбай разаслаць па раёнах для непасрэднага адказу.

Асаблівасьць нашага дасьледваньня заключаецца ў тым, што мы імкнуліся аб'яднаць наўкола катэдры ўсю агрономічную організацыю ў справе вывучэньня агродапамогі— „што толькі верхавінка катэдры агродапамогі знаходзіцца ў акадэміі, аснова-ж гэтае пірамІды ёсьць і павінна быць у нетрах агрономічнае організацыі, у раёнах БССР", а па-другое, вывучэньні рабіць на грунце „самадзейнасьці і актыўнасьці" самое беларускае організацыі. Мы і да гэтага часу ўпэўнены, што такі падыход зьяўляецца самым правільным, і толькі ўжываючы яго можна дасягнуць сталых вынікаў.

Усе гэтыя прынцыпы яскрава выяўлены ў адозьве, якую мы цалкам і зьмяшчаем тут, як гістарычны дакумант.

**Ад катэдры агродапамогі Беларускае дзяржаўнае акадэміі сельскае гаспадаркі.**

*ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!*

Цяпер кожнаму відочна, што наша Беларуская агрономічная арганізацыя вельмі хутка пашыраецца і ўзмацняецца; не сакрэт і тое, што цяпер выяўляецца напружнае шуканьне новых форм агрономічнае арганізацыі і новых мэтадаў агрономічнае работы. А калі ёсьць шуканьні, пэўна ёсьць і шмат дасягненьняў; толькі вывучэньнем нашых дасягненьняў і недахопаў ніхто не займаўся.

З адчыненьнем пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі с.-г. катэдры агродапамогі зьявіўся той асяродак, які павінен заняцца ўсебаковым дасьледваньнем агродапамогі на Беларусі. Аднак, адсутнасьць сродкаў і абмежаваны лік працаўнікоў катэдры не дазваляюць шырока разгарнуць дасьледчую працу звычайнымі для дасьледчых установ мэтодамі. Бяручы ўсё гэта пад увагу, катэдра агродапамогі робіць спробу распачаць дасьледчую працу на новых падвалінах, на грунце самадзейнасьці і актыўнасьці самой Беларускай арганізацыі. Мы лічым, што толькі верхавіна катэдры агродапамогі знаходзіцца ў акадэміі, аснова-ж гэтае піраміды ёсьць і павінна быць у нетрах агрономічнае арганізацыі, у раёнах БССР.

З асаблівай пэўнасьцю мы гэта можам падкрэсьліць цяпер, пасьля правядзеньня другіх усебеларускіх курсаў па падвышэньні кваліфікацыі агрономаў БССР, на якіх перабылі агрономы большае паловы раёнаў Беларусі, дзе сапраўды замацавалася шчыльная сувязь паміж працаўнікамі акадэміі і вучастковай агрономіяй. А калі гэта так, дык мы і без вялікіх сродкаў здолеем распачаць работу па вывучэньню нашых агульных пытаньняў і сваёю работаю давядзем неабходнасьць вызначэньня сродкаў на дасьледчую работу і ў галіне агродапамогі.

Такім парадкам, маючы намеры ў будучыні разгарнуць сталую сыстэматычную работу, нам у сучасны момант патрэбны для орыентоўкі самыя агульныя весткі

аб сучасным становішчы нашае організацыі, вось чаму мы з вялікай просьбай зьвяртаемся да ўсіх агрономаў БССР запоўніць і прыслаць у акадэмію дадануюпры гэтым анкету. Запаўненьне анкеты мы вельмі просім зрабіць не формальна, а ўважліва і па мажлівасьці колектыўна, угрунтоўваючы кожны свой адказ пэўнымі лічбамі, калі такія ў раёне можна знайсьці.

Анкета наша ўкладзена вельмі схэматычна і галоўным чынам для выяўленьня формы агрономічнае організацыі, але мы добра разумеем, што без дэталёвай характарыстыкі самога раёну нельга зразумець і ацаніць выяўленую форму організацыі і мэтодаў агрономічнае работы, вось чаму мы вельмі *просім усіх вучастковых агрономаў прыслаць копіі агрономічнага апісаньня раёну*, зробленага ці па ўласнай, ці па програме НКЗБ. Апісаньні агровучасткаў павінны быць сабраны ў габінэце нашае агульнае катэдры. Апроч таго, катэдра вельмі просіць усіх тавaрышоў-агрономаў надсылаць у габінэт свае працы па агродапамозе як друкаваныя, так і падрыхтаваныя да друку, а таксама і адбіткі штогодніх справаздач аб рабоце. Такая сувязь вельмі каштоўна для ўсёй нашай агрономічнай справы, бо дасьць мажлівасьць выявіць усё тое, што зроблена агрономічнай організацыяй; на гэтым матэрыяле будуць выхоўвацца новыя працаўнікі, студэнты. З свайго боку катэдра абавязуецца даваць рэцэнзіі на працы, рабіць сводкі прац і агалашаць іх у друку, а пры выказаньні пажаданьня аўтара—рэдагаваць падрыхтаваныя да друку працы.

Такім чынам, з цьвёрдаю верою ў посьпех колектыўнай творчай работы мы чакаем хуткага водгуку на наш заклік.

З таварыскім прывітаньнем

Профэсар *І. Перасьвет-Солтан.*

Асыстэнт *М. Лайкоў.*

Наша адозва зрабіла вялікі ўплыў на ажыўленьне агрономічнае думкі ў мясцовых працаўнікоў і, як сьцьвярджае адказны сакратар ЦБ Агросэкцыі саюзу с.-г. і лясных рабочых тав. Т. М. Аўчыньнікаў, выклікала цэлыя дыспуты ў

раёнах Менскае акругі. Большасьць надасланых анкет сапраўды запоўнены колектыўна ўсім агропэрсоналам раёну з подпісам усіх агрономаў, і таму мы лічым, што матэрыял мае надзвычайна вялікую каштоўнасьць і верагоднасьць. Спачатку матэрыял пачаў паступаць вельмі актыўна, асабліва ад агрономаў, якія пабылі за 2 гады на курсах у акадэміі (за выключэньнем Полацкае акругі, дзе акруговы агроном нават не разаслаў анкет па раёнах), але раптам увесну 1927 году катэдра агродапамогі была скасавана і матэрыял пачаў губляцца (або не адсылаўся з раёну, або губляўся на пошце за адсутнасьцю адрасата). Увосень 1927 году мною было пастаўлена пытаньне ў ЦБ агросэкцыі, каб яно прытуліла гэту справу ў сябе і працягвала зьбіраць матэрыял. Прэзыдыум бюро, горача прывітаўшы гэтую ідэю, на справе аказаўся вельмі пасыўным і больш не атрымаў ніводнай анкеты і ня вызначыў ні капейкі сродкаў на распрацоўку сабранага матэрыялу. Так і бадзяўся гэты матэрыял разам са мною, пакуль Беларускі навукова-дасьледчы інстытут не прытуліў нас і ня даў магчымасьці матэрыял распрацаваць і літаратурна аформіць.

І хоць Навукова-дасьледчы інстытут таксама пакуль што ня мае матэрыяльнае базы для разгортваньня вывучэньня агродапамогі і нам, пэўна, доўгі час прыдзецца саматужна праводзіць гэтае вывучэньне, грунтуючыся, як і раней, на „самадзейнасьці і актыўнасьці“ мясцовых агроработнікаў, але пачатак зроблены, і беларуская агрономія зноў мае свой асяродак у выглядзе сэктару агродапамогі габінэту аграрнае політыкі Н.-Д. І. Будзем спадзявацца, што на гэты раз знойдуцца і моральныя і матэрыяльныя магчымасьці для разгортваньня дасьледчае работы ў непачатай галіне. Зарука гэтаму—аўторытэт Н.-Д. І. імя Леніна.

Наша анкета мела ўсяго 30 пытаньняў, з якіх 9 прыпадала на „першы разьдзел“—„Кароткую характарыстыку раёну“, 17 пытаньняў—на другую частку—„Агрономічны штат раёну і форма агрономічнае організацыі“ і 5 пытаньняў—на 3 частку—„Галоўныя рыскі кірунку працы агрономаў раёну“. Як бачыце, галоўная ўвага зьвярталася на выяўленьне організацыйных форм, але зьмешчаная ў 3-м разьдзеле таблічка пад назвай „Як прыблізна ў проц. разьмяркоўваецца работа ўсяго пэрсоналу раёну па наступных галінах працы

(на агропрапаганду, паказальныя мерапрыемствы, організацыю гаспадаркі, зямляўпарадкаваньне, на работу па коопэрацыі, на работу ў канцылярыі РВК ды іншую няплянавую, неаграномічную работу)" дала надзвычайна каштоўны матэрыял, як для выяўленьня эфэктыўнасьці ў рабоце пры розных організацыйных формах, так і наогул для ўяўленьня зьместу работы беларускіх агрономаў. Дзьвюма заўвагамі ўнізе таблічкі прапанавалася аграномічнаму колектыву—„Усю працу за год прыняць за 100 проц. і спачатку процанты падзяліць паміж падзеламі працы ў простастаўнай графе ўсіх работнікаў, а потым падзяліць атрыманыя проц. паміж паасобнымі, каб была відаць удзельная вага кожнага работніка" і далей: „Калі ў раёне ёсьць запісы, дык вельмі пажадана, каб апроч проц. былі паказаны і абсолютныя затраты ў днёх або гадзінах".

Мы зрабілі невялікі націск на вызначэньне ўдзельнае вагі розных кірункаў работы ў проц. з тае прычыны, што пры колектыўным вызначэньні гэтых процантаў, дзе кожны агроном імкнецца правільна выявіць свой кірунак і зьмест работы, мы атрымаем больш пэўныя лічбы, чым лічбы афіцыяльных штодзеньнікаў або справаздач, дзе заўсёды ёсьць „прыкрасы". Аналізуючы сабраны матэрыял, мы з пэўнасьцю можам сказаць, што матэрыял добраякасны і зьяўляецца сапраўды колектыўнай творчасьцю.

Толькі 39 агравучасткаў падалі анкеты, што складае 39 проц. ад усяго ліку вучасткаў БССР. Апроч таго, мы маем 23 анкеты, запоўненыя асобнымі агрономамі на курсах агрономаў, з якіх толькі 7 мае паўтарэньні, а 16 апісваюць новыя раёны і думкі якіх будуць таксама падагулены.

Па акругах анкеты разьмяркоўваюцца наступным чынам. Менская 3 (3), Слуцкая 3, Бабруйская 7 (3), Мазырская 5 (2), Гомельская 5, Калінінская 2 (3), Магілеўская 1 (2), Аршанская 4 (2), Віцебская 6 (4), Полацкая 0 (2), Барысаўская— 3 (2). Лічбы, пастаўленыя ў дужкі, паказваюць лік анкет запоўненых на курсах. Як бачым, цалкам адсутнічае толькі Рэчыцкая акруга, з невядомых нам прычын, і ў сталым дасьледваньні—Полацкая, па раней адзначаных мотывах. Што-ж да рэшты акруг, дык менш 5 анкет не сустракаецца, а гэтага ліку зусім даволі для орыентовачнае характарыстыкі працы аграномічнае організацыі акругі.

## Кароткая характарыстыка аграраёну ў БССР.

Галоўнымі паказьнікамі, якія характарызуюць агравучасток, зьяўляюцца—плошча вучастку, радыус, гушчыня насельніцтва на адзінку плошчы, колькасьць і велічыня паселішч, прыродныя і экономічныя ўмовы гаспадараньня, тып гаспадаркі і г. д.

Усе гэтыя вялічыні значна ўплываюць на характар і зьмест работы мясцовых агрономаў. Зусім іншым павінен быць маштаб і зьмест работы на малым вучастку з невялікім радыусам, чым на вучастку з вялікай тэрыторыяй, асабліва пры нястачы сродкаў перасуваньня.

Таксама зусім іншы зьмест работы агронома будзе ў вучастку з пясковымі глебамі, чым на вучастку з больш зьвязнымі глебамі. Гушчыня насельніцтва, якая характарызуе ступень пералюдненасьці, з якой у нас супадае інтэнсыўнасьць сельскае гаспадаркі, таксама моцна адбіваецца на рабоце агронома,—адна справа запатрабаваньні экстэнсыўнае гаспадаркі і зусім другая справа запатрабаваньні інтэнсыўнае гаспадаркі.

Нарэшце, дробнасьць паселішч характарызуе ступень зямляўпарадкаванасьці сялянскіх гаспадарак і, як убачым далей, таксама ўплывае на зьмест работы агрономаў і на самы характар пабудовы агрономічнае організацыі.

Усё гэта прымушае нас даць кароткую характарыстыку агрономічных вучасткаў Беларусі па тых даных, якія ёсьць у апісаньнях агрономаў. На вялікі жаль, у анкетах няма апісаньняў паасобных падраёнаў, там дзе існуе падзел адміністрацыйных раёнаў на самастойныя вучасткі, і таму мы будзем даваць весткі па цэлым раёне, але некаторыя рыскі падраёнаў папрабуем даць на падставе пералічэньня даных лічб па раёну адносна выдзеленых вучасткаў.

Каб не перагружаць тэксту вялікімі табліцамі, мы галоўныя даныя зьмесьцім паасобнымі ведамасьцямі ў дадатку, а ў тэксьце абмяжуемся разглядам табліц і агульнымі лічбамі.

Так, з табліцы № 1 „Весткі аб велічыні агровучастку“ мы бачым, што сярэдняя плошча раёнаў, з 39 апісаных, складае 117.360 *га*. Сярэдня плошча раёну па акругах хістаецца ад 76.140 *га* ў Гомельскай акрузе да 158.190 *га* ў Мазырскай—перавышэньне больш, чым у два разы. У рэшце акруг сярэдняя плошча раёнаў наступная: Менская—87.200 *га*, Аршанская—89.360 *га*, Магілеўская (даныя аднаго раёну)—98.404 *га*, Калінінская — 98.650 *га*, Бабруйская — 99.480 *га*, Віцебская — 110.740 *га*, Слуцкая—147.590 *га* і Барысаўская—148.110 *га*.

З гэтых лічбаў мы бачым, што акругі з інтэнсыўнай сельскай гаспадаркай, як Віцебская, Слуцкая, маюць амаль такую-ж тэрыторыю для абслугоўваньня, як і экстэнсыўныя—Барысаўшчына і нават Мазыршчына. Такая-ж акруга, як Гомельшчына, па плошчы абслугоўваньня стаіць на першым месцы. Праўда, пры пераліку абслугоўванае тэрыторыі на 1 аграработніка малюнак крыху зьмяняецца, але ня досыць, і мы лічым, што больш правільна было-б вызначаць меншую тэрыторыю і для адміністрацыйнага абслугоўваньня ў больш інтэнсыўных раёнах.

Што-ж да велічыні плошчы па асобных раёнаў, дык тут мы маем надзвычайна вялікую амплітуду хістаньня: ад 39.349 *га* у Дзятлаўскім раёне Гомельскае акругі да 204.840 *га* ў Жыткавіцкім раёне Мазырскае акругі. Зразумела, што рабіць параўнаньні двух такіх раёнаў зусім немагчыма, раз тэрыторыя аднаго ў 5 разоў большая за тэрыторыю другога.

Той самы малюнак мы наглядаем і ў кожнай акрузе. Так, па Гомельскай акрузе мы маем раёны з тэрыторыяй 39.343 *га* (Дзятлаўскі) і 109.150 *га* Сьвяціслаўскі—дзе перавышэньне амаль у 3 разы. Тымчасам у межах аднэй акругі ад адказнага раённага агранома патрабуюць аднолькавае і па аб'ёму і па зьместу работы, лік-жа аграномічных работнікаў у кожным раёне, у межах ня толькі акругі, а нават рэспублікі—амаль аднолькавы. Такі падыход трэба лічыць няправільным і да кожнага раёну трэба падыходзіць з спэцыяльнымі меркамі, улічваючы ўсе асаблівасьці.

Зразумела, калі плошчы раёнаў розныя, дык будуць рознымі і радыусы раёнаў, бо гэта спрэжаныя вялічыні. Так,

сярэдні радыус раёну (у БССР) складае 22,9 кілёмэтры хістаецца па акругах ад 18,7 кілёмэтра па Аршанскай і Магілеўскай акругах да 30,0 кілёмэтраў па Мазыршчыне. Рэшта акруг маюць наступны сярэдні радыус: Менская і Калінінская—19,1 кілёмэтра, Бабруйская—20,8, Віцебская і Гомельская—22,7, Барысаўская—23,4 і Слуцкая—26,5 кілёмэтра. Хістаньні па асобных раёнах яшчэ большыя, ад 14,75 лілёмэтра ў Носаўскім раёне Гомельскае акругі да 33,75 кілёмэтра ў Калінкавіцкім раёне Мазыршчыны. Аднак, сярэдні радыус дае толькі першае прыблізнае ўражаньне. Куды большае ўражаньне даюць лічбы самага большага і меншага радыусаў у самых раёнах. У гэтым сэнсе мы маем наступныя лічбы: сярэдні з самых меншых радыусаў складае 14,6 кілёмэтра, з самых большых радыусаў—36,2 кілёмэтра. У паасобных раёнах мы маем такія хістаньні: ад 8,5 да 48,0 *клм* (Халопеніцкі раён Барысаўскай акругі) і ад 19,2 *клм* да 42,8 (у Гарадоцкім раёне Віцебшчыны), ад 15 да 70 *клм* (у Старобінскім раёне Случчыны) і ад 12 да 80 кілёмэтраў у Калінкавіцкім раёне Мазыршчыны.

Усе гэтыя лічбы яскрава сьведчаць аб тым, што формы нашых адміністрацыйных раёнаў вельмі няправільныя, у большасьці выпадкаў выцягнутыя, або адміністрацыйныя ўстановы знаходзяцца далёка ня ў цэнтры раёну. Зразумела, што абслугоўваць такія раёны з аднаго цэнтру вельмі цяжка, і зусім законамерныя такія зьявы, што ў некаторых частках раёну агронома ніколі ня бачылі. Ужо адны гэтыя факты, велічыня і расьцягнутасьць тэрыторыі раёну, павінны прымусіць агранамічную арганізацыю інакш будаваць агранамічны апарат, каб наблізіць агронома да гаспадаркі і вясковага насельніцтва. Ужо адны гэтыя факты прымушаюць выдзеліць асобныя аддаленыя часткі раёну ў спэцыяльныя падраёны, з адказным агрономам на чале, а асабліва пры нашых абмежаваных сродках перасуваньня і адсутнасьці добрых шляхоў зносін.

Нельга згадзіцца з такім становішчам, каб агроном траціў суткі, а то і двое на дарогу, каб правесьці якое-небудзь простае мерапрыемства ў аддаленай вёсцы, а каб праехаць 80 кілёмэтраў туды і назад, пры нашых умовах, для гэтага трэба затраціць мінімум 3 сутак, ды пасьля такой вандроўкі агроном павінен 3 сутак адлежвацца.

Вось чым тлумачыцца той факт, што Мазырская арганізацыя першая паставіла пытаньне, і яго ажыцьцявіла, аб падзеле раёну на спэцыяльныя агровучасткі.

Цяпер паглядзім, што з сябе становяць раёны ў сэнсе колькасьці і гушчыні насельніцтва. Апрыорныя разважаньні падказваюць нам, чым больш у раёне насельніцтва, тым больш і запатрабаваньняў да агрономаў.

І ў гэтых адносінах нашы раёны выяўляюць надзвычайна стракаты малюнак. З тэй-жа ведамасьці мы бачым, што ў сярэднім па 39 раёнах мы маем 40.031,3 душы насельніцтва, з якога 37.670 душ, або 94,1%, прыпадае на долю вясковага насельніцтва. Хістаньні-ж колькасьці насельніцтва па раёнах ня меншыя, чым і па плошчы: ад 23.417 у Жыткавіцкім раёне Мазыршчыны да 58.087 душ у Жлобінскім раёне Бабруйскае акругі—перавялічэньне амаль у 3 разы. Тое-ж самае і па колькасьці вясковага насельніцтва: ад 20.445 душ у Жыткавіцкім раёне да 48.645 у Капыльскім раёне Случчыны.

**Сярэднія лічбы па акругах даюць наступны малюнак:**

| Назва акругі | Сярэдні лік насельніцтва ў раёне | | % вясковага насельніцтва | Гушчыня на 1 кв. кілёмэтр |
|---|---|---|---|---|
| | Усяго | Вясковага | | |
| 1. Мазырская | 31.796,2 | 29.306,6 | 92,2 | 20,8 |
| 2. Гомельская | 37.194,8 | 36.854,8 | 98,9 | 51,4 |
| 3. Барысаўская | 38.968 | 36.777,3 | 97,0 | 27,5 |
| 4. Менская | 39.381 | 37.398 | 94,4 | 44,8 |
| 5. Аршанская | 40.624,7 | 38.832,2 | 91,6 | 45,2 |
| 6. Бабруйская | 41.894,4 | 36.888,6 | 88,1 | 33,8 |
| 7. Слуцкая | 42.978 | 41.095,5 | 95,6 | 31,5 |
| 8. Віцебская | 46.247,3 | 42.568,8 | 92,2 | 42,0 |
| 9. Калінінская | 46.711,5 | 40.725 | 87,4 | 49,0 |
| 10. Магілеўская (адзін раён) | 54.473 | 46.179 | 84,8 | 55,0 |
| Сярэдняе па 39 раёнах | 40.031,3 | 37.670 | 94,1 | 38,1 |

З гэтае табліцы яскрава відаць, што па ліку насельніцтва наогул, а тым больш вясковага, раёны вельмі розныя, і ў

некаторых акругах, напрыклад, у Магілеўшчыне, амаль у два разы насельніцтва больш, чым у Мазыршчыне. Бязумоўна, гэты факт значна адбіваецца на рабоце агрономаў.

З другога боку, гэтыя лічбы сьведчаць аб тым, што раёны і па ліку насельніцтва разьмяшчаюцца ў рад не адпаведна інтэнсыўнасьці гаспадаркі—раён Меншчыны займае такое-ж прыблізна месца, як і экстэнсыўныя раёны Барысаўшчыны, Гомельшчыны і Мазыршчыны, а раёны Слуцку і Віцебску—такое-ж, як Калініншчыны і Бабруйшчыны. Нам думаецца, што пры ўкомплектаваньні раёнаў аграработнікамі трэба прымаць пад увагу як колькасьць вясковага насельніцтва, так і гушчыню на 1 квадрат. кілёмэтр. Па суадносінах вясковага насельніцтва да ўсяго насельніцтва акругі разьмяшчаюцца ў рад у наступным парадку: Гомельская, Барысаўская, Слуцкая, Менская, Віцебская, Мазырская, Аршанская, Бабруйская, Калінінская і Магілеўская, а па гушчыні насельніцтва на адзін квадрат. кілёмэтр на першае месца становіцца Магілеўская, потым Гомельская, Калінінская, Аршанская, Менская, Віцебская, Бабруйская, Слуцкая, Барысаўская і Мазырская.

Комбінуючы гэтыя два рады з плошчаю, можна вызначыць прыблізную сетку, дзе павінна быць больш аграработнікаў, а дзе менш.

Аднак, гэтых даных будзе яшчэ мала. Як пабачым далей, важна ня толькі колькасьць і гушчыня насельніцтва, але і ступень яго згуртаваньня і разьмяшчэньня па тэрыторыі. Інакш кажучы, важна велічыня паселішча. Калі паселішчы дробныя, што сьведчыць аб большай ступені набліжэньня гаспадара да зямлі, і дзе менш гостра адчуваецца патрэба ў зямляўпарадкаваньні, там зусім іншыя запатрабаваньні нанаселенніцтва да агронома.

У гэтых адносінах наша старонка вельмі стракатая. З тэйжа табліцы № 1 мы бачым, што сярэдняя велічыня паселішча па ліку гаспадарак хістаецца ад 10 ў Гарадоцкім раёне Віцебшчыны да 99 двароў у Дзятлаўскім раёне Гомельшчыны.

Тое-ж самае і па зямельнай плошчы паселішч і па ліку вясковага насельніцтва ў іх. Па зямельнай плошчы мы маем хістаньні ад 131 *га* ў Гарадоцкім раёне да 1.710 *га* ў Калінкавіцкім раёне Мазыршчыны, а па ліку вясковага насель-

ніцтва ад 56 душ у Гарадоцкім раёне да 556 ў Дзятлаўскім раёне Гомельшчыны.

Па ўсіх трох паказальніках перавышэньне сярэдніх вялічынь у 10 раз, а па зямельнай плошчы нават у 13 раз. Зразумела, што ў буйных паселішчах будзе зусім іншае запатрабаваньне да агродапамогі. У першую чаргу там трэба арганізаваць тэрыторыю, наблізіць гаспадарку да зямлі, а потым ужо прымацца за арганізацыю новае палявое гаспадаркі.

Па акругах мы маем наступныя сярэднія даныя:

| Назва акругі | Сярэдняя велічыня паселішча | | | На 1 гаспадарку прыпадае | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Лік гаспадарак | Плошча ў гэктарах | Душ вясковага насельніцтва | Усёй зямлі гэктараў | Душ |
| Віцебская | 19,2 | 239,0 | 90,7 | 12,4 | 4,6 |
| Менская | 20,3 | 250 | 108,1 | 12,3 | 5,3 |
| Барысаўская | 22,4 | 557,8 | 125,6 | 24,9 | 8,8 |
| Бабруйская | 26,2 | 486,2 | 138,0 | 18,6 | 5,3 |
| Слуцкая | 28,3 | 543,3 | 148,5 | 19,2 | 5,2 |
| Аршанская | 32,5 | 421,0 | 176,7 | 12,9 | 5,4 |
| Магілеўская | 34,0 | 371,0 | 174,0 | 10,9 | 5,1 |
| Калінінская | 41,0 | 449,5 | 186,5 | 10,9 | 4,5 |
| Мазырская | 42,6 | 1113,4 | 228,2 | 26,1 | 5,4 |
| Гомельская | 66,2 | 798,2 | 352,4 | 10,5 | 5,0 |
| Сярэдняе па 39 раёнах | 33,3 | 539,7 | 174,7 | 16,2 | 5,2 |

Стракатасьць малюнку сярэдніх даных аб надворных і ўнутрыгаспадарчых умовах гаспадараньня ў розных акругах яскрава сьведчыць аб тым, што і характар агроработы ў паасобных раёнах будзе зусім іншы. Нельга падыходзіць з аднолькавымі меркамі, з аднолькавымі плянамі работы і мэтодамі работы ў Віцебшчыне, дзе насельніцтва густа раскідана па ўсёй тэрыторыі раёну і, напрыклад, у Мазыршчыне, дзе насельніцтва згуртавана ў вялікіх вёсках і мае вялізарныя прасторы зямлі. Асаблівыя труднасьці ў агроработе

павінны быць у Гомельскай акрузе, дзе самая большая велічыня паселішча па ліку двароў і насельніцтва і дзе адначасова самая меншая зямлязабясьпечанасьць гаспадаркі, дрэнная па якасьці глебы. Па ўсіх паказьніках тут трэба было-б чакаць узмоцненае агродапамогі для рэарганізацыі гаспадаркі ў бок павялічэньня інтэнсыўнасьці, але гэтаму перашкаджае неарганізаванасьць тэрыторыі. Як убачым далей, Гомельская арганізацыя пытаньням зямляўпарадкаваньня вызначае больш увагі, чым гэта робіцца ў іншых акругах— у сярэднім 15% усёй работы ўсіх агрономаў аддаецца зямляўпарадкаваньню.

Усе гэтыя лічбы дапамогуць нам зразумець сутнасьць і асаблівасьць у рабоце агрономаў розных раёнаў і будуць улічаны пры распрацоўцы асноўных палажэньняў аб агранамічнай арганізацыі.

Аднак, усіх паданых лічбаў мала. Мала ведаць, што адміністрацыйныя раёны вельмі адрозьніваюцца адзін ад аднаго па тэрыторыі, ліку насельніцтва, ліку сялянскіх гаспадарак і г. д. Мы добра ведаем, што на характар гаспадаркі ўплываюць і розныя экономічныя фактары (рынак, шляхі зносін, зямлязабясьпечанасьць і г. д.) і прыродныя ўмовы, (клімат, глеба, рэльеф і г. д.). А гэтыя абставіны ў сваю чаргу ўплываюць на характар і зьмест работы агрономаў. Паглядзім, наколькі-ж выраўнены гэтых адносінах раёны ўнутры адмістрацыйных межаў.

З дадатку № 2 мы бачым, што толькі 11 раёнаў з 39 больш-менш аднолькавыя, а ў межах 28 раёнаў вылучыць 67 падраёнаў, што дасьць у сярэднім ля 2¹/₂ падраёнаў на раён. Ёсьць выпадкі, калі раён можна падзяліць на 3 падраёны (Ліозьнянскі, Багушэўскі, Жыткавіцкі, Любанскі, Клічаўскі Старобінскі, Капыльскі) і нават на 4 падраёны (Жлобінск Гомельскі, Дрыбінскі). Трэба прыняць пад увагу, што гэтае раёнаваньне чыста павярхоўнае, грубае на вока агронома, па тых паказьніках, якія кідаюцца ў вочы мясцовым агрономам, бяз жаднага навуковага аналізу, якія проста перашкаджаюць агрономам у ажыцьцяўленьні адзінага пляну работы. Сюды адносяцца такія паказьнікі—рознасьць глеб, розная зямлязабясьпечанасьць, розныя суадносіны ужыткаў, адлеглась, розных ад рынку, відавочная спэцыялізацыя гаспадаркі.

Мы ўпэўнены, што калі-б зрабіць дробнае раёнаваньне навуковым мэтодам кожнага адміністрацыйнага раёну, дык напэўна ў кожным раёне можна было-б вызначыць па 3—4 падраёны. Узяць, напрыклад, глебу. Праглядаючы схэматычныя мапы глебавых дасьледваньняў, мы бачым, што амаль кожная вёска мае свае глебавыя асаблівасьці. А глеба ёсьць вытворная ўплыву цэлага шэрагу прыродных фактараў—пароды, клімату, рэльефу і г. д. Адсюль розныя глебы, розныя суадносіны ўжыткаў (забясьпечанасьць сенажацямі, лясістасьць, забалочанасьць) утвараюць і розныя прадпасылкі для вядзеньня гаспадаркі.

Калі-ж дадаць экономічныя прадпасылкі—розная зямлязабясьпечанасьць, адлегласьць ад гарадоў і чыгунак, розныя магчымасьці для дадатковых заработкаў і г. д., дык зусім стане відавочным, што ў межах аднаго і таго-ж раёну можна вызначыць некалькі падраёнаў з розным кірункам гаспадаркі, а значыць, з рознымі запатрабаваньнямі да агрономіі. Гэта ў сваю чаргу выклікае іншыя і організацыйныя, і мэтодычныя падыходы.

Нам здаецца, што будаваць набліжаную да насельніцтва агрономію трэба ў першую чаргу на падставе навукова-агрономічнага дробнага раёнаваньня. Толькі, выявіўшы ўвесь характар гаспадараньня ў тэй ці іншай мясцовасьці, выявіўшы ўсе мажлівасьці, можна будаваць пляны перабудовы гаспадаркі. Такую спробу мы маем у Маскоўскай організацыі, у працах вучастковых аграномаў Хлебадарава і Магніцкага і ў працы быўшага Смалявіцкага агронома Менскае акругі, якая, на вялікі жаль, яшчэ не надрукавана. Кожны раённы агроном Беларусі павінен прарабіць такую працу, а гэта выклікае зусім іншыя ўстаноўкі ў рабоце нашых раённых агрономаў. На пытаньні вывучэньня агровучастку трэба зьвярнуць сур'ёзную ўвагу. Да гэтага-ж часу ў гэтым сэнсе ня зроблена нічога.

У заключэньне характарыстыкі агровучасткаў нам хацелася зрабіць некаторыя параўнаньні з даваенным часам. Так, паводле даных А. М. Міхайлава, плошча агровучастку па Віцебшчыне хісталася ў 6 паветах ад 80 да 90 тысяч дзесяцін, у трох паветах ад 90 да 100 тысяч дзес. і толькі ў двух паветах было ад 50 да 70 тысяч дзесяцін. Па Магілеўскай і Менскай губэрнях агровучасткі былі куды буйнейшыя—ад 230 да 700 тыс. дзесяцін.

Па нашых даных плошча адміністрацыйных раёнаў з 3—4 агрономамі ў 1927 годзе ў сярэднім па БССР была 117.360 гектараў (або каля 105 тысяч дзесяцін), а на Віцебшчыне—110.740 *га.*

Сярэдняя колькасьць сялянскіх гаспадарак па агровучастках Віцебшчыны хісталася ў трох паветах ад 2200 да 3000 гаспадарак, у 4-х паветах ад 3000 да 4000 і ў 4-х паветах ад 4000 да 5000 гаспадарак. Паводле даных, сярэдняя колькасьць гаспадарак на раён па БССР складае 7.247, а па Віцебшчыне—8.679.

Радыус агровучастку Віцебшчыны хістаўся ад 20 да 40 вёрст, а цяпер сярэдні радыус раёну ў БССР 22,9 кілёмэтра, а па Віцебшчыне 22,7 кілёмэтра.

Усе гэтыя лічбы яскрава сьведчаць аб тым, што ў сучасны момант у сярэднім па БССР мы значна перасягнулі лічбы даваеннага часу, асабліва, калі прыняць пад увагу, што цяпер у раёне працуе па 3—4 агрономы. Аднак, гэтыя-ж лічбы сьведчаць і аб тым, што інтэнсыўныя раёны, як Віцебшчына, Меншчына і Случчына, абслугоўваюцца слаба і дасягаюць прыблізна толькі даваенных часоў.

Аднак, наша характарыстыка была-б далёка няпоўнай калі-б мы абмежаваліся толькі данымі аб раёне, грунтуючыся на тым, што формальна наш адміністрацыйны раён зьяўляецца адначасова і агрономічным вучасткам. Мы добра ведаем, што ў сучасным раёне працуе ўжо не адзін вучастковы агроном, а цэлы агрономічны колектыў (у 3—4 асобы). Адзначаны намі і такі факт, што цэлы шэраг раёна Беларусі ўжо фактычна пачаў падзяляцца на пэўны лік падраёнаў, або агрономічных вучасткаў. Таму больш паказальнымі лічбамі зьяўляліся-б лічбы, што характарызуюць гэтыя падраёны.

Аднак, такіх лічбаў мы ня маем і таму абмяжуемся ўкоснымі паказьнікамі, атрыманымі намі ад пералічэньня асноўных паказьнікаў раёну на колькасьць усіх агрономаў, якія працуюць у раёне.

З тэй-жа табліцы № 1 мы бачым, што ў сярэднім па 39 раёнах на 1 аграработніка прыпадае: 76,6 паселішч, 2007,1 сялянскіх гаспадарак з 32.149,5 гектарамі зямельнае плошчы і 10.383,5 душамі вясковага насельніцтва.

Па акругах мы маем наступныя хістаньні:

| Назва акругі | На 1 агроработніка раёну прыпадае: | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Сельсавет | Паселішч | Гаспадарак | Вясковага насельніцтва | Усяе плошчы |
| Менская . . . . . | 3–4 | 97 | 1949 | 10,348 | 24,748 |
| Барысаўская . . . . | 3–4 | 84,25 | 1629,3 | 9450,5 | 37028,8 |
| Слуцкая . . . . . | 3–7 | 80,5 | 2,260,5 | 11792,5 | 41954,9 |
| Бабруйскаа . . . . | 3–5 | 68,6 | 1731,6 | 9221,6 | 32710 |
| Мазырская . . . . | 2–5 | 54,8 | 1471,2 | 7815,8 | 44,152,6 |
| Гомельская . . . . | — | 52,2 | 2770,2 | 15322,2 | 29,231 |
| Калінінская . . . . | 3–5 | 64,0 | 2555,0 | 11711,0 | 29,341,5 |
| Магілеўская . . . . | 3–4 | 53,0 | 1802,0 | 9236,0 | 19,681,0 |
| Аршанская . . . . | 2–5 | 65,5 | 1769,5 | 9604,7 | 22,153 |
| Віцебская . . . . . | 3-4 | 126,5 | 2169,5 | 10646,1 | 27,684,5 |
| У сярэднім па 39 раёнах . . . | 2–7 | 77,6 | 2007,1 | 10383,5 | 32149,5 |

Як бачым з табліцы, у сэнсе разгрузкі агронома колькасьцю абслугаваных паселішч, гаспадарак і плошчы мы значна перасягнулі даваенны час. Старым земскім агрономам пэўна і ня сьніліся такія лічбы, але наогул мы яшчэ маем надзвычайна вялікую нагрузку на аднаго агроработніка. Нават зрабіўшы такое дапушчэньне, што кожны агроном абслугоўвае толькі 77,6 паселішча з 2007,1 сялянскімі гаспадаркамі, цяжка ўявіць сабе, што можа зрабіць адзін чалавек з такою масаю featured рознахарактарных запатрабаваньняў 10-тысячнага насельніцтва. А ня трэба забываць, што агрономы выкарыстоўваюцца на толькі на непасрэдна аграномічную работу, а прымушаюцца выконваць штодзенную работу бягучага жыцьця па загадах райвыканкомаў, як гэта мы ўбачым далей. Ускладаць усю адказнасьць за рэарганізацыю сялянскае гаспадаркі дзесяцітысячнага насельніцтва на аднаго чалавека рэч надзвычайна рызыкоўная і памылковая. Вось чаму трэба было-б спыніць безадказнае цкаваньне агрономаў гарачымі рэпортэрамі і стварыць вельмі ўважлівыя адносіны да нізавых агроработнікаў. Трэба ня крычаць „агроном, дзе ты?“, а стварыць такія арганізацыйныя формы,

якія-б максымальна набліжалі агронома да насельніцтва, і ствараць наўкола мясцовага агронома такую атмосфэру, пры якой-бы агроном зьяўляўся організуючым фэрмэнтам, а ўся савецкая грамадзкасьць і вясковы актыў ажыцьцяўлялі вялікую справу рэорганізацыі гаспадаркі, перабудову сялянскае гаспадаркі на социялістычны лад.

Аналізуючы далей паданую табліцу, мы бачым, што ступень нагрузкі агрономаў па раёнах розных акруг неаднолькавая. Так, хістаньні па ліку гаспадарак назіраем ад 1471,2 па Мазыршчыне да 2770,2 па Гомельшчыне—перавышэньне амаль у 2 разы, а па ліку вясковага насельніцтва ад 7815,8 па Мазыршчыне да 11792,5 па Случчыне. Гэты факт, будучы сам па сабе станоўчым,—у розных прыродна-экономічных раёнах так і павінна быць,—але ў даным выпадку мы маем пэўную недарэчнасьць. У даным выпадку мы маем такое становішча, што раёны экстэнсыўнае гаспадаркі—Мазыршчына, Бабруйшчына, Барысаўшчына, агрономічна больш насычаны, чым такія інтэнсыўныя раёны, як Случчына, Меншчына, Віцебшчына. Бязумоўна, што такія нюансы, якія сьведчаць аб тым, што ў Беларусі ня было вытрыманае сыстэмы пабудовы агрономічнае організацыі, што Наркамзем ня ўплываў на пабудову агросеткі, адпаведна ступені інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі па раёнах. Як вядома, агросетка папаўнялася і пашыралася раённымі выканаўчымі камітэтамі, у залежнасьці ад мясцовых экономічных мажлівасьцяй і там, дзе людзі прасякаліся паважнасьцю справы рэорганізацыі гаспадаркі, там знаходзіліся і сродкі для папаўненьня агропэрсоналу, а дзе гэтай справай ня цікавіліся, там яна і ня рухалася.

Нам думаецца, што Наркамзему трэба пераглядзець агрономічную сетку і выправіць азначаныя хібы. Агрономічная сетка павінна быць шчыльна ўвязана з агульна-рэспубліканскім плянам рэорганізацыі сельскае гаспадаркі, які будуецца, улічваючы ступень інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі па раёнах і цэлым шэрагу іншых раённых асаблівасьцяй. Наша пераконаньне такое, што гушчыня агрономічнае сеткі павінна адпавядаць інтэнсыўнасьці гаспадаркі. Чым больш інтэнсыўная сельская гаспадарка ў раёне, тым больш агрономаў трэба для абслугоўваньня такіх раёнаў, тым больш трэба агранома наблізіць да насельніцтва, тым меншы радыус агрономічнага вучастку павінен быць у такім раёне.

Цікавыя ў гэты адносінах пагляды мясцовых агрономаў. Аб нормальнай велічыні агровучастку выказалася 28 раёнаў, з якіх 50 проц. (14 раёнаў) даводзяць, што радыус агровучастку павінен быць ад 6 да 8 кілёмэтраў; 6 раёнаў дапушчаюць працягласьць да 10 кілёмэтраў і толькі два раёны— Каралінскі і Дзятлаўскі мараць аб скарачэньні радыусу перасоўкі да 15 кілёмэтраў. Шэсьць-жа раёнаў зусім выразна падкрэсьліваюць неабходнасьць скарачэньня радыусу да 3—5 кілёмэтраў.

Па колькасьці сялянскіх гаспадарак 9 раёнаў прызнае, што ў агровучастку павінна быць ад 500 да 1000 гаспадарак, адзінаццаць раёнаў дапушчаюць лічбу каля 1500 гаспадарак і толькі 7 раёнаў выказаліся за больш павялічаную колькасьць сялянскіх гаспадарак.

Характэрна, што найбольш „скромныя“ жаданьні якраз у агрономаў тых раёнаў, дзе зараз надзвычайна вялікая тэрыторыя раёну, а менавіта раёны Гомельшчыны, Мазыршчыны і часткова Барысаўшчыны.

Выходзячы з такіх меркаваньняў, большасьць раёнаў лічаць неабходным падзел адміністрацыйных раёнаў на 4 агровучасткі--10 раёнаў; за 5 агровучасткаў выказалася 8 раёнаў, за 6—8 вучасткаў—6 раёнаў—раёну Меншчыны, Случчыны і Віцебшчыны і за 12 вучасткаў—па ліку сельсаветаў—1 раён Калінішчыны. Толькі 6 раёнаў, галоўным чынам, раёны экстэнсыўнага земляробства, лічаць здавальняючым падзел раёну на 3 падраёны.

Нам здаецца, што жаданьні большасьці мясцовых агрономаў мець вучастак ня звыш 10 кілёмэтраў у радыусе з 1000—1500 гаспадаркамі ёсьць надзвычайна скромныя жаданьні.

Калі ўжо ўсімі прызнаецца факт рэнтабельнасьці ўтрыманьня аднаго вучонага агронома ў саўгасе з плошчай 200—300 гектараў, дзе сам агроном зьяўляецца і гаспадаром, і адміністратарам, дык нам здаецца, што трымаць аднаго агронома-організатара на 500—600 сялянскіх гаспадарак, а ў некаторых выпадках і на 1 сельсавет інтэнсыўнага раёну, гэта ня роскаш, а рэальная патрэба рэконструкцыйнага пэрыоду. Каб рэорганізаваць распыленую, індывідуалістычную сялянскую гаспадарку ў ячэйкі соцыялістычнае гаспадаркі

шляхам укосных уплываў на гаспадаруючае насельніцтва, трэба весьці організаванае, мэтодычнае наступленьне і на розум, і на волю гаспадара, і на ўтварэньне матэрыяльных, надворна-гаспадарчых умоў гаспадараньня. Патрэбна ўпартая, няўхільная барацьба разгорнутым строем і Наркамзем Беларусі павінен стаць штабам гэтае барацьбы, а мясцовы агроном непасрэдным выканаўцам заданьняў у *пэўнай групы* насельніцтва.

## Склад агропэрсоналу дасьледваных раёнаў.

Зробленая намі кароткая характарыстыка агровучасткаў яшчэ не дае поўнага ўяўленьня аб ступені набліжэньня агродапамогі да насельніцтва. Нельга разглядаць велічыню тэрыторыі, насельніцтва, колькасьці гаспадарак і г. д. адарвана ад колькасьці ды якасьці агропэрсоналу. Як адзначалі вышэй, у справе пабудовы агродапамогі маюць вялікае значэньне адносныя лічбы нагрузкі агропэрсоналу лікам сялянскіх гаспадарак, абслугаванай тэрыторыяй і г. д. Чым меншая абслугаваная тэрыторыя, чым меншая колькасьць сялянства і гаспадарак прыпадае на 1 агроработніка, тым большую інтэнсыўнасьць можна чакаць у агроабслугоўваньні.

З другога боку, чым большую адукацыю і стаж мае агропэрсонал, чым больш ён ведае мясцовыя ўмовы, тым большай продукцыйнасьці ў рабоце можна чакаць ад такіх агрономаў.

Для высьвятленьня гэтых пытаньняў спынімся на разглядзе складу агропэрсоналу дасьледваных раёнаў. З дадатку № 3 мы бачым, што для абслугоўваньня насельніцтва 39 раёнаў паводле штату прызначалася 39 раённых агрономаў, 91 памочнікаў агронома і 17 спэцыялістых (зоотэхнікаў, ільнаводаў, садаводаў і г. д.), разам 147 чалавек. Працавала-ж у 1927 годзе 138 чалавек, з якіх 39 раённых агрономаў, 49 памочнікаў, 37 падраённых агрономаў і 13 спэцыялістых. Такім парадкам, штат не запоўнены толькі на 9 чалавек, або на 6,1 проц. Незапоўненасьць штату сьведчыць аб тым, што мы яшчэ далёка ад перавытворчасьці агрономаў, як гэта некаторым асобам здаецца, а з другога боку, і аб тым, што ўмовы работы на раёне яшчэ вельмі цяжкія і людзі вышэйшай адукацыі неахвотна ідуць працаваць на вёску.

Той факт, што з 91 прызначаных па штату памочнікаў 49 чалавек або 53,8 проц. запрошаны на пасады падраённых агрономаў, сьведчыць аб тым, што на мясцох рашуча пачаў

ажыцьцяўляцца прынцып набліжэньня агродапамогі да насельніцтва, утварэньня вучастковае формы арганізацыі.

Гэты факт заслугоўвае ўвагі і вывучэньня, а значыць, перагляду прынцыпаў пабудовы агрономічнае арганізацыі. Нельга казаць, што ў сучасны момант „вызначаецца пераход да чыста раённага тыпу пабудовы агродапамогі“, калі на мясцох працуе толькі каля 9 проц. спэцыялізаванага пэрсоналу. У сярэднім па 39 раёнах прыпадае на раён 0,33 спэцыялістых, тымчасам як агрономаў-унівэрсалістых прыпадае 3,3 чалавекі.

Цяпер паглядзім, як гэты пэрсонал разьмяркоўваецца па раёнах розных акруг. Сярэднія лічбы па акругах даюць нам наступны малюнак:

| Назва акругі | Меркавалася па штатах | | | | Было ў 1927 годзе | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго | Раён. | Памоч. | Спэц. | Усяго | Раён. | Падр. | Памоч. | Спэц. |
| Менская | 3—5 | 1 | 2—3 | 0—1 | 3 1/3 | 1 | 1/3 | 1 2/3 | 1/3 |
| Барысаўская | 4 | 1 | 2—3 | 0—1 | 3 3/4 | 1 | 1/2 | 1 3/4 | 1/2 |
| Слуцкая | 4 | 1 | 2—3 | 0—1 | 3 1/2 | 1 | 1 1/4 | 1 | 1/4 |
| Бабруйская | 3—5 | 1 | 2—4 | — | 4 | 1 | 2 1/5 | 3/5 | 1/5 |
| Мазырская | 4—5 | 1 | 2—3 | 0—1 | 3 1/5 | 1 | 1 3/5 | 1/5 | 3/5 |
| Гомельская | 2—3 | 1 | 1—2 | 0—1 | 2 2/5 | 1 | 3/5 | 4/5 | — |
| Калінінская | 3—4 | 1 | 2—3 | 0—1 | 3 | 1 | 1 | 1 | — |
| Магілеўская | 4—5 | 1 | 2—3 | 0—1 | 5 | 1 | 2 | 1 | 1 |
| Аршанская | 3—5 | 1 | 2 | 0—3 | 3 3/5 | 1 | — | 2 | 3/5 |
| Віцебская | 4 | 1 | 2—3 | 0—1 | 4 | 1 | 1/2 | 2 1/3 | 1/6 |
| У сярэднім | 3,7 | 1 | 2,3 | 0,4 | 3,5 | 1 | 0,9 | 1,2 | 0,2 |

З данае табліцы бачым, што па штатах меркаваўся амаль аднолькавы лік агроработнікаў па раёнах розных акруг, толькі ў межах акругі можна было рабіць зьмены, павялічваючы або склад памочнікаў на 1—2 чал., або дадаючы аднаго спэцыялістага. Толькі Гомельская акруга, якая толькі-што была далучана, мела абмежаваныя магчымаці па 2—3 чалавекі на раён, а рэшта акруг мелі магчымасьць трымаць па 3—4 чалавекі, а ў спэцыялізаваных раёнах і па 5 агроработнікаў.

Той факт, што Мазыршчына магла мець больш агроработнікаў, чым Меншчына і нават Віцебшчына ды Случчына, сьведчыць аб тым, што да гэтага часу ня было ніякага раёнаваньня, разьмяшчэньня агропэрсоналу па тэрыторыі БССР. Прынцып „ураўнаньня“ пануе да сучаснага моманту ў Беларускай організацыі, тымчасам мы ўпэўнена кажам, што гушчыня агрономічнае сеткі павінна адпавядаць інтэнсыўнасьці сельскае гаспадаркі.

Другое, аб чым сьведчаць лічбы штатных меркаваньняў, што ў кожным раёне павінен быць райагроном, 2—3 памочнікі і ў некаторых раёнах спэцыялістых, а падраённыя агрономы па штатах зусім не прадугледжваліся. Жыцьцё-ж пайшло зусім па іншых рэйках—коштам звычайных памочнікаў, некаторыя акругі пачалі прызначаць падраённых агрономаў і тым выразна сталі на шлях пабудовы набліжанае да насельніцтва вучастковае формы агроорганізацыі.

У гэтым сэнсе на першым месцы стаіць Мазырская, Магілеўская, Бабруйская і Слуцкая акругі.

Што-ж да якаснае характарыстыкі складу агропэрсоналу, дык мы маем наступныя лічбы.

Па нацыянальнаму складу мы маем: а) сярод—райагрономаў: беларусаў 30, або 76,9%, расійцаў—5, або 12,8%, латышоў—3, або 7,7% і яўрэяў—1, або 2,6%; б) сярод памочнікаў: беларусаў—67, або 78%, расійцаў—8, або 9,3%, яўрэяў—6, або 6,9%, палякаў—3, або 3,5% і іншых нацыянальнасьцяй 2 чалавекі—або 2,3%; сярод спэцыялістых: беларусаў—8, або 61,5%, расійцаў—2, або 15,4% і іншых—3 чалавекі, або 23,1%.

Такім чынам, па ўсім групам работнікаў мы маем 76,1% беларусаў і толькі 23,9% іншых нацыянальнасьцяй—10,9% расійцаў, 5,9% яўрэяў і 7,1% іншых.

Тымчасам, калі прасачыць, як гэтыя „беларусы“ ўжываюць беларускую мову, што зьяўляецца канечным патрэбным у першую чаргу для мясцовых агрономаў, дык мы бачым, што 13, або 33,3% з дасьледваных раёнаў, запоўнілі ўкладзеную пабеларуску анкету парасійску. Больш таго, адказвалі парасійску якраз тыя раёны, дзе адзначана, што ў раёне ўсе работнікі беларусы. Больш за ўсё ня ўжываюць беларускае мовы віцебскія агрономы, дзе з 6 адказаўшых раёнаў у 4 раёнах пішуць парасійску. На другім месцы стаіць

Гомельшчына (3 раёны), і, як ня дзіўна, Случчына, Меншчына, Барысаўшчына, Магілеўшчына і Мазыршчына. Толькі Калінінщчына, Бабруйшчына і Аршаншчына імкнуцца гаварыць і пісаць хаця на „ломанай“ беларускай мове. Добра ўжываючых беларускую мову амаль зусім няма—відаць агрономічная організацыя не надае яшчэ гэтаму фактару, адраджэньня гаспадаркі праз нацыянальную форму, належнае ўвагі.

Па соцыяльным пахаджэньні мы маем: а) сярод райаграномаў: сялянскага пахаджэньня—25 чалавек, або 64,1%, служачых 9, або 23,1%, рабочых—1, або 2,5%, 4 чалавекі, або 10,2% не адзначылі свайго пахаджэньня;

б) сярод памочнікаў і падраённых агрономаў: сялян—49, або 56,9%, служачых—24, або 27,9%, рабочых—2, або 2,3%, і 11 чалавек, або 12,9%, не адзначылі свайго пахаджэньня;

в) сярод спэцыялістых: сялян—7, або 53,8%, служачых—4, або 30,8%, 2, або 15,4% не адзначылі свайго пахаджэньня.

Такім чынам, пераважнай групаю сярод усіх катэгорый аграработнікаў зьяўляецца група сялянскага пахаджэньня (каля 58%), потым група выхадцаў з інтэлігентных колаў (26,1%) з рабочых, толькі 2,0%; рэшта мяшчан і неадзначыўшых свайго пахаджэньня. Як бачым, склад агропэрсоналю вельмі дэклясаваны.

Па партыйнасьці мы маем: а) сярод раённых агрономаў 4 чалавекі членаў і кандыдатаў УсеКП(б), або 10,3%, а рэшта беспартыйных 89,7%.

б) сярод падраённых, памочнікаў і спэцыялістых партыйцаў і кандыдатаў 5 чалавек (5,1%), комсамольцаў 16, або 16,1% і беспартыйных 67 чалавек, або 78,8%. Як бачым, партыйцаў вельмі мала яшчэ працуе ў агрономічнай організацыі, на гэтым адказным фронце соцыялістычнага будаўніцтва. Толькі дапаможныя кадры пачынаюць папаўняцца комсамольскай моладзьдзю. Мабыць у значнай ступені гэтым і тлумачыцца адсутнасьць выразнае клясавае лініі ў савецкай агрономіі.

Па ўзросту аграработнікаў мы маем такія хістаньні:

а) сярод райаграномаў ад 23 год да 48 год. Да 25 год—7 чал., ад 25 да 35 год—23 ч. і звыш 35 г.—9 чалавек. Сярэдні ўзрост 30½ год;

б) сярод падраёных і памочнікаў хістаньні ад 19 да 64 г., з якіх да 25 год—34 чал., ад 25 да 35 г.—42 чал. і звыш 35 год—8 чалавек. Сярэдні ўзрост—27 гадоў;

в) сярод спэцыялістых ад 22 да 48 год. Так, да 25 год—5 чал., ад 25 да 35 г.—5 чал. і звыш 36 г.—3 чал. Сярэдні ўзрост—28 год. Як бачым, у масе агропэрсоналу Беларусі досыць малады—кіруючага пэрсоналу 30½ г., спэцыяльнага—28 і дапаможнага 27 год. Адным словам, па ўсіх групах агропэрсоналу мы маем пераважную большасьць маладых працаздольных людзей.

Адпаведна ўзросту мы маем і надта маладую па агрономічнаму стажу організацыю. Так, сярод памочнікаў мы маем людзей з практычным стажам па некалькі месяцаў і сярэдні стаж для ўсіх 96 чалавек памочнікаў і падраёных агрономаў складае 3,5 г., а для раёных агрономаў толькі 6 год.

Аднак, горш за ўсё стаіць справа з с.-г. адукацыяй. Людзей з вышэйшай с.-г. адукацыяй нават у кіруючай частцы вельмі мала, толькі 13 чал., або 33,4%, а сярод дапаможнага пэрсоналу толькі 10,5%.

Каб больш відавочна прадэмонстраваць склад агропэрсоналу дасьледваных 39 раёнаў, прыводзім наступную табліцу падзелу работнікаў розных катэгорый па адукацыі і стажу.

| Групы работнікаў | Вышэйшая | | | Сярэдняя | | | Ніжэйшая | | | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Ст. да 3 год | Ст. да 10 год | Звыш 10 год | Ст. да 3 год | Ст. да 10 год | Звыш 10 год | Ст. да 3 год | Ст. да 10 год | Звыш 10 год | |
| Райагрономы . . . . | 10 | 3 | 0 | 4 | 10 | 6 | 0 | 2 | 4 | 39 |
| у %% . . . . | 25,7 | 7,7 | — | 10,3 | 25,6 | 15,3 | — | 5,1 | 10,3 | 100% |
| Памочнікі і падраёныя агрономы . . . . . | 7 | 2 | 0 | 45 | 13 | 5 | 3 | 5 | 5 | 85 |
| у %% . . . . | 8,2 | 2,3 | — | 53,9 | 15,3 | 5,9 | 3,5 | 5,9 | 5,9 | 100% |
| Спэцыялістыя . . . . | 3 | — | — | 5 | 2 | 1 | — | 1 | 1 | 13 |
| у %% . . . . | 23,1 | — | — | 38,5 | 15,3 | 7,7 | — | 7,7 | 7,7 | 100% |
| Усяго | 20 | 5 | — | 54 | 25 | 12 | 3 | 8 | 10 | 137 |
| у %% . | 14,6 | 3,6 | — | 39,4 | 18,2 | 8,8 | 2,2 | 5,9 | 7,3 | 100% |

Як бачым з табліцы, пераважная большасьць раёных агрономаў скадаецца з людзей з сярэдняй адукацыяй (51,2%), на другім месцы стаяць агрономы з вышэйшай адукацыяй (33,4 проц.) і ёсьць нават з ніжэйшай адукацыяй (15,4 проц.).

Праўда, з ніжэйшай адукацыяй затрымаліся людзі з вялікім агрономічным стажам, звыш 10 год, але згадзіцца з такім становішчам, каб людзі з ніжэйшай адукацыяй маглі поўнасьцю абхапіць усю проблему рэорганізацыі гаспадаркі вельмі цяжка. Бязумоўна, чалавек, маючы 10—15 год агрономічнага стажу вельмі каштоўны, з вялікім посьпехам можа быць выкарыстана ў ролі выканаўцы простых мерапрыемстваў, але не на кіруючай ролі. Той факт, што большасьць агрономаў з вышэйшай адукацыяй мае стаж да 3 год, сьведчыць аб тым, што набор людзей з вышэйшай адукацыяй толькі-толькі пачынаецца і нават ня мае выразных пэрспэктыў на пашырэньне. Аб гэтым сьведчыць і той факт, што сярод памочнікаў агрономаў толькі 7 чалавек (8,2 проц.) стажыруе і рыхтуецца да адказных пасад. Легенда аб тым, што маладым работнікам з вышэйшай адукацыяй не даюць ходу старыя агрономы, павінна быць рашуча адхілена, мы маем толькі 2-х чалавек, якія маюць 3 і 5 год практычнага стажу і працуюць на пасадах памочнікаў і то ў тых раёнах, дзе райагроном з солідным стажам. Проста людзі з вышэйшай адукацыяй яшчэ ня ідуць на работу ў вёску і наша акадэмія працуе на якісьці другі рынак кваліфікаванае работы, толькі не для беларускае агрономічнае організацыі. Прычыны такога становішча трэба шукаць у іншым месцы, сярод якіх пачэснае месца займаюць умовы работы і аплата нізавых аграработнікаў.

Процантныя суадносіны кадраў памочнікаў па адукацыі і стажу яскрава сьведчаць аб тым, што нашы агрономічныя кадры папаўняюцца асобамі з сярэдняй адукацыяй. 53 проц. складу памочнікаў мае сярэднюю адукацыю з практычным стажам да 3-х год. Вось гэта палохаючы факт. Мы ў БССР ня маем ніводнага тэхнікуму агульна-агрономічнага кірунку, усе тэхнікумы спэцыяльнага тыпу, а кадры унівэрсальных агрономаў (памочнікаў і падраённых) папаўняюцца з тэхнікумаў. Цяжка ўявіць, як будзе рэорганізаваць усю гаспадарку садавод ці жывёлавод з сярэдняй адукацыяй. Гэтая зьява лішні раз падкрэсьлівае, што нашы агрономічныя кадры папаўняюцца без належнага кіраўніцтва, бяз жадных прынцыпаў падбору работнікаў—-абы запоўніць штаты. З такім становішчам пагадзіцца далей ня можна і НКЗБ трэба зьвярнуць вялікую ўвагу на комплектаваньне агрономічнага апарату.

Калі мы гаворым аб неабходнасьці сартаваньня насеньня, як аб фактары, які павялічвае продукцыю ўраджаю, дык уважлівае сартаваньне і павышэньне кваліфікацыі агропэрсоналу ёсьць першапачатковае мерапрыемства. Лепш мець у два разы менш па колькасьці агропэрсоналу і стварыць спрыяючыя ўмовы для высокакваліфікаваных работнікаў. А што ўмовы для работы ня спрыяючыя, што тут трэба штосьці перагледзець, аб гэтым ускосна сьведчаць наступныя лічбы тэрміну работы агрономаў на адным месцы. У групе раённых аграномаў мы маем такія хістаньні: ад 3-х месяцаў да 3—4 год, а ў сярэднім па 31 раёну раённы агроном працуе на адным месцы 1—2 гады. Толькі адзначана два выпадкі, калі раённы агроном працуе на адным месцы 5 і 9 г. Такі-ж малюнак мы маем і адносна падраённых агрономаў і памочнікаў. з 74 памочнікаў толькі 12 чалавек працавала на адным месцы па 2—3 гады, а ў сярэднім тэрмін работы гэтае групы работнікаў складае 1,1 году. Той-жа малюнак і ў групе спэцыялістых—1,4 год.

Сапраўды ажыцьцяўляецца старая земская прыказка, што „агроном прыяжджае, аб'яжджае і выяжджае", няўжо можна чакаць продукцыйнай работы ад агранома, калі ён не пасьпеўшы агледзецца і азнаёміцца з умовамі раёну, як ўжо перакідаецца па тых ці іншых прычынах у другі раён. Становішча вельмі пагрознае і калі ўлада рашуча ставіць пытаньне аб уздыме ўраджайнасьці і вытворчасьці сельскае гаспадаркі, на гэты факт трэба зьвярнуць сур'ёзную ўвагу. Трэба стварыць такія ўмовы, каб у мясцовых агрономаў быў стымул для больш працяглага часу работы на адным месцы, каб мясцовыя органы больш уважліва адносіліся да работы сваіх агрономаў. Толькі ўпартая, сыстэматычная, мэтодычная работа агранома на працягу некалькі пяцёхгодзьдзяў можа гарантаваць вялікія дасягненьні. Тут патрэбны рашучыя меры.

Падагульняючы гэтыя даныя, можна адзначыць, што ў Беларусі мы маем маладую, працаздольную агрономічную організацыю, але ня выразную ў політычных і нацыянальных адносінах і слаба кваліфікаваную. Гэтым у значнай ступені тлумачыцца вялікая цягучасьць агропэрсоналу па раёнах і нявыразны кірунак работы агрономаў і адсутнасьць выразнасьці ва ўзаемаадносінах паміж агрономамі і райвыканкомамі.

Бязумоўна, вялікі процант канцылярскае і іншае няпляна-

вае работы агрономаў, у значнай меры, тым і тлумачыцца, што агрономы, не адчуваючы пад сабою моцнага агранамічнага грунту, асабліва маладыя з сярэдняй адукацыяй і старыя з ніжэйшай, ахвотна сядзяць у канцылярыях, прыкідаючыся вельмі занятымі людзьмі і ахвотна выконваюць якія-хаця заданьні РВК, каб толькі быць слухмянымі і ня страціць пасаду. Работа-ж па рэорганізацыі гаспадаркі вельмі адказная, патрабуе вялікае падрыхтоўкі і стажу і таму шмат хто з пералічаных агрономаў проста баяцца шчыльна да яе падыходзіць, каб не скомпромэтаваць сябе і перад насельніцтвам, і перад мясцовымі органамі. А раз у працаўніка не хапае агрономічнага аўторытэту, няма актыўнасьці ў агрономічнай рабоце, дык і мясцовыя органы скрозь пальцы глядзяць на такіх агрономаў, ня вельмі затрымліваюць пры жаданьні апошняга перайсьці ў другі раён і выкарыстоўваюць на што хаця, нават і на перапіску паперы, абы хоць як-небудзь ды выкарыстаць яго.

Адсюль асноўны вывад адносна агропэрсоналу. Трэба зьвярнуць вялікую ўвагу па павышэньне якасьці нашай агрономіі, на павышэньне кваліфікацыі здольных агрономаў, якія ўжо працуюць і на стварэньне адпаведных умоў для прыцягненьня моладзі з вышэйшай с.-г. асьветаю. Беларускую с.-г. акадэмію трэба зрабіць сапраўднаю кузьняю па выхаваньні беларускіх агрономаў.

Трэба дабіцца такога становішча, каб на працягу 3—5 год ні адзін, скончыўшы акадэмію, агроном ня выехаў за межы Беларусі і сваёй адукацыяй і аўторытэтам падняў аўторытэт беларускае агрономічнае організацыі на адпаведную вышыню. Тым-жа, хто ў свой час ня меў магчымасьці атрымаць вышэйшую с.-г. асьвету, і хто мае на гэта ўсе правы, тым Наркамзем і акадэмія павінны даць магчымасьць падвысіць сваю кваліфікацыю як праз спэцыяльныя курсы, так і праз экстэрнат за акадэмію.

Акадэмія павінна стаць станцыяй, якая заражае агрономічных работнікаў усёй сеткі энэргіяй для творчае работы па перабудове сялянскіх гаспадарак на социялістычны лад! Да канца пяцігодкі трэба дасягнуць такога становішча, каб кожны агроном Беларусі лічыў сябе выхаванцам Беларускае акадэміі і роўнапраўным членам беларускай організацыі, якая ажыцьцяўляе социялізм у сельскай гаспадарцы адсталае краіны!

## Якія формы агрономічнае організацыі існуюць у БССР і структура агрономічнага апарату.

Адпаведна адміністрацыйнаму падзелу і структуры савецкіх органаў беларуская агрономічная організацыя мае трохступянёвую іерархію—цэнтр, акруга, раён. У цэнтры організацыі—генэральны штаб, кіруючы і плянуючы орган—Наркамзем Беларускае С. С. Рэспублікі, у асобе інспэктарыяту с.-г. групы; перадатачным зьвяном зьяўляюцца акруговыя зямельныя органы ў асобе акруговага агронома і штату спэцыялістых-інструктароў па вузкіх галінах сельскае гаспадаркі; першапачатковаю ячэйкаю агрономічнае організацыі зьяўляецца апарат агрономічнага вучастку, які „супадае з межамі адміністрацыйна-гаспадарчых раёнаў“.

Структуру агрономічнае організацыі ў простастаўным разрэзе магчыма схэматычна падаць у наступным выглядае: (гл. схэму на стар. 66).

Як бачым, усе ніткі вялізарнага апарату цэнтру і акругі зьбіраюцца да аднае асобы—раённага агронома, і выконваюцца або непасрэдна, або праз таго ці іншага памочніка, ці спэцыялістага, калі ён ёсьць у раёне. Якое хаця мерапрыемства, распрацаванае тым ці іншым спэцыялістым, праходзіла праз прызму замнаркома зямляробства, кіруючага с.-г. групаю, потым праз прызму акруговага агронома ішло да акруговага спэцыялістага, назад зноў да акруговага агронома, ад якога ішло далей для выкананьня раённага агронома. А калі прыняць пад увагу, што кожны акруговы спэцыялісты, а тым больш акруговы агроном могуць па ўласнай ініцыятыве прапанаваць райагроному свае запатрабаваньні, дык гушчыня прыводных нітак ва ўсякім разе ўдвойваецца. Гэта толькі па лініі выкананьня заданьня зьверху. А калі прыняць пад увагу, што раённы агроном

зьяўляецца не самастойнай адзінкай цэнтралізаванага апарату а служачым мясцовага раённага выканаўчага камітэту, і што мясцовыя органы маюць права выкарыстоўваць яго па сваім жаданьні, дык для нас стане зусім зразумелым тая перагрузка і раскіданасьць у рабоце, якую мы назіраем у сучасны




момант. Агроном займаецца ўсім чым хочаце, ня мае хвілінкі для адпачынку, а вынікаў работы ня відаць, бо непасрэднай работаю па рэорганізацыі гаспадаркі ў сыстэматычным, плянавым парадку яму займацца не даюць.

Нам здаецца, што Наркамзем, заклікаsuccessful дзяржаваю ўстанаўляць асноўныя кірункі, асноўныя вехі соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі ў плянавым парадку, сам парушае гэтую плянавасьць, калі штодня накіроўвае цэлыя хвалі дадатковых цыркулярных распараджэньняў, загадаў ды кампаній.

Паводле нашай думкі, Наркамзем, на падставе аналізу сучаснага становішча сельскае гаспадаркі і палітычных установак партыі і савецкае ўлады, павінен распрацаваць генэральны плян рэконструкцыі сельскае гаспадаркі ў рэспубліканскім маштабе, на падставе якога і, улічваючы рэальныя магчымасьці данага году, складае гадавы вытворчы плян. У пляне павінны быць прадугледжаны ўсе асноўныя мерапрыемствы ў параённым разрэзе. А раз так, дык няма месца для выпадковых распараджэньняў, а значыць, не павінна быць і рознае канцылярскае бюрократычнае пісаніны. Справа інспэктароў с.-г. групы консультаваць акруговых работнікаў па пытаньнях мэтодыкі

ажыцьцяўленьня вызначанага пляну і сачыць за яго выкананьнем. Паколькі-ж адзін спэцыялісты ня можа прасачыць за выкананьнем пляну на тэрыторыі ўсёй рэспублікі, паколькі ў кожнай акрузе павінен быць яго непасрэдны памочнік, інструктар-контролёр адпаведнай галіны, які непасрэдна займаецца інструктаваньнем і контроляваньнем работы раённых работнікаў данай спэцыяльнасьці.

Мы пераконаны, што калі разгрузіць наркамзэмаўскіх інспэктароў ад канцылярскай пісаніны ды забясьпечыць рэальныя магчымасьці выкананьня інспэктарскіх функцый, забясьпечыць іх сродкамі перасуваньня па рэспубліцы, дык якасьць работы ўсяго агрономічнага пэрсоналу значна павялічылася-б. Характар работы інспэктароў павінен быць на 75 проц. па-за сьценамі Наркамзэму і толькі на 25 проц. у канцылярыі па складаньні гадавых плянаў і справаздач.

Акруговай організацыі мы надаем ролю перадатчыка асноўных кірункаў с.-г. політыкі і плянавых вех Наркамзэму. Ніякіх гэнэральных і пэрспэктыўных плянаў акругі не павінны распрацоўваць, бо, па-першае, для такой работы ў акругах няма адпаведных умоў, а самае галоўнае, у межах такой тэрыторыі, як акруга, нельга самастойна выявіць сталыя законамернасьці ва ўсіх галінах сельскае гаспадаркі. Зусім даволі было-б і таго, каб акругі падалі корэктывы ў рэспубліканскі гэнэральны плян. На абавязках акруговых работнікаў павінна ляжаць дапамога раённым агрономам скласьці конкрэтныя вытворчыя пляны, так, каб наогул па акрузе ажыцьцявіць тыя мерапрыемствы, якія вымагае рэспубліканскі плян. Далей ідзе консультацыя ды інструктаж мясцовых агрономаў па мэтодыцы ажыцьцяўленьня больш-менш складаных мерапрыемстваў, назіраньне за сваячасовым і поўным ажыцьцяўленьнем плянавых заданьняў. У тых-жа выпадках, калі на раёне няма спэцыялістых адпаведнае галіны, дык акруговыя інструктары могуць ажыцьцяўляць спэцыяльныя мерапрыемствы або праз падрабязны інструктаж райагронома ці яго памочніка, або непасрэдна самі.

Адным словам, акруговыя работнікі, будучы непасрэднымі памочнікамі наркамзэмаўскіх інспэктароў, павінны яшчэ ў большай ступені займацца непасрэднай работай на раёнах, а не ў канцылярыях акрз'у.

Вызначаючы нашыя прынцыповыя ўстаноўкі, мы паданую схэму перарабілі-б наступным чынам. З Наркамзему праз акруговых агрономаў да райагронома ідуць адзіным каналам асноўныя ўстаноўкі с.-г. політыкі, укладзеныя ў вытворчы плян, і тым-жа парадкам у канцы году ў НКЗБ зьвяртаецца гадавая справаздача, а консультацыя і контроль па розных мерапрыемствах ажыццяўляецца непасрэдна інспэктарамі праз акруговых інструктароў, галоўным чынам, шляхам непасрэдных выездаў, а не цыркулярамі і перапіскаю.




Прапанованую намі схэму можна намаляваць так (гл. схэму).

Аднак, нас больш за ўсё цікавіць форма агрономічнае організацыі ў межах адміністрацыйных раёнаў, бо ад формы організацыі рабочага апарату ў значнай ступені залежыць продукцыя агрономічнае работы. Як ужо адзначалася ў гістарычным нарысе, у нас офіцыйна існуе вучастковая форма організацыі, з устаноўкаю НКЗБ на пераход да спэцыялізаванае (раённае) агрономіі. Адзначаўся і другі факт, што на Беларусі пачаўся процэс шуканьняў новых організацыйных форм. У выніку да сучаснага моманту мы маем 10 адмен розных організацыйных форм. Прычым зусім выразна вызначалася эволюцыя формы ад цэнтралізаванае (у межах раёну) з абслугоўваньнем насельніцтва з раённага асяродку да дэцэнтралізаванае формы з падзелам раёну на пэўны лік агрономічных вучасткаў. Прыблізна можна сказаць, што з 39 дасьледваных раёнаў у 14 раёнах існуе цэнтралізаваная сыстэма, а ў 25 раёнах так

ці іначай ажыцьцяўляецца прынцып падзелу раёнаў на вучасткі, з якіх у 15 раёнах прынцып падзелу праведзены поўнасьцю, а ў 10 раёнах існуюць розныя пераходныя формы.

У першай групе, цэнтралізаванай, мы назіраем дзьве адмены, а менавіта, першая адмена, калі агрономічны штат складаецца з раённага агронома і яго 2—3 памочнікаў і ўсе жывуць у адным раённым асяродку, і другая адмена, калі ў дадатак да агрономаў унівэрсальнага тыпу дадаецца яшчэ адзін спэцыялісты. Гэтыя адмены можна схэматычна намаляваць наступным чынам:

Умоўныя знакі:

раённы агроном
памочнік
падраённы агроном
спэцыялісты
сялянскія гаспадаркі



Схэма 1.



Схэма 2.

Як бачым, у абедзьвюх схэмах мы маем аднолькавае становішча: і раённы агроном, і яго памочнікі выяжджаюць на раён у меру патрэбы і ў залежнасьці ад таго, каго пашле раённы агроном. Сёньня работнік ідзе ажыцьцяўляць якое - небудзь мерапрыемства ў паўночную частку раёну, а заўтра гэты-ж чалавек можа трапіць у паўднёвую або іншую частку раёну. У выніку ўсе агрономы аднолькава ведаюць увесь раён, аднолькава працуюць „наскокам“ ва ўсіх частках раёну, ажыцьцяўляючы выхвачанае мерапрыемства, мала ўвязваючы з тым, што раней было зроблена ў гэтай частцы раёну. Калі-ж прыняць пад увагу, што агрономы ў

сярэднім працуюць у адным раёне ня больш, чым 1½ гады, дык для нас становіцца зусім зразумелым, што і знаёмства агронома з раёнам і характар мерапрыемстваў, якія ажыцьцяўляюцца, выключна павярхоўныя. Што-ж рэальнага можа зрабіць чалавек за 2—3 паездкі ў адно месца на працягу году? Зразумела, нічога, апрача хіба прачытаньня 2—3 лекцый і закладкі 2—3 паказальных вучасткаў, вось і ўсё, а работа па рэарганізацыі сялянскіх гаспадарак так і адкладваецца да больш спрыяючага моманту.

А трэба прыняць пад увагу, што і самыя выезды на раён ня так-то лёгка ажыцьцяўляць з аднаго асяродку—з аднаго боку, нашы шляхі зносін такія, што можна перасоўвацца чарапахавымі крокамі, а з другога боку, і перасоўвацца-то няма на чым. Так, у 1927 г. з 39 раёнаў мелася па два кані на раён толькі ў 9 раёнах, а ў 22 раёнах было ўсяго па 1 каню на 3—4 аграработнікаў, ды так у двух раёнах—Носаўскім у Гомельшчыне і Чэрыкаўскім у Калінінщчыне,—трэба было і за гэтага каня змагацца з работнікамі РВК, бо яны карысталіся ім, як сваім, на ўласныя патрэбы. Восем-жа раёнаў (Любанскі, Старобінскі, 1-шы Бабруйскі, Лельчыцкі, Нараўлянскі, Калінкавіцкі, Каралінскі і Шклоўскі) зусім ня мелі ніводнага каня. Сродкаў-жа, якія вызначаліся на перасоўваньне па ўсіх раёнах, аказалася мала. Зразумела, раз няма на чым езьдзіць, дык прыходзіцца перасоўвацца або „апостальскім спосабам“, вярхом на кіі, або сядзець у канцылярыі і пісаць, пісаць без канца. Добра, што папера ўсё трывае, і ніхто ў яе ня кідае вокам, а каб пацікавіцца, што там пішацца, дык мы ўпэўнены, што карыснага з пункту погляду аградапамогі вельмі мала.

Каб ня быць галаслоўным, мы адзначым, што пры абслугоўваньні раёну з аднаго асяродку ў рабоцеўсіх агрономаў, мы маем самы большы процант канцылярскай работы (16,2 проц.), самы большы процант іншае няплянавае і неагрономічнае работы (15 проц.) і самы меншы процант па коопэрацыі (4,5 проц.), па зямляўпарадкаваньні (8,1 проц.) і па рэарганізацыі гаспадаркі (16,8 проц.). Падрабязны аналіз і параўнаньні з іншымі організацыйнымі формамі зробім у наступным разьдзеле пры разглядзе зьместу работы агрономаў і фактараў, якія ўплываюць на характар работы агрономаў.

Форма агрономічнай організацыі, паказаная ў схэме № 1 снавала ў 1927 годзе ў наступных раёнах: Узьдзенскім, Халопеніцкім, Носаўскім, Гомельскім, Дзятлаўскім, Чэрыкаўскім, Дубровенскім, Талочынскім, Гарадоцкім, Бешанковіцкім, Сеньненскім, Крупскім, Дрыбінскім і Багушэўскім. Розьніца толькі тая, што ў апошніх 3-х раёнах Аршаншчыны ў дадатак да унівэрсальных агрономаў працуе яшчэ і спэцыялісты-жывёлавод, як паказана ў схэме № 2.

Аднак, гэтая форма большасьць раёнаў не задавальняе, і пачынаецца шуканьне новых форм. Так, у Самахвалавіцкім, Любаньскім і Сіроцінскім раёнах мы сустракаем наступную схэму організацыі (гл. схэму).

З гэтае схэмы мы бачым, што з павялічэньнем ліку агроработнікаў адміністрацыйны раён падзяляецца на сфэры ўплыву таго ці іншага агропрацаўніка. Кожны агроном самастойна абслугоўвае пэўную частку раёну, жывучы ў раённым асяродку, прычым і раённы агроном мае таксама вучастак, цэнтральны для непасрэднага абслугоўваньня. Толькі раённы зоотэхнік павінен абслугоўваць усю тэрыторыю адміністрацыйнага раёну. Такая організацыйная форма ўжо значна набліжае агронома да насельніцтва, калі-б не перашкаджала адсутнасьць сродкаў перасуваньня.



Схэма 3.

Аднак, сказаўшы „А“, трэба сказаць і „Б“. Раз мы прызналі, што лепш падзяліць тэрыторыю на пэўны лік падраёнаў, дык няма ніякай рацыі жыць замацаванаму агроному па-за межамі свайго раёну. Для чаго патрэбна кожны раз рабіць два канцы ў 15—20 кілёмэтраў, каб з РВК трапіць у свой падраён. Лёгіка рэчаў кажа, раз мы прызнаем прынцып, дык яго трэба цалкам і ажыцьцяўляць, а значыць—прызначаным на падраёны агрономам трэба і жыць у сваіх падраёнах. Праўда, у цэлым шэрагу раёнаў не заўсёды

можна знайсьці ў падраёне нават адпаведнае для агронома кватэры, ня кажучы ўжо аб агропункце, і гэта значна спыняе тэмп набліжэньня агрherдапамогі да насельніцтва. Галоўным чынам, дзякуючы гэтай прычыне, процэс расьсяленьня агрономаў па падраёнах вельмі затрымліваецца, у выніку чаго мы маем пяць пераходных форм організацыі. Так, у раёнах Сьмілавіцкім, Старадароскім, Уваравіцкім і Клічаўскім зьявілася магчымасьць „адсадзіць“ аднаго агронома на падраён, а рэшта жыве яшчэ ў раённым цэнтры. Схэма пабудовы такой організацыі мае наступны выгляд (гл. схэму).


Схэма 4.

Умоўныя знакі тыя-ж, што і раней, толькі перакрыжаваны квадрат ☒, які азначае падраённага агронома.

У гэтай схеме мы бачым ужо поўнае вылучэньне аднаго агронома на падраён.

Амаль такі-ж малюнак мы назіраем і ў раёнах Бярэзінскім ды Каралінскім, дзе ўжо цалкам вылучыўся адзін агроном, але дзе, апрача 3-х унівэрсальных агрономаў, ёсьць яшчэ і спэцыялісты - жывёлавод. Схэма пабудовы агрономічнае організацыі гэтых двух раёнаў мае наступны выгляд:


Схэма 5.

Розьніца паміж схэмаю 4 і 5, як бачым, у тым, што ў першым выпадку ўся тэрыторыя падзелена на сфэры ўплыву, а ў схеме 5-ай вылучаны толькі адзін падраён, а рэшта тэрыторыі абслугоўваецца аб'яднанымі сіламі райагронома-памочніка і райзоотэхніка. З павялічэньнем-жа штату

агроработнікаў пачынаецца больш інтэнсыўнае расьсяленьне агрономаў на падраёны. Так, у раёнах Плешчаніцкім, 1-м Бабруйскім, Жлобінскім і Шклоўскім мы маем па два вылучаных падраёны і па два агрономы ў цэнтры раёну. Розьніца толькі ў тым, што ў першых двух раёнах (схэма 6) агрономы, якія жывуць пры РВК, абслугоўваюць рэшту раёну аб'яднанымі сіламі, а ў двух апошніх раёнах (схэма 7) тэрыторыя падзелена таксама на сфэры ўплыву.



Схэма 6.

Акрамя таго, у першым выпадку няма спэцыялістага, а ў схэма 7 мы маем і спэцыялістага-жывёлавода, які абслугоўвае ўвесь раён.

Аднак, у некаторых выпадках мы назіраем і перагінаньне палкі—поплеч з процэсам набліжэньня агродапамогі да насельніцтва, узмацняецца тэндэнцыя раённага агронома зусім адарвацца ад непасрэднай вытворчай работы. Так, у раёнах Старобінскім, 2-ім Бабруйскім і ў Сураскім раёны падзелены на 3 агровучасткі, прычым цэнтральны вучастак абслугоўваецца памочнікам агронома, які жыве пры РВК, а сам раённы агроном займаецца толькі ўвязкаю работы вучастковых агрономаў. У выніку мы маем такую схэму 8-ую. У гэтых схэмах, як бачым, выразная тэндэнцыя адрыву ад непасрэднае агрономічнае работы. Такую тэндэнцыю мы лічым



Схэма 7.

памылковаю, патрабуючай выпраўленьня. Мы лічым, што раённы агроном павінен займацца ўвязкаю работы ўсяго агропэрсоналу ў раёне, уключаючы сюды і работнікаў коопэрацыйнае, колгаснае і саўгаснае агрономіі, але ён павінен быць „старшым сярод роўных“ і не павінен адрывацца ад непасрэдна вытворчае работы, не павінен пераджацца ў бюрократычнага кіраўніка. Хаця невялікі па тэрыторыі, хай сабе сельсавет, але павінен быць пэўны вучастак у раённага агронома.



Схэма 8.

Паколькі мы лічым, што на пасаду раённых агрономаў і ў далейшым будуць прызначацца, а мабыць, і абірацца, лепш падрыхтаваныя, з большымі агрономічнымі здольнасьцямі агрономы, пастолькі агрономічны вучастак гэтых агрономаў павінен быць узорным для ўсіх вучасткаў раёну. Ня шляхам паперы, цыркуляраў павінен кіраваць работаю вучастковых агрономаў раённы агроном, а шляхам відавочнага паказу, лепшым ажыцьцяўленьнем розных мерапрыемстваў. Сярод агрономаў аўторытэтным кіраўнікам будзе той, што здолее лепш організаваць работу на сваім вучастку.

Выходзячы з гэтых меркаваньняў і лічачы найбольш правільнай у сучасны момант форму вучастковае, набліжанае да насельніцтва організацыі, мы ідэальнаю схэмаю пабудовы агрономічнае організацыі ў раёне лічым схэмы 9 і 10.

У гэтых дзьвюх схэмах яскрава і да канца выяўлены прынцыпы падзелу адміністрацыйнага раёну на агрономічныя вучасткі, прычым і раённаму агроному астаўлена цэнтральная частка раёну для непасрэднага абслугоўваньня. Розьніца ў

схэмах толькі тая, што ў цэлым шэрагу раёнаў няма спэцыялістага, а ў некаторых такія работнікі ёсьць і, працуючы поплеч з раённым агрономам, абслугоўваюць увесь раён у адпаведнай галіне. Што гэтыя абедзьве схэмы могуць аднparticipate часна існаваць на абшарах Беларусі, аб гэтым ня можа быць і гутаркі. У цэлым шэрагу раёнаў гаспадарка не настолькі яшчэ дыфэрэнцыявалася, каб патрабавала спэцыяльнага абслугоўваньня, а значыць, у такіх раёнах будзе ўжывацца форма організацыі, вызначаная ў схэме 9-ай. Аб гэтым, між іншым, сьведчыць і той факт, што вызначаны па штату зоотэхнік у Капыльскім раёне працуе не па спэцыяльнасьці, а ў якасьці падраённага агронома, і толькі ў сваім падраёне вызначыўся адзін сельсавет, у якім магчыма ажыцьцяўляць чыста зоотэхнічную работу. Але, вядома, ёсьць цэлы шэраг раёнаў, дзе цалкам можа знайсьці сабе работу і спэцыяльны пэрсонал. У некаторых раёнах гэта будуць зоотэхнікі, у некаторых—ільнаводы, а ў некаторых—садаводы, гароднікі, пчаляры і г. д. У такіх выпадках можа цалкам ажыцьцяўляцца схэма 10.


Схэма 9.


Схэма 10.

Мусім падкрэсьліць, што адзначаныя намі формы—гэта не продукцыя фантазіі, а рэальна існуючыя факты. Так, форма

організацыі, вызначаная ў схэме 9, існуе ў 6 раёнах БССР (Капыльскі, Сьвіслацкі, Лельчыцкі, Калінкавіцкі, Сьвяцілаўскі), а вызначаная ў схэме 10—у трох раёнах (Жыткаўскі, Нараўлянскі і Ліозьнянскі).

Усяго-ж раёнаў, у якіх у тэй ці іншай ступені ажыцьцяўляецца прынцып падзелу на падраёны або вучасткі, ужо ў 1927 годзе было 25 (з 39 апісаных), што складае 64,1 проц.

Гэты факт павінен зьвярнуць на сябе ўвагу ўсіх зацікаўленых у правільнай пабудове агродапамогі на Беларусі і адчыніць вочы абаронцам пасьпяховага ажыцьцяўленьня прынцыпу раённае агродапамогі.

Надзвычайна каштоўныя вынікі мы атрымалі ад падагульненьня думкі мясцовых работнікаў па гэтым пытаньні. Так, за падзел раёну на агровучасткі выказаліся колектывы 33 агровучасткаў, або 84,7 проц. усіх даўшых адказ работнікаў, і толькі 6 раёнаў, або 15,3 проц.—за раённую агрономію. Характарна, што з 25 раёнаў, у якіх так ці інакш ажыцьцяўляецца пераход да вучастковае формы, выказаліся за апошнюю 20 раёнаў (80 проц.) і толькі 5 раёнаў за спэцыялізаваную агрономію; з 14 раёнаў цэнтралізаванае агрономіі толькі адзін раён выказаўся за спэцыялізаваную раённую агрономію, а 13 за падзел на вучасткі.

Мы прабавалі падагуліць выказаныя думкі за і проці вучастковае і раённае формы.

Лейт-мотывам прыхільнікаў раённае формы зьяўляецца тэза, што агроном ня можа быць унівэрсалістым (анкета № 1), што „агроном не всезнайка“ (№ 34), што дзякуючы унівэрсалізму нельга дасканала абслужыць усе галіны,—таму работа агрономаў куртатая, недаробленая (№ 20).

Пры раённай форме ня будзе распыленасьці (№ 34), ня будзе рознабою ў рабоце агрономаў (34). Кожная галіна сельскай гаспадаркі патрабуе абслугоўваньня, а гэта можа зрабіць толькі вузкі спэцыялісты (№ 20), бо адну галіну лягчэй вывучыць (№ 5). Самі агрономы будуць больш спэцыялізавацца (№ 5), а значыць, якасна лепш абслужаць раён.

Высоўваюцца і такія мотывы, што нельга агронома адарваць ад культурнага (раённага) асяродку, дзе і с.-г. музэй, і агрогабінэт, розныя організацыі і г. д. і што раскіданых па раёну агрономаў цяжка будзе абслугоўваць у сэнсе

канцылярскае перапіскі і сувязь з раёнамі будзе няжыцьцёвай (№ 2).

Аднак, самі-ж прыхільнікі гэтага раёну прызнаюць, што практыка вылучэньня аднаго падраёну дала станоўчыя вынікі—насельніцтва хутчэй прызвычайваецца да агронома і сам агроном больш зацікаўлены ў рабоце (№ 2).

Як бачым, мотывы больш проблематычнага зьместу, з лексыкону спэцаўскіх разважаньняў. Бязумоўна, лягчэй быць проста „спэцам", чым рэорганізатарам гаспадаркі; бязумоўна, лягчэй вывучаць адну галіну, чым быць усебакова-агрономічна адукаваным чалавекам; бясспрэчна, што весялей жыць у раённым асяродку, чым у якой-небудзь глухой вёсцы. Усё гэта так, але-ж савецкі агроном закліканы да рэорганізацыі сялянскіх гаспадарак, а яшчэ ніхто не давёў (і нават ня чуваць такіх мотываў), што рэорганізаваць гаспадарку магчыма шляхам паляпшэньня паасобных галін сельскае гаспадаркі. З гэтага пункту погляду ніхто з абаронцаў спэцыялізаванае агрономіі не падыходзіў і нават ніхто не адзначыў, што ў сялянскіх гаспадарках раёну выявіўся выразны, спэцыялізаваны кірунак.

Тымчасам, прыхільнікі вучастковае формы вельмі падрабязна ўгрунтоўваюць свае думкі.

Лейт-мотыў гэтае групы—гэта набліжэньне агронома да насельніцтва, для больш продукцыйнае работы па рэорганізацыі гаспадаркі. Гэты прынцып падкрэсьлены ў анкетах 18 раёнаў (№№ анкет: 3, 9, 10, 11, 12, 14, 16, 17, 18, 24, 25, 26, 29, 31, 32, 35, 37, 39). У анкетах 12 раёнаў яскрава падкрэсьліваецца, што гаспадарка селяніна не настолькі спэцыялізавалася, каб патрабавала спэцыяльнага абслугоўваньня (№№ 9, 10, 11, 12, 16, 19, 23, 27), што ў часе пераорганізацыі гаспадаркі яшчэ патрэбны агрономы ўсебакова-разьвітыя (№ 8 і 33), што патрэбен грамадзкі агроном, а не спэцыялісты (яшчэ ня час спэцыялістага) (№ 33 і 37), што спэцыялістыя знойдуць сабе работу пасьля перабудовы 50 проц. сялянскіх гаспадарак (№ 8), што яшчэ на доўгі час хопіць работы па ажыцьцяўленьні элемэнтарных палепшаньняў у гаспадарцы селяніна (№ 37) і агроном хоча гэтага ці не—павінен быць энцыклёпэдыстым і адказваць на ўсе гаспадарчыя запатрабаваньні вёскі (№ 6 і 18).

Адзначаўся і той факт, што нельга адначасова ісьці ў гаспадарку селяніна з цэлай групай спэцыялістых, па ўсіх спэцыяльнасьцях, бо адзін вузкі „спэц“ ня здолее разьвязаць усіх балючых пытаньняў гаспадара (№ 13) і што наш бюджэт ня зможа вытрымаць такога штату спэцыялістых (№ 13 і 21).

Другі, ня менш важны мотыў, гэта больш рацыянальнае выкарыстаньне наяўнага ўжо агропэрсоналу. Пры вучастковай організацыі можна больш рацыянальна выкарыстаць кваліфікаваныя сілы агроработнікаў (№№ 15, 17, 18, 24, 29, 31, 33, 37), ня трэба траціць часу на доўгія пераезды з раённага цэнтру да вёсак, доўгія пераезды вельмі адбіваюцца на здароўі агроработнікаў (№ 33), а асабліва пры дрэнных шляхох зносін (№ 3, 19, 29).

Апошні мотыў часта ўзмацняецца адсутнасьцю сродкаў перасоўваньня і мае самастойнае значэньне, што адзначана ў анкетах (№ 3, 19 і 29).

Нямалае значэньне набывае мотыў набліжэньня агронома да насельніцтва з мэтаю хутчэйшага азнаямленьня і вывучэньня раёну свае дзейнасьці, умоў гаспадараньня, запатрабаваньняў гаспадара і г. д.

Гэты мотыў падкрэсьлены ў 11 анкетах (3, 4, 7, 15, 16, 17, 18, 22, 26, 37, 38), з паказаньнем, што набліжэньне агронома да насельніцтва дазволіць хутчэй азнаёміцца з гаспадаркаю і што-небудзь зрабіць і за кароткі тэрмін (№ 7).

Падкрэсьліваліся і такія моманты, што селянін ніколі не адважыцца спэцыяльна паехаць да агронома за 25—30 вёрст, а за 5—6 вёрст з прыемнасьцю зойдзе і пагутарыць па самых дробных пытаньнях (№ 16—22), што набліжэньне агронома да сялянства дапамагае хутчэйшаму знаёмству, а знаёмаму агроному селянін будзе больш верыць, а таму і работа будзе больш плённая (4, 26, 31), а пры такіх умовах можна больш грунтоўна падыходзіць да рэорганізацыі гаспадаркі і замацоўваць мерапрыемствы, якія праводзяцца (3, 16, 17, 38).

Адзначаны і псыхолёгічны фактар перавагі вучастковае формы з пункту погляду самапачуцьця агронома. Самастойнасьць і адказнасьць у рабоце, адсутнасьць штогадзіннага падначальваньня раённаму агроному—„дае больш эмоцыі ў рабоце“ (№ 7) і што ў падраёне не патрэбна нават шмат

ініцыятывы ад агронома, бо само жыцьцё, само насельніцтва прымусіць і пакажа, што трэба рабіць (№ 16).

Апошняе сьцьвярджэньне, хоць і рызыкоўнае, бо супроцьлеглае звычайнаму погляду на вучастковага агронома, як на выдатнага організатара і творцу, аднак, мае пад сабою грунт. Сапраўды, раз агроном апыніцца ў непасрэднай сувязі з насельніцтвам, ён мусіць займацца тымі пытаньнямі, якіх вымагае сялянства; тут ужо канцылярыяй ня прыкрыешся. А раз ня будзеш задавальняць патрэб, дык шмат і не пратрымаешся, бо ўвесь на воку ўсяго насельніцтва.

Падагульняючы ўсё сказанае, адзначым, што пераважная большасьць думак мясцовых агрономаў і тэорэтычна і практычна падкрэсьліваюць, што будаваць агрономічную організацыю ў БССР на бліжэйшае дзесяцігодзьдзе трэба ў форме набліжанай да насельніцтва вучастковай агрономіі. Толькі ў некаторых спэцыфічных раёнах можна гаварыць аб дадатку да вучастковае формы аднаго або двух спэцыялістых па вузкіх галінах (жывёлагадоўля або ільнярства). Толькі на фоне рэорганізаваных гаспадарак зьявіцца грунт для работы вузкіх спэцыялістых — тэхнікаў-маслаbooбаў, сыравараў, па пераапрацоўцы садавіны, гародніны, лёну і г. д., але гэтая катэгорыя агроработнікаў павінна ісьці па лініі коопэрацыйнае, а не дзяржаўнае агрономіі. Справа грамадзкага, савецкага агронома організаваць насельніцтва ў вытворча-коопэрацыйныя аб'яднаньні, бо гэта ёсьць адзін з мэтодаў грамадзкае агрономіі па рэорганізацыі гаспадаркі, а поўнае тэхнічнае абслугоўваньне вытворчае коопэрацыі — справа самых арганізацый.

Цяпер падагулім думкі мясцовых агрономаў і адносна штату агроработнікаў раёну.

З абаронцаў раённае, спэцыялізаванае агрономіі толькі два раёны (1 і 34) лічаць выстарчальным штат з пяці асоб: 1) райагроном, 2) палявод, 3) зоотэхнік, 4) спэцыялісты па садоўніцтву і гародніцтву (або інтэнсыўных культурах № 34) і 5) лугавод (№ 1) або спэц па тэхнічных культурах (№ 34). Рэшта-ж раёнаў лічыць гэты штат нездавальняючым і дадае— а) спэца па зямляўпарадкаваньні — Самахвалавіцкі раён, б) спэцыялістага па пчалярству—Калінкавіцкі раён і в) другога спэцыялістага па ральніцтву—Дубровенскі раён. У сярэднім штат вызначаецца з 5—6 асоб на раён.

Ёсьць і такі выпадак, калі нормальным лічыцца штат з 9 асоб, а менавіта: 1) райаграном, 2) паляводаў 3, 3) заатэхнікаў 2, 4) па садоўніцтву, гародніцтву і пчалярству 1 чалавек, 5) культуртэхнік і 6) інструктар па с.-г. гуртках. Такі штат запраектаваны Бярэзінскім раёнам, які трэба лічыць мінімальным, калі гаварыць аб поўным абслугоўваньні раёну пры спэцыялізаванай агрономіі.

Аднак, той факт, што тут вызначаны тры спэцыялістыя па ральніцтву, якіх бясспрэчна лепш выкарыстаць замацаваўшы да пэўнае часткі раёну, сьведчыць аб тым, што такі штат не супярэчыць і прынцыпу вучастковае агрономіі. З тых, хто выказаўся за вучастковую агрономію —16 раёнаў прызнаюць патрэбным існаваньне пры раённым асяродку спэцыялістага па жывёлагадоўлі (2, 9, 12, 14, 15, 16, 22, 24, 25, 26, 27, 28, 29, 37, 38, 39); 7 раёнаў лічаць патрэбным мець спэцыялістага па садоўніцтву і гародніцтву (14, 15, 28, 29, 32, 35, 37); 5 раёнаў галасуе за існаваньне ў штаце культуртэхніка (7, 13, 25, 31, 36); тры раёны Віцебшчыны адзначаюць патрэбу ў спэцыялістым па лёну (35, 36, 38); 2 раёны патрабуюць пчаляроў (26 і 28); адзін раён патрабуе контроль-асыстэнта (13); адзін раён гідротэхніка (35); адзін раён—коопэратара 35), а Талочынскі раён адзначае патрэбу мець на раёне спэцыялістага па агнятрываламу будаўніцтву ды інструктара па хатняй гаспадарцы.

Калі-ж прыняць пад увагу, што большасьць раёнаў выказалася за падзел тэрыторыі раёну на 4, 5—6 вучасткаў, на запаўненьне якіх патрабуецца па адным вучастковым аграному, дык мы атрымаем лічбу штатнага агропэрсоналу раёну ад 5 да 10 чалавек у залежнасьці ад інтэнсыўнасьці сельскай гаспадаркі па раёнах. Бязумоўна, некаторыя раёны досыць разьбіць на 3—4 падраёны, а ў некаторых ужо і цяпер можна вылучыць каля 8 вучасткаў. А калі дадаць у спэцыфічныя раёны 1—2 спэцыялістых, вось і атрымаецца нормальны штат з 5—10 чалавек.

На вялікі жаль, нашы матэрыялы не закранаюць зусім работы вылучаных агрономаў для абслугоўваньня колгасаў і вытворча-коопэрацыйных аб'яднаньняў, бо гэтая зьява ёсьць продукт творчасьці апошняга году, і таму мы ня можам даць угрунтаваных фактычным матэрыялам поглядаў на гэтую групу работнікаў. Аднак, зусім абмінуць гэтага

пытаньня мы ня можам, бо ня будзе цэльнасьці ў сыстэме, і таму мы выкажам свае тэорытычныя погляды. Паводле нашай думкі, вылучэньне аднаго чалавека на раён для абслугоўваньня колгасаў і коопэрацыйных аб'яднаньняў ёсьць поўная недарэчнасьць. Гэта, што называецца,—„даць адчэпнага“, аддаць „дань“ часу. Такая пастаноўка пытаньня ня вытрымлівае крытыкі і ні ў якім разе не вынікае з сутнасьці савецкае агрономіі.

Ва ўступнай частцы мы ўстанавілі, што савецкі агроном ёсьць агент с.-г. політыкі, ёсьць рэорганізатар сельскае гаспадаркі на соцыялістычных падставах. А раз так, дык *кожны вучастковы агроном павінен займацца арганізацыяй як першапачатковых коопэрацыйных аб'яднаньняў, так і больш дасканалых колектыўных арганізацый.* Работа па арганізацыі насельніцтва ў коопэрацыйныя і колектыўныя аб'яднаньні ёсьць асноўная работа савецкага агронома на вучастку, бо толькі праз організаванае насельніцтва можна дасягнуць канчатковае мэты—пабудовы соцыялізму.

Раз вучастковы агроном ня хоча і не займаецца арганізацыяй колгасаў і коопэрацыйных аб'яднаньняў (для гэтага яму трэба даць усе мажлівасьці і давер'е, вызваліць ад усёй іншай неагрономічнай работы), значыць, гэта не савецкі агроном, або агроном, які не зразумеў сутнасьці савецкага агронома.

З другога боку, нам проста дзіўна, як можа вучастковы агроном-організатар дапусьціць, каб у раёне яго дзейнасьці хтосьці іншы займаўся яго асноўнай работай—гэта проста зьнявага да мясцовага рэорганізатара.

Такім парадкам, мы рашуча падкрэсьліваем, што справа організацыі насельніцтва ў рознага віду коопэрацыйныя аб'яднаньні ёсьць непасрэдная і першачарговая работа кожнага вучастковага агронома.

Другая справа—гэта поўнае гаспадарчае абслугоўваньне організаваных колгасаў і вытворчых коопэрацыйных аб'яднаньняў. Тут грамадзкі агроном ня прычым. Вось тут мы згодны, што вучастковы агроном ня можа быць адначасова і трактарыстым, і манцёрам для абслугоўваньня машынных таварystваў; сыраварам і маслоробам для малочных таварystваў; вінаробам і мармаляднікам пры пераробцы садавіны і гародніны і г. д. Тут патрэбен спэцыяльны пэрсонал

за кошт саміх-жа коопэрацыйных організацый ці іх аб'яднаньня. За мясцовым агрономам астаецца толькі агульнае кіраваньне, консультацыя і назіраньне (контроль).

Тое-ж самае і з справаю па абслугоўваньні колгасаў. Трэба ўлажыць організацыйны плян колектыўнае гаспадаркі, трэба штогод складаць вытворчыя пляны, трэба консультаваць па ажыцьцяўленьні гэтых плянаў, трэба навучыць колгасьнікаў новым прыёмам тэхнікі гаспадараньня ў межах буйнае гаспадаркі і г. д.,—усе гэтыя спэцыяльныя віды агрономічнае работы і павінны абслугоўвацца спэцыяльнымі агрономамі-колгасьнікамі, якіх утрымлівае колгасцэнтр. Пакуль не замацуюцца колгасы да такой ступені, каб мець свайго агронома, як тэхнічнага кіраўніка на 1 гаспадарку, можна і патрэбна даваць датацыю на ўтрыманьне „куставога“ агронома, на 5—6 колгасаў. Калі проста не хапае работнікаў у колгасцэнтры, то можна зьняць работнікаў з раённае сеткі і перакінуць туды, але ні ў якім разе ня блытаць двух сыстэм у нешта бясформавае і тым не пазбаўляць адказнасьці рэшты агроработнікаў раёну па такім надзвычайна важным разьдзеле работы. Патрэбна выразнасьць у сыстэме—тады будзе выразнасьць і ў рабоце.

## Галоўныя рыскі кірунку работы агрономаў раёну і асноўныя фактары, якія ўплываюць на зьмест работы.

Работа мясцовых агрономаў у сучасны момант настолькі раскіданая, настолькі розная ды неарганізаваная, што большасьць раёнаў ня здолелі нават каротка формуляваць асноўныя кірункі свае работы. З другога боку, падзел работы сярод усіх агроработнікаў раёну настолькі нявыразны, што нельга правесьці розьніцы паміж раённым агрономам і памочнікамі. Галоўная адзнака раённага агронома ад іншых работнікаў, што на яго абавязках ляжыць функцыя некаторага адміністрацыйнага кіраваньня ўсімі агроработнікамі раёну і ўвязка плянаў работы. Аднак, рэзка выражаны кірунак адміністрацыйнага кіраваньня—рабіць па загаду райагронома, мы назіраем толькі ў 4-х раёнах (Халопеніцкі, Чэрыкаўскі, Дрыбінскі, Ліозьнянскі), ды ў пяці-шасьці раёнах адзначана, што райагроном выконвае сам больш адказныя мерапрыемствы, як зямляўпарадкаваньне, перавод на шматпольле і г. д.

Ёсьць і такія выпадкі, дзе раённы агроном займаецца толькі адміністрацыйна-організацыйнай работай, а ўсю агрономічную работу выконваюць памочнікі.

Найбольш удала формуляваны зьмест работы раённага агронома ў анкеце Талочынскага раёну, а менавіта:

1) Вывучэньне мясцовае с.-г. сапраўднасьці як тэорэтычна, так і практычна.

2) Распрацоўка мерапрыемстваў для палепшаньня с.-г. промыслу насельніцтва.

3) Аб'яднаньне работы агроработнікаў раёну і кіраўніцтва гэтаю работаю.

4) Увязка работы агрономаў з РВК ды іншымі мясцовымі ўстановамі.

5) Складаньне плянаў работы і справаздач па агросетцы і па правядзеньні ўсіх кампаній.

6) Агульна-консультацыйная дзейнасьць і пашырэньне с.-г. ведаў.

7) Работа па с.-г. коопэрацыі і шырокі ўдзел у арганізацыі коопэрацыйных аб'яднаньняў.

8) Удзел у рабоце па зямляўпарадкаваньні.

9) Назіраньне і кіраўніцтва дзейнасьці агрыкультурных організацый.

10) Выконваньне розных бягучых пытаньняў.

Некаторыя раёны падкрэсьліваюць, што большая частка часу прыпадае на розныя паседжаньні ў камісіях, у дасьледваньні вымачак і шкоднасьці граду ў зьвязку з с.-г. падаткам і страхоўкаю, а некаторыя адзначаюць і такі разьдзел работы, як супольны дагляд усіх агроработнікаў за „агрономічным канём“. Як відаць, гэтая „хвароба“ не зьяўляецца выключэньнем, бо ніводзін раён не адзначыў факту існаваньня ў штаце тэхнічнага супрацоўніка і таму агрономы адначасова зьяўляюцца і конюхамі, і фурманамі, і тэхнічнымі служкамі. Экономіць на рублёх, трацячы на нерацыянальным выкарыстаньні агроработнікаў сотні рублёў, гэта ва ўсякім выпадку неразумна і стратна.

Для таго, каб хаця прыблізна ацаніць удзельную вагу кожнага разьдзелу работы і ўдзельную вагу выкарыстаньня кожнага агроработніка раёну, мы ў сваіх анкетах прасілі мясцовых агрономаў запоўніць *колектыўна* спэцыяльную таблічку наступнага зьместу:

| Падзел работы | Усіх агрономаў | Раённага агронома | 1-га памочніка | 2 га памочніка | 3-га памочніка | Спэцыяліста |
|---|---|---|---|---|---|---|
| а) на агропрапаганду (курсы, лекцыі, выстаўкі) і г. д. | | | | | | |
| б) на паказальныя мерапрыемствы (паказальнае харчаваньне, паказальныя вучасткі) і г. д. | | | | | | |

| Падзел работы | Усіх агрономаў | Раённага агронома | 1-га памочніка | 2-га памочніка | 3-га памочніка | Спэцыялістага |
|---|---|---|---|---|---|---|
| в) на пераарганізацыю гаспадаркі (перавод на шматпольле) | | | | | | |
| г) на зямляўпарадкаваньне | | | | | | |
| д) на работу па коопэрацыі | | | | | | |
| е) на работу па канцыляры | | | | | | |
| ж) іншую няплянавую, неагрономічную работу | | | | | | |
| Разам . . . | 100% | | | | | |

Унізе табліцы было зьмешчана дзьве заўвагі:

1) Усю работу за год прыняць за 100 проц. і спачатку процанты падзяліць паміж падзеламі работы ў простастаўным слупку „ўсіх работнікаў“, а потым падзяліць атрыманыя процанты паміж паасобнымі работнікамі, каб была відаць удзельная вага кожнага работніка.

2) Калі ў раёне ёсьць запісы, дык вельмі пажадана, каб, апрача процантаў, былі паказаны і абсолютныя затраты ў днёх або гадзінах.

Такім падыходам да справы мы імкнуліся дасягнуць найбольш правільных адносных лічбаў удзельнае вагі розных падзелаў работы, пры амаль поўнай адсутнасьці *пэўных* запісаў па раёнах. Праз непасрэднае знаёмства з пастаноўкаю запісаў работы агрономаў на раёнах мы пераканаліся, што запасы з тых або іншых прычын зусім не вядуцца, або што дзеньнік агронома вядзецца вельмі формальна, або і сьвядома няправільна. Паколькі на штодзеньнікі агронома глядзяць, як на крыніцу для контролю за нагрузкаю агронома, паколькі гэта ёсьць офіцыйны дакумант, у які мае права паглядзець і праверыць і акруговы інспэктар, і прадстаўнік РСІ, і працаўнікі РВК, пастолькі можна ўпэўнена сказаць наперад, што запісы ў штодзеньніку будуць фор-

мальныя і значна павялічаныя. Не абвяргаючы ў прынцыпе патрэбнасьць існаваньня ў кожнага аграработніка штодзеньніка, мы самым рашучым парадкам выказваемся за яго недапушчальнасьць. Штодзеньнік агронома павінен быць уласнай кніжкай кожнага аграработніка, як гэта занатавана ва Украінскай агранамічнай арганізацыі. Запісы ў штодзеньніку—гэта сыры матэрыял для ўласнае навуковае распрацоўкі самога агронома, якія ён можа апрацоўваць кожны год, а то і за некалькі год.

Што-ж да запісаў ажыцьцяўляных мерапрыемстваў у тым ці іншым месцы раёну, каб у справах агравучастку аставаўся пэўны сьлед, для гэтага патрэбна мець кнігу запісаў мерапрыемстваў, дзе неабавязкова вызначаць колькасьць затрачанага часу на яго ажыцьцяўленьне.

Прымаючы ўсё гэта пад увагу, мы зрабілі ўстаноўку не на абсолютныя, а на адносныя лічбы. Паколькі табліца запаўнялася амаль у кожным раёне колектыўна, дзе кожны агроном быў зацікаўлены выявіць свой твар у агульнай рабоце, пастолькі мы лічым, што нашы лічбы маюць верагодны характар і мы сьмела імі опэруем.

Спраўдзілася і наша прадбачнасьць, што запісаў па раёнах ня так ужо і многа—мы атрымалі толькі ад 2-х раёнаў апрацаваныя даныя па штодзенных запісах, якія нам паказалі, што вялікай розьніцы з анкетамі суседніх раёнаў няма. Крывая нагрузкі і характары работы прыблізна аднолькавыя.

Распрацаваны намі матэрыял зьмешчаны ў ведамасьці, якая друкуецца дадаткам № 4.

Па гэтай ведамасьці можна прасачыць, чым займаецца той ці іншы агроном таго ці іншага раёну і да якое ступені ў паасобных раёнах дасягае няправільнае выкарыстаньне агропэрсоналу. Так у 15 раёнах (з 35 запоўніўшых табліцу), або ў 42,9 проц., агропэрсонал раёну больш чым на 30 проц. выкарыстоўваецца на канцылярскую ды іншую няплянавую, неагрономічную работу. У некаторых раёнах гэты процант дасягае 47—у Жлобінскім раёне, 49—у Дзятлаўскім, 51—у Плешчаніцкім, 53—у Дрыбінскім і нават 58—у Чэрыкаўскім раёне былшае Калінінскае акругі.

Разам з такімі лічбамі мы маем супроцьлеглыя па велічыні лічбы ўдзелу аграработнікаў па асноўных разьдзелах работы па рэорганізацыі гаспадаркі: 5 проц. у Калінавіцкім

раёне, 4 проц. у Узьдзенскім, Жлобінскім і Нараўлянскім раёнах, 3 проц. у Мсьціслаўскім, 2 проц. у Лельчыцкім і нават 1 проц. у Дзятлаўскім раёне Гомельшчыны.

Вылічаныя намі сярэднія даныя па акругах даюць хаця і зьнівэліраваны, але-ж яшчэ яскравы малюнак (гл. табл.).

**Як выкарыстоўваецца час усіх агрономаў раёну ў сярэдніх лічбах па акругах у процантах ад усёй работы:**

| Акругі | Агропрапаганда | Паказальныя мерапр. | Арганізацыя гаспад. | Зямляўпарадкаван. | Коопэрацыя | Канцылярыя | Іншая | Канцылляр. плюс іншая |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Менская . . . | 18,2 | 22,5 | 8,0 | 7,3 | 7,0 | 16,0 | 21,0 | 37,0 |
| Барысаўская . . | 29,0 | 13,0 | 10,0 | 10,2 | 4,8 | 19,0 | 14,0 | 33,0 |
| Бабруйская . . | 25,2 | 18,5 | 11.7 | 11,5 | 7,1 | 12,8 | 13,2 | 26,0 |
| Мазырская. . . | 33,0 | 17,8 | 5.2 | 6,5 | 8.7 | 16,3 | 12,5 | 28.8 |
| Гомельская . . | 25,8 | 12,5 | 10,5 | 15,0 | 5,5 | 10,5 | 20,2 | 30,7 |
| Калінінская . . | 20,5 | 9,5 | 15,0 | 5,0 | 3,5 | 24,0 | 22,5 | 46,5 |
| Аршанская . . | 18,8 | 17,5 | 23,3 | 7,7 | 4,0 | 19,5 | 9,2 | 27,7 |
| Віцебская . . . | 28.0 | 11,3 | 35,8 | 8.0 | 3,5 | 10.1 | 3,3 | 13,4 |

З гэтае табліцы яскрава відаць, што амаль у кожнай акрузе, акрамя Віцебшчыны, мы ў сярэднім маем такое становішча, што агрономы каля 30 проц. свайго часу трацяць на работу ў канцылярыі ды іншую няплянавую, неагрономічную работу. Хістаньне па акругах ад 26 да 37 проц., выпіраючыся па Калініншчыне да 46,5 проц. (праўда, сярэдняя на Калініншчыне выведзена толькі з двух раёнаў). Лічыць такое становішча нормальным ні ў якім разе нельга. Раз ад паперы ні ў якім разе пазбавіцца нельга, дык выгадней для гэтае работы мець простага канцылярыстага, хоць-бы з ніжэйшай с.-г. адукацыяй, напрыклад, скончыўшага сямёхгодку з с.-г. ухілам, чым марнаваць кваліфікаваных работнікаў у габінэтах канцылярыі.

Аднак, наша агрономічная трагедыя ня толькі ў гэтых лічбах, а і ў тым, што рэшта часу агрономаў траціцца не ў належным кірунку. Праглядаючы лічбы іншых падзелаў агрономічнае работы, мы бачым, што па ўсіх акругах, выключаючы Віцебшчыну, няма выразнасьці ў рабоце агрономаў. Няма пэўнае ўстаноўкі. Агрономы займаюцца ўсім патроху

прычым пераважную большасьць часу ад 18,2 да 33,0 проц. трацяць на агропрапаганду, ад 9,5 да 22,5 проц.—на паказальныя мерапрыемствы (фактычна таксама агропрапаганда толькі ня „словамі“, а „паказам“) і мінімум увагі асноўным разьдзелам работы па рэарганізацыі гаспадаркі, як перавод на шматпольле (ад 5,2 да 23,3 проц.), зямляўпарадкаваньне (ад 5 да 15 проц.) і канцылярыю (ад 3,5 да 8,7 проц.).

Толькі адна Віцебская акруга зрабіла выразную, хоць і недастатковую ўвагу на рэарганізацыю гаспадаркі (35,8 проц.), на работу па шматпольлю і 80 проц. на работу па зямляўпарадкаваньні. І паколькі такая ўстаноўка адчуваецца ў кожным раёне Віцебшчыны, настолькі і мясцовыя органы з гэтым лічацца і не загружаюць агронома канцыляршчынай (у сярэднім 10,1 проц., а ў некаторых раёнах да 4,0 проц.) ды іншай неаграномічнай работаю (3,3 проц.).

Нам думаецца, што паколькі большасьць агрономаў бярэ прыклады работы ў земскае агрономіі, пераважную большасьць часу трацяць на агропрапаганду (словам і паказам), пастолькі на агронома замацоўваецца погляд, як на хадзячую гаварыльню, якая ня так ужо і патрэбна цяпер, якая надаела сялянству і мясцовым організацыям. Мы ўпэўнены, і гэта падмацоўвае вынікі па Віцебшчыне, што калі-б мясцовыя агрономы ўпарта дамагаліся ўстановак на работу па рэорганізацыі гаспадарак, дык з імі лічыліся-б і самыя закаранелыя бюрократы і дзеля такое работы парушалі-б свае „параграфы“. Галоўная прычына няправільнага выкарыстаньня агроработнікаў, як ужо адзначалася вышэй, ляжыць у слабой падрыхтаванасьці самога агропэрсоналу, у іх пакорлівым дагаджваньні мясцоваму начальству, каб не пазбавіцца свае пасады.

Завастраючы гэтыя прычыны, мы ні ў якай меры ня здымаем адказнасьці з работнікаў РВК, якія ў парадку адміністрацыйнага нажыму прымушаюць агрономаў займацца не сваёй непасрэднай работаю, а таксама і з работнікаў акруговых зямельных органаў, якія вельмі нерашуча абараняюць правы мясцовых агрономаў. Сама сыстэма поўнае дэцэнтралізацыі аграномічнае работы дае шырокі прастор для рознага роду „фокусаў“ на мясцох.

Першаму Ўсебеларускаму аграномічнаму зьезду трэба сур'ёзна перагледзець гэтую ўстаноўку і забясьпечыць поў-

ную непасрэдную сувязь мясцовых работнікаў з акрза і Наркамземам. Мы не супярэчым, каб пляны работы мясцовых агрономаў узгадняліся і папаўняліся ў РВК, каб сродкі на агромерапрыемствы праходзілі па каштарысах мясцовага бюджэту, але зацьвярджэньне плянаў павінна быць у акрза, кіраўніцтва і кантроль за работаю павінен ажыцьцяўляць таксама акрза, якому павінен даваць гадавую справаздачу райагроном, пасылаючы адбітак справаздачы да ведама РВК. Раз улада давярае агроному і лічыць яго асноўным агентам соцыялістычнага будаўніцтва на вёсцы, дык трэба даць і рэальныя магчымасьці і ня здымаць з агрономаў гэтае адказнасьці. Раз выпрацаваны, узгоднены і зацьверджаны плян гадавое дзейнасьці мясцовага агронома, дык ніхто ня мае права гэты плян парушаць і здымаць адказнасьць за яго выкананьне з мясцовага агронома.

Мы лічым, што плянавасьць у рабоце агрономаў, якая выцякае з сутнасьці савецкае сыстэмы, павінна быць цалкам захована і нікім не парушацца. А каб агранамічная організацыя і зямельныя органы маглі рашуча бараніць гэты прынцып у жыцьці, патрэбна выданьне падрабязна распрацаванага палажэньня аб агрономічнай організацыі, і каб гэта палажэньне мела сілу закону. Толькі пры такіх умовах можна спадзявацца на выпрамленьне лініі ажыцьцяўленьня с.-г. політыкі на вёсцы, толькі пры такіх умовах можна стварыць спрыяючыя ўмовы для непасрэднае агрономічнае работы на вёсцы.

А пераглядзець зьмест работы мясцовых агрономаў і зрабіць выразныя ўстаноўкі абсолютна патрэбна.

Мы папрабавалі вылічыць у процантах зьмест работы кожнае катэгорыі работнікаў, узяўшы ўсю іх работу за 100 проц. У выніку атрымалі наступны малюнак (гл. дадатак № 5, 6, 7, 8, 9).

Пераглядаючы лічбы апошніх 5 табліц, адразу кідаецца ў вочы, што пераважная большасьць раённых агрономаў займаецца канцылярскай ды іншай няплянавай, неагрономічнай работаю, а яго памочнікі ўжо маюць больш часу на вытворчую агрономічную работу. Так з 38 раёнаў, даўшых весткі аб сваёй рабоце, у 24 раёнах (63,2 проц.) райагрономы больш чым на 30 проц. заняты канцыляршчынай і рознай дробязьзю, з якіх у 16 раёнах (каля 45 проц. усіх раёнаў)

процант гэтае работы перавышае 40,0 проц., даходзячы да 60,0 проц.—у Самахвалавіцкім раёне, 61,6 проц.—у Дрыбінскім і нават 75,0 проц.—у Плешчаніцкім раёне Барысаўшчыны.

У групе 1-ых памочнікаў колькасьць раёнаў, якія трымаюць агрономаў у канцылярыі, значна зьмяншаецца.

Так, колькасьць раёнаў, у якіх першы памочнік агронома больш чым на 30 проц. заняты канцылярыяй і неагранамічнай работаю, зьмяншаецца да 14 (з 36) і складае ўсяго 38,9 проц., а такіх раёнаў, дзе памочнік заняты такою работаю больш чым на 40 проц., усяго 8 або 22,2 проц.

Аднак, першы памочнік ёсьць перш за ўсё памочнік па канцылярскіх справах і выкананьні бягучых даручэньняў.

З павялічэньнем колькасьці агроработнікаў у раёне павялічваюцца магчымасьці і для непасрэднае агрономічнае работы. І хоць у анкетах адзначалася, што ўсе агрономы прыблізна аднолькава займаюцца рознымі відамі агрономічнае работы, аднак у групе другіх памочнікаў мы назіраем яшчэ меншую колькасьць занятых больш чым на 30 проц. канцылярскай работаю. Так, з 31 раёну, паказаўшых нагрузку 2-га памочніка, толькі ў 7 раёнах гэты процант перавышае 30 проц., а сярод трэціх памочнікаў такіх выпадкаў толькі 2.

Роўналегла гэтаму раду лічбаў мы маем такі-ж рад па асноўным разьдзеле работы па організацыі гаспадаркі.

Так, колькасьць раёнаў, у якіх агрономы менш чым на 10 проц. заняты організацыяй гаспадаркі, паступова зьмяншаецца, пачынаючы ад райагрономаў да 3-га памочніка. Калі ў групе раённых агрономаў мы маем такіх 20 раёнаў з 38—52,6 проц., дык у групе 1-ых памочнікаў колькасьць такіх раёнаў зьмяншаецца да 10 (27,7 проц.), у групе 2-іх памочнікаў—да 9 і ў групе 3-іх памочнікаў—да 2-х.

Што-ж да разьмеркаваньня часу раённых спэцыялістых, дык, на вялікі жаль, і яны ў значнай частцы займаюцца канцылярскай работаю, даючы ў сярэднім 26 проц. і даходзячы да 42,9 проц. у Сеньненскім раёне і да 81,2 проц. у Дрыбінскім раёне.

Апошні выпадак яскрава сьведчыць, што мы маем „спэцыялістага“ па... „канцылярскай справе“, інакш кажучы—проста „дзелавода“. Адно з двух—або гэта зусім непад-

рыхтаваны спэцыялісты (мае сярэднюю адукацыю), або ў гэтым раёне няма чаго рабіць зоотэхніку.

У сярэдніх лічбах па ўсіх групах раённых работнікаў мы маем наступны малюнак:

**Як выкарыстоўваецца час розных груп мясцовых агроработнікаў (уся работа кожнае групы ўзята за 100 проц.):**

| Групы работнікаў | Агропропаганда | Паказальныя мерапрыемствы | Організацыя гаспад. | Зямляўпаралкав. | Коопэрацыя | Канцылярыя | Іншая | Канцыляр. плюс іншая |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Райагрономы . . | 20,7 | 10,7 | 12,2 | 11,9 | 8,7 | 21,5 | 14,3 | 35,8 |
| 1-ыя памочнікі [1]) . | 25,5 | 16,4 | 19,2 | 8,5 | 4,7 | 12,2 | 13,5 | 25,7 |
| 2-ія памочнікі . . | 28,5 | 18,1 | 20,4 | 7,8 | 4,4 | 9,4 | 11,4 | 20,8 |
| 3-ія памочнікі . . | 27,0 | 16,7 | 29,0 | 8,7 | 1,9 | 6,7 | 10,0 | 16,7 |
| Спэцыялістыя . . | 31,6 | 29,5 | 5,6 | 1,3 | 6,1 | 20,6 | 5,4 | 26,0 |

З гэтае табліцы яскрава відаць, што райагрономы больш чым другія групы нагружаны канцылярскай ды іншай неагрономічнай работаю, і што проценты нагрузкі гэтаю работаю паступова зьмяншаюцца—з 35,8 проц. у групе райагрономаў да 16,7 проц. у групе 3-іх памочнікаў. Супроцьлегла гэтай тэндэнцыі мы маем узмацненьне нагрузкі агрономічнаю работаю як па агропропагандзе (з 20,7 да 28,5 проц.), так па паказальных мерапрыемствах (з 10,7 да 18,1 проц.), так і па організацыі гаспадаркі, што асабліва важна (з 12,2 да 29 проц.). Гэтыя лічбы яскрава сьведчаць, што нашыя памочнікі больш агрономы, чым раённыя агрономы, што раённыя агрономы хутчэй зьяўляюцца справаводамі па агрономічнай справе, чым кіраўнікамі агрономічнае організацыі.

Той факт, што нагрузка работаю па зямляўпарадкаваньні і коопэрацыі паступова зьмяншаецца ад райагронома да 3-га памочніка, сьведчыць аб тым, што гэтыя разьдзелы работы райагрономы лічаць больш адказнымі, і таму, як падкрэсьлена ў некаторых анкетах, выконваюцца непасрэдна райагрономамі. Гэтыя лічбы знаходзяцца ў некаторай супярэчнасьці з лічбамі нагрузкі памочнікаў работаю па органі-

[1]) Групоўка памочнікаў на 1-шы, 2-гі і 3-ці ўзята ў такім парадку, як вызначана ў анкетах раёнаў.

зацыі гаспадаркі, бо арганізацыя гаспадаркі ня менш адказная справа, чым коопэрацыя і зямляўпарадкаваньне.

Трэба падкрэсьліць і той факт, што раз павялічваецца склад агропэрсоналу да 4-х чалавек, дык нагрузка 3-га памочніка набывае выразны агрономічны характар—значна зьмяншаюцца проценты нагрузкі неагрономічнае і канцылярскае работы, зьмяншаецца процант работы па агропрапагандзе і паказальных мерапрыемствах і значна ўзмацняецца процант работы па арганізацыі гаспадаркі—29 проц. Група 3-іх памочнікаў аказалася найбольш рацыянальна выкарыстанай.

Што-ж да групы спэцыялістых, дык яна пераважную большасьць часу аддае на агропрапаганду (словам і паказам)—61,1 проц. і на канцылярыю ды іншую неагрономічную работу—26 проц. Што-ж да работы па спэцыяльных відах коопэрацыі, якой пераважна павінна была-б займацца гэтая група, дык мы маем тут прыблізна такую-ж нагрузку, як і звычайнага памочніка—6,1 проц. Той-жа факт, што ў некаторых раёнах зоотэхнікі прымаюць удзел у рабоце па зямляўпарадкаваньні (у сярэднім па 10 раёнах 1,3 проц.) і нават па пераводу гаспадарак на шматпольле—5,6 проц., сьведчыць аб тым, што рэзкае мяжы паміж спэцыялістымі і памочнікамі агронома правесьці нельга.

З другога боку, гэтыя лічбы падмацоўваюць нашую думку што і наогул вузкім спэцыялістым пакуль што яшчэ няма чаго рабіць у нашых аморфных раёнах.

У выніку па 10 раёнах, якія маюць спэцыялістых, мы бачым, што зоотэхнікі або чытаюць лекцыі (пэўна ня толькі па жывёлагадоўлі), або сядзяць у канцылярыях і перапісваюць паперы. Паўтараем, што выгадней (таней) мець аднаго канцылярыстага, чым прымушаць спэцыялістых або райагрономаў займаццца гэтымі работамі.

Пераходзячы да аналізу матэрыялу з пункту погляду скарыстаньня агроработнікаў у розных акругах, мусім адзначыць, што хаця ў агульных рысах мы ўсюды маем аднолькавы характар скарыстаньня мясцовых агрономаў, але ўсё-ж некаторая розьніца ёсьць. Гэтая розьніца залежыць як ад асаблівасьцяй гаспадараньня, так, галоўным чынам, і ад ступені ўплыву акруговае арганізацыі на раён. Тэорытычна мысьліма такая ўстаноўка—раз акруговая арганізацыя больш

моцная, у акрза сядзяць не бюрократы, а агрономы—арганізатары агродапамогі, значыць і работа па раёнах павінна быць больш арганізаванай і мець большы зьмест. Раз ёсьць моцная правільная ўстаноўка ў акрузе, дык яна павінна адбівацца і на раёнах данае акругі. Калі-ж такога кіраўніцтва і рэгуляваньня работы няма, дык, мабыць, лішняе і такое зьвяно арганізацыі. Аналізуючы матэрыялы раёнаў, мы, як у люстэрку, убачым сутнасьць, твар акруговае арганізацыі.

Паводле нашае думкі, люстэркам для акруговага агронома павінен быць зьмест работы раённага агронома, бо работа памочнікаў агронома ў значнай ступені залежыць ад арганізацыйных здольнасьцяй раённага агронома.

Падаем сярэднія даныя скарыстаньня райагрономаў у розных акругах Беларусі (за 100 проц. узята ўся работа райагронома за год).

| Назва акруг | Агропрапаганда | Паказальныя мерапр. | Арганізацыя гасп. | Зямляўпарадкаван. | Коопэрацыя | Канцылярыя | Іншая | Канцыляр плюс іншая |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Калінінская . . | 11,5 | 7,9 | 12,7 | 5,5 | 5,1 | 45,2 | 12,0 | 57,2 |
| Менская . . | 13,4 | 15,3 | 6,2 | 6,9 | 9,7 | 27,7 | 20,8 | 48,5 |
| Барысаўская . . | 21,8 | 5,8 | 5,7 | 12,6 | 7,1 | 22,3 | 23,7 | 46,1 |
| Слуцкая . . . | 15,2 | 17,3 | 13,0 | 8,4 | 8,5 | 17,3 | 20,4 | 37,7 |
| Мазырская . . | 20,5 | 11,7 | 6,2 | 11,3 | 13,1 | 24,7 | 12,5 | 37,2 |
| Магілеўская . . | 15,0 | 5,0 | 15,0 | 20,0 | 10,0 | 30,0 | 5,0 | 35,0 |
| Аршанская . . | 19,5 | 11,5 | 19,6 | 9,7 | 5,3 | 26,1 | 8,3 | 34,5 |
| Бабруйская . . | 27,1 | 9,2 | 7,7 | 14,0 | 11,6 | 15,6 | 14,8 | 30,4 |
| Гомельская . . | 23,4 | 12,3 | 12,3 | 18,5 | 5,4 | 11,7 | 16,4 | 28,1 |
| Віцебская . . . | 23,8 | 8,9 | 22,3 | 10.0 | 9,5 | 18,1 | 7,4 | 25,5 |
| У сярэднім па 39 раёнах . | 20,7 | 10,7 | 12,2 | 11,9 | 8,7 | 21,5 | 14,3 | 35,8 |

Разглядаючы паданую табліцу, мы павінны прызнаць, што, бязумоўна, першае месца па бюрократызму належыць Калінінскай акрузе, дзе ўдзельная ўвага неагрономічнае і канцылярскае работы раённых агрономаў дасягае 57,2 проц. Паколькі-ж гэтая акруга летась ліквідавана, пастолькі, бясспрэчна, пяршынства пераходзіць да Менскае акругі (48,5 %). На другім месцы разам з Меншчынай была Барысаўшчына (46,1 проц.), а цяпер з яе ліквідаваньнем другое месца пераходзіць да Случчыны (37,7 проц.) і Мазыршчыны—37,2 проц.

Найбольш добрымі ў гэтых адносінах акругамі зьяўляецца Віцебшчына (25,5 проц.) і Гомельшчына (28,1 проц.).

Па ўдзелу райагрономаў у рабоце по організацыі гаспадаркі бясспрэчна першае месца займае Віцебшчына (22,3 проц.). Потым Аршаншчына—19,6 проц. і Магілеўшчына—15,0 проц. (даныя толькі аднаго раёну); рэшта-ж акруг даюць вельмі нявыразны малюнак—„усяго па крысе". Толькі Бабруйшчына, Гомельшчына, Віцебшчына і Мазыршчына характарызуюцца значным ухілам у пропагандыцкі бок,—так і адчуваецца, што на чале гэтых організацый стаяць агрономы-популярызатары, а не організатары.

Пераходзячы да аналізу па акругах работы памочнікаў агрономаў (глядзі табліцу № 5), мусім адзначыць, што па канцылярскай нагрузцы малюнак амаль аднолькавы, як і ў групе раённых агрономаў. Толькі Меншчына перасунулася на трэцяе месца, а Барысаўшчына нават на 9-ае. Калінішчына-ж і па гэтай катэгорыі работнікаў займае першае месца (больш 40 проц. нагрузкі агрономаў неагрономічнай работаю). І па гэтай групе работнікаў Віцебшчына рэльефна вылучаецца, даючы самы малы процант загрузкі агрономаў канцылярщчынай і самы вялікі процант па організацыі гаспадаркі (каля 40 проц.). Праўда, па Магілеўшчыне мы маем 40 проц. у другога памочніка і нават 45 проц. у 3-га памочніка на работу па організацыі гаспадаркі, але-ж гэта даныя толькі аднаго Шклоўскага раёну і таму прэтэндаваць на першае месца ня могуць, бо ў некаторых раёнах Віцебшчыны мы маем і 56 проц.

**Як выкарыстоўваецца час (у проц.) памочнікаў агрономаў у розных акругах (работа кожнага памочніка прынята за 100 проц.).**

| Назва акруг | Агропропаганда | Паказальныя мерапр. | Організацыя гасп. | Зямляўпарадкаван. | Коопэрацыя | Канцылярыя | Іншая | Канцыляр. плюс іншая |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Калінінская: | | | | | | | | |
| 1-шы памочн. . | 16,3 | 8.1 | 27.8 | 4,7 | 1,5 | 19.2 | 22,5 | 41,6 |
| 2-гі „ . | 16,5 | 9,8 | 24.9 | 3,1 | 1,6 | 15.5 | 28.6 | 44,1 |
| 2. Слуцкая: | | | | | | | | |
| 1-шы памочн. . | 12,1 | 17,0 | 13,4 | 10,6 | 7,3 | 16,6 | 23,0 | 39,6 |
| 2-гі „ . | 16.5 | 36.5 | 14,7 | 8,1 | 11,4 | 6,4 | 6.4 | 12,9 |

| Назва акруг | Агропро-паганда | Паказаль-ныя мерапр. | Організа-цыя гаспад. | Зямляўпа-радкаван. | Коопэрацыя | Канцылярыя | Іншая | Канцыляр. плюс іншая |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3. Менская: | | | | | | | | |
| 1-шы памочн. | 20,2 | 23,4 | 7,3 | 4,4 | 6,1 | 10,6 | 28,0 | 38,6 |
| 2-гі „ | 21,9 | 30,3 | 10,6 | 9,6 | 5,0 | 8,7 | 13,9 | 22,6 |
| 4. Гомельская: | | | | | | | | |
| 1-шы памочн. | 30,4 | 12,2 | 10,4 | 8,4 | 7,3 | 9,7 | 21,6 | 31,3 |
| 2-гі „ | 41,9 | 11,7 | 12,5 | 4,0 | 10,1 | 10,5 | 9,3 | 19,8 |
| 5. Аршанская: | | | | | | | | |
| 1-шы памочн. | 16,2 | 15,2 | 29,0 | 8,2 | 3.6 | 18.1 | 9,7 | 27,8 |
| 2-гі „ | 20.3 | 19.2 | 27,5 | 7.8 | 2,5 | 11,6 | 11.1 | 22.7 |
| 6. Магілеўская: | | | | | | | | |
| 1-шы памочн. | 15,0 | 15,0 | 25,0 | 15,0 | 5,0 | 15,0 | 10,0 | 25,0 |
| 2-гі „ | 25,0 | 10,0 | 40,0 | 10,0 | 5,0 | 5,0 | 5,0 | 10,0 |
| 3-ці „ | 25,0 | 15,0 | 45,0 | 5,0 | — | 5,0 | 5,0 | 10,0 |
| 7. Мазырская: | | | | | | | | |
| 1-шы памочн. | 39,6 | 19,3 | 7,8 | 4,9 | 4,7 | 10.8 | 12,9 | 23,7 |
| 2-гі „ | 42,3 | 19,9 | 3,0 | 3,7 | 6,3 | 6,3 | 18,5 | 24,8 |
| 8. Бабруйская: | | | | | | | | |
| 1-шы памочн. | 26,2 | 19,1 | 14,8 | 11,7 | 7,3 | 9,9 | 11,0 | 20,9 |
| 2-гі „ | 27,8 | 19,1 | 13,6 | 9,7 | 5,7 | 11,7 | 12,4 | 24,1 |
| 3-ці „ | 25,9 | 24,2 | 10,4 | 11,7 | 5,0 | 9,5 | 13,3 | 22,8 |
| 9. Барысаўская: | | | | | | | | |
| 1-шы памочн. | 34,3 | 18,1 | 14,6 | 9,2 | 3,6 | 11,7 | 8,5 | 20,2 |
| 2-гі „ | 36,7 | 18.3 | 9,9 | 7,2 | 1,2 | 15,0 | 11,7 | 26,7 |
| 10. Віцебская: | | | | | | | | |
| 1-шы памочн. | 27,0 | 13.4 | 38,0 | 9,4 | 1,4 | 8,9 | 1,9 | 10,8 |
| 2-гі „ | 30,9 | 9,5 | 39,7 | 10,3 | 1,8 | 4,3 | 3,5 | 7,8 |
| 3-ці „ | 28,3 | 11.3 | 39,0 | 7,3 | — | 5.3 | 8.8 | 14,1 |

Што-ж да агропрапаганды, дык першае месца заняла Мазыршчына і Барысаўшчына. Хаця Бабруйшчына і Гомельшчына не асабліва адсталі.

Параўноўваючы лічбы скарыстаньня памочнікаў агрономаў між сабою, мы амаль па кожнай акрузе бачым тую тэндэнцыю, якую констатавалі вышэй, разглядаючы ўсе катэгорыі работнікаў, а менавіта, што другія і трэція памочнікі куды больш заняты непасрэдна агрономічнай работай, чым першы памочнік і райагроном. Толькі Калініншчына і ў гэтых лічбах

перафарсіла ўсе акругі, даючы нагрузку і другому памочніку на 44,1 проц. па канцылярыі і неагрономічнай рабоце.

Аднак, абмежавацца аналізам толькі па акруговых даных было-б мала. Мы ўжо адзначылі, што нашы агрономічныя вучасткі ў прыродных і экономічных адносінах вельмі стракатыя; з другога боку, вельмі рознахарактарны склад агроработнікаў, што, бязумоўна, таксама адбіваецца на зьмесьце работы агрономаў таго ці іншага раёну, тае ці іншае акругі. Каб зразумець зьмест работы агропэрсоналу і на падставе гэтага разуменьня ўнесьці корэктывы ў пабудову агродапамогі на Беларусі, трэба прааналізаваць, якія фактары ўплываюць на зьмест работы агрономаў. Нашы матэрыялы дазваляюць прасачыць наступныя фактары, якія ўплываюць на зьмест работы агрономаў—1) плошча вучастку, 2) лік сялянскіх гаспадарак, 3) лік і дробнасьць паселішч, 4) уплыў адукацыі і стажу агроработнікаў, 5) уплыў організацыйных форм самае агрономічнае організацыі.

Свой аналіз мы пачнем з выяўленьня ўплыву велічыні тэрыторыі на аднаго агроработніка. Усе раёны мы разьбілі на тры групы: 1-я група раёнаў, дзе на аднаго агроработніка прыпадае каля 250 кв. кілёмэтраў тэрыторыі—11 раёнаў; 2-я група—ад 250 да 500 кв. кілёмэтраў—20 раёнаў і 3-я група—на 1 агроработніка прыпадае звыш 500 кв. кілёмэтраў—4 раёны.

Падрахаваўшы даныя работы ўсіх агрономаў па гэтых трох групах, мы атрымалі наступны малюнак:

**Уплыў велічыні тэрыторыі на зьмест работы агрономаў:**

| Групы | Плошча ў кілёмэтрах на 1-го агроработніка | Агропрапаганда | Паказальныя мерапр. | Організацыя гасп. | Зямляўпарадкаван. | Коопэрацыя | Канцылярыя | Іншая | Канцыляр. плюс іншая |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Да 250 кв. кілём. . . . | 20.7 | 15,7 | 19,9 | 9,3 | 3,5 | 17,4 | 13,5 | 30,9 |
| 2 | Ад 250 да 500 кв. кілём. . | 27,0 | 13,8 | 16,2 | 9,7 | 7,0 | 13,3 | 13,0 | 26,3 |
| 3 | Звыш 500 кв кілём . . . | 27,6 | 22,3 | 8,2 | 7,2 | 8.5 | 16.7 | 9,5 | 26,2 |

З гэтае табліцы яскрава відаць, што з памяншэньнем тэрыторыі на аднаго аграработніка рашуча павялічваецца процант удзелу агрономаў у рабоце па арганізацыі гаспадаркі з 8,2 проц. да 19,9 проц. і па зямляўпарадкаваньні з 7,2 проц. да 9,3 проц.

Наадварот, процант удзелу аграработнікаў у агрпрапагандзе, як паказам, так і асабліва словам павялічваецца з павялічэньнем тэрыторыі з 15,7 проц. у першай групе па паказальных мерапрыемствах да 22,3 проц. у трэцяй групе і з 20,7 проц. у першай групе па агрпрапагандзе „словам“ да 27,0 проц. у другой і 27,6 проц. у трэцяй групе. Гэтыя лічбы яскрава набліжаюць савецкіх агрономаў да земскіх, якія пры вялікай тэрыторыі вучастку галоўным чынам і займаліся агрпрапагандаю і паказальнымі мерапрыемствамі.

Той факт, што процант удзелу агрономаў у рабоце па коопэрацыі павялічваецца з павялічэньнем тэрыторыі на аграработніка з 3,5 проц. да 8,5 проц. сьведчыць аб тым, што агрономы, ня маючы магчымасьці займацца непасрэднай работаю па рэорганізацыі гаспадаркі, імкнуцца папоўніць гэту прагаліну шляхам арганізацыі насельніцтва ў коопэрацыйныя аб‘яднаньні.

Але ўдзельная вага гэтага разьдзелу работы ва ўсіх групах надзвычайна малая.

Што да загрузкі агрономаў канцылярскай ды іншай няплянавай неагрономічнай работаю, дык тут мы маем досыць нявыразны малюнак. Аднак, тэндэнцыя ўзмацненьня іншае няплянавае работы пры памяншэньні тэрыторыі з 9,5 проц. да 13,5 проц. наводзіць на падазронасьць, што РВК пры павялічэньні штатаў лічаць, што на меншай тэрыторыі агрономам няма чаго рабіць, а значыць можна выкарыстоўваць іх і на іншую работу па даручэньні РВК.

Некалькі менш яскравы малюнак дае аналіз уплыву колькасьці сялянскіх гаспадарак на зьмест работы агрономаў. Для аналізу мы таксама падзялілі раёны на 3 групы: 1-ая да 1.500 гаспадарак на 1 аграработніка—7 раёнаў; 2-ая група ад 1.500 да 2.500 гаспадарак—22 раёны і 3-я група—звыш 2.500 гаспадарак—6 раёнаў.

Па гэтых трох групах, мы атрымалі наступны малюнак:

**Уплыў у колькасьці сялянскіх гаспадарак на зьмест работы аграномаў:**

| Групы | Лік гаспадарак на 1-го агроработніка | Агропрапаганда | Паказ. мерапрыем. | Арган. гаспадаркі | Зямляўпарадкав. | Коопэрацыя | Канцылярыя | Іншая | Канцыляр. плюс іншая |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Да 1500 гаспадарак . | 24,9 | 17,1 | 10,4 | 8,6 | 7,0 | 21,3 | 10,7 | 32,0 |
| 2 | Ад 1500 да 2500 гас. | 25,9 | 15,0 | 18,4 | 10,0 | 5,9 | 13,0 | 11,8 | 24,8 |
| 3 | Звыш 2500 гаспадарак | 22,9 | 15,0 | 16,5 | 7,5 | 4,1 | 15,2 | 18,8 | 34,0 |

Як бачым, малюнак вельмі нявыразны. Толькі разьдзелы работы па паказальных мерапрыемствах і па ўдзелу ў коопэрацыі даюць некаторае памяншэньне проценту, пры павялічэньні ліку гаспадарак на аднаго агроработніка з 17,1 проц. да 15,0 проц. у графе паказальных мерапрыемстваў і з 7,0 проц. да 4,1 проц. у графе „коопэрацыя".

З памяншэньнем ліку гаспадарак на аднаго агроработніка ад 3-й групы да другой узмацняецца ўдзел аграномаў у зямляўпарадкаваньні (ад 7,5 да 10,0 проц.) і ў працы па арганізацыі гаспадаркі (ад 16,5 да 18,4 проц.), аднак, у першай групе гэтыя проценты зноў зьмяншаюцца і коштам іх узмацняюцца проценты ўдзелу ў канцылярыі (21,3 проц.).

Прычыну такой нявыразнасьці малюнку можна растлумачыць тым, што сама колькасьць гаспадарак хаця мае ўплыў на зьмест работы, але гэты ўплыў будзе розны ў залежнасьці ад таго, як гэта колькасьць разьмешчана на тэрыторыі, у вялікія ці малыя паселішчы, што будзе сьведчыць аб тэй ці іншай ступені зямляўпарадкаванасьці, аб той ці іншай рэальнай магчымасьці арганізацыі гаспадаркі і аб'яднаньня насельніцтва ў коопэрацыйныя арганізацыі.

У гэтых адносінах надзвычайна характарным зьяўляецца малюнак комбінацыі раёнаў па ліку паселішч на 1 агроработніка:

Мы ўзялі наступныя паказьнікі: 1-я група да 50 паселішч на 1 агроработніка—8 раёнаў, 2-я група ад 50 да 100 паселішч—19 раёнаў і 3-я група звыш 100 паселішч—8 раёнаў.

Падрахаваўшы лічбы па гэтых трох групах работы ўсіх аграномаў, мы атрымалі наступныя суадносіны ў процантах:

**Уплыў ліку паселішч на аднаго агроработніка:**

| Лік паселішч на 1-го агроработніка | Агропрапаганда | Паказ. мерапрыем. | Арган. гаспадаркі | Зямляўпарадкав. | Коопэрацыя | Канцылярыя | Іншая | Канц. плюс іншая | Сярэд. веліч. паселішч | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | Плошча ў гектар. | Лік гасп. |
| 1-я да 50 паселішч | 23,5 | 16,5 | 6,1 | 11,4 | 7,0 | 19,4 | 16,1 | 35,4 | 1111,6 | 46,5 |
| 2-я ад 50 да 100 паселішч . . . . | 26,1 | 15,7 | 16,5 | 9,3 | 5,8 | 14,6 | 12,0 | 26.6 | 439,7 | 29,0 |
| 3-я звыш 100 паселішч . . . . . | 24,5 | 13,7 | 26,9 | 7,3 | 4,6 | 11,8 | 11,2 | 23,0 | 230,9 | 17,0 |

З гэтае табліцы яскрава відаць, што з павялічэньнем колькасьці паселішч на аднаго агроработніка рашуча зьмяняецца зьмест работы ўсіх аграномаў. Так, удзел аграномаў у рабоце па організацыі гаспадаркі павялічваецца з 6,1 проц. да 16,5 проц. у другой групе і да 26,9 проц. у трэцяй групе—амаль у 5 разоў. Наадварот, процант удзелу аграномаў у зямляўпарадкаваньні значна памяншаецца з 11,4 проц. да 9,3 проц. у другой групе і да 7,3 проц. у трэцяй. Гэтыя два рады лічбаў яскрава сьведчаць, што з павялічэньнем колькасьці паселішч на аднаго агроработніка, якое азначае павялічэньне колькасьці дробных паселішч, перад аграномамі павялічваюцца магчымасьці непасрэднае работы па гаспадарчым упарадкаваньні гаспадарак і наадварот, удзел у зямляўпарадкаваньні пры дробных паселішчах не такая ўжо актуальная задача, і таму яна ў гэтай групе складае мінімальны процант (7,3 проц.).

Што нашы апрыорныя разважаньні аб дробнасьці паселішч правільныя, аб гэтым сьведчаць лічбы двух апошніх граф, дзе адзначана сярэдняя велічыня паселішч па кожнай групе. Як бачым, у першай групе раёнаў сярэдняя велічыня паселішча характарызуецца плошчаю 1111,6 гектара з 46,5 сялянскімі гаспадаркамі, тымчасам, як у апошняй групе мы маем толькі 17 гаспадарак з плошчаю 230,9 гектараў. Зразумела, што ў першай групе пытаньні зямляўпарадкаваньня будуць мець больш актуальны характар, чым у групе трэцяй, дзе сярэдняя велічыня паселішча набліжаецца да звычайнага

пасёлку, дзе і без зямляўпарадкаваньня (або яно ўжо зроблена) магчыма ажыцьцяўляць цэлы шэраг мерапрыемстваў па гаспадарчым упарадкаваньні, як перавод на шматпалёвыя севазвароты.

Раз даведзена, што дробнасьць паселішч супадае з павялічэньнем колькасьці паселішч на аднаго агроработніка, дык нам становіцца зразумелым і два другіх рады характарных лічбаў—гэта ўдзел у коопэрацыі і па закладцы паказальных мерапрыемстваў. Той факт, што процант удзелу ў коопэрацыі памяншаецца з павялічэньнем дробнасьці паселішч з 7 проц. да 4,6 проц., сьведчыць аб тым, што ў дробных паселішчах значна цяжэй організаваць насельніцтва ў коопэрацыйныя аб'яднаньні, чым у буйных паселішчах, наадварот, паказальныя мерапрыемствы выгадней праводзіць у буйных паселішчах, тады яны дадуць больш масавы эфэкт. Апошнюю законамернасьць мы і назіраем у графе паказальных мерапрыемстваў, дзе з узбуйненьнем паселішч павялічваецца ўдзел агрономаў у гэтай рабоце з 13,7 проц. да 16,5 проц.

Вельмі станоўча ідуць два рады лічбаў удзелу агрономаў у канцылярскай і іншай няплянавай, неагрономічнай рабоце: з павялічэньнем дробнасьці паселішч зьмяншаецца процант канцылярскае работы з 19,4 проц. да 11,8 проц. ды іншае з 16,1 проц. да 11,2 проц., што разам па двух разьдзелах дае памяншэньне з 35,4 проц. да 23,0 проц.

Каб яшчэ больш дасканала ўпэўніцца, што іменна дробнасьць паселішч уплывае на спагадныя суадносіны зьместу работы агрономаў, мы зрабілі дадаткова групоўку раёнаў па велічыні паселішч, незалежна ад колькасьці агропэрсоналу ў раёне.

Усе раёны мы падзялілі на тры групы—1-ая група, у якой сярэдняя велічыня паселішча да 20 гаспадарак—10 раёнаў; 2-я група ад 20 да 40 гаспадарак—17 раёнаў; 3-я група, дзе сярэдняя велічыня паселішча перавышае 40 гаспадарак—8 раёнаў. Хаця групы атрымаліся прыблізна аднолькавыя, аднак, склад груп некалькі іншы: так у першай групе супала 7 раёнаў—а 3 не, у другой—13 раёнаў, а 4 іншых у 3-й групе з 8 супала 5 раёнаў. Тымчасам характар суадносін падзелу работы агрономаў атрымаўся амаль аднолькавы.

Так, мы маем наступныя лічбы:

**Уплыў велічыні паселішч на зьмест работы агрономаў:**

| Сярэдняя велічыня паселішч | Агропрапа-ганда | Паказ. ме-рапрыем. | Орган. гас-падаркі | Зямляўпа-радкаван. | Коопэрацыя | Канцыля-рыя | Іншая | Канцыл. плюс іншая |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Да 20 гасп. . . . . | 24,2 | 16,6 | 23,4 | 6,9 | 4,5 | 13,3 | 11,1 | 24,4 |
| 2. Ад 20 да 40 гаспадарак | 26,7 | 15,0 | 14,7 | 9,8 | 7,2 | 15,2 | 11,4 | 26,6 |
| 3. Звыш 40 гаспадарак . | 23,0 | 14,9 | 11,9 | 11,3 | 4,5 | 16,7 | 17,7 | 34,4 |

Як бачым з табліцы, назіраюцца тыя-ж самыя тэндэнцыі хаця і ў крыху паменшаных лічбах. Процант удзелу ў організацыі гаспадаркі з памяншэньнем сярэдняе велічыні паселішча павялічваецца з 11,9 проц. да 23,4 проц., і наадварот, з узбуйненьнем паселішч узмацняецца процант удзелу ў зямляўпарадкаваньні з 6,9 проц. да 11,3 проц. Сыстэматычна павялічваецца ўдзельная вага работы па канцылярыі (з 13,3 проц. да 16,7 проц.) і па іншай неагрономічнай рабоце (з 11,1 проц. да 17,7 проц.) пры ўзбуйненьні велічыні паселішча, даючы разам павялічэньне з 24,4 проц. да 34,4 проц.

Што-ж да ўдзелу агрономаў у коопэрацыі, дык сярэдняя група дае найбольшы процант—7,2. Відаць, найбольш удзячнай асярэдзінай для коопэрацыйнае работы зьяўляюцца згуртаваньні сялян у сярэднія па велічыні паселішчы, ад 20 да 40 гаспадарак паселішчы (хутарызацыя) і буйныя паселішчы (патрабуючыя неадкладнага зямляўпарадкаваньня) відавочна ня спрыяюць коопэрацыйнай рабоце.

Удзельная вага работы па агропрапагандзе прыблізна аднолькавая, як і ў першым выпадку—толькі лічбы ўздыму ў паказальных мерапрыемствах даюць хаця і ня рэзкі, але адваротны малюнак.

Такім чынам, з поўнай відавочнасьцю выяўляюцца тры фактары, якія моцна ўплываюць на зьмест работы агрономаў—гэта велічыня тэрыторыі, велічыня паселішча і колькасьць агропэрсоналу.

Для большае назіральнасьці мы зрабілі комбінаваную табліцу ўплыву велічыні тэрыторыі і колькасьці паселішч на аднаго агроработніка.

У выніку атрымалі наступны малюнак:

**Уплыў плошчы і ліку паселішч—у пералічэньні на 1 аграработніка на зьмест работы агрономаў:**

| Па плошчы на 1 аграработніка (у кілём.) | Па ліку паселішч на 1 аграработніка | Агропрапаганда | Паказ. мерапрыем. | Орган. гаспадаркі | Зямляўпарадкаван. | Коопэрацыя | Канцылярыя | Іншая | Канцыляр. плюс іншая |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Да 250 кв. кілёмэтр. | Больш 100 пас. | 17,3 | 16,3 | 25,3 | 8,3 | 3,3 | 16,7 | 12,7 | 29,4 |
| | Ад 100 да 50 п. | 24,8 | 16,7 | 21,0 | 9,0 | 3,5 | 13,0 | 12,0 | 25,0 |
| | Менш 50 пас. | 13,5 | 12,0 | 8,0 | 11,5 | 4,0 | 31,5 | 19,5 | 51,0 |
| Ад 250 да 500 кв. кілёмэтраў | Больш 100 пас. | 28,8 | 12,2 | 27,8 | 6,6 | 5,4 | 8,8 | 10,4 | 19,2 |
| | Ад 100 да 50 п. | 27,5 | 12,2 | 15,7 | 9,9 | 7,1 | 14,8 | 12,8 | 27,6 |
| | Менш 50 пас. | 24,6 | 19,0 | 6,2 | 12,4 | 6,6 | 15,0 | 16,2 | 31,2 |
| Больш 500 кв. кілёмэтраў | Больш 100 пас. | 24,0 | 25,3 | 10,3 | 8,0 | 6,3 | 16,6 | 9,3 | 25,9 |
| | Ад 100 да 50 п. | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Менш 50 пас. | 38,0 | 13,0 | 2,0 | 5,0 | 15,0 | 17,0 | 10,0 | 27,0 |

З гэтае комбінаванае табліцы яскрава відаць, што з памяншэньнем плошчы тэрыторыі на аднаго аграработніка, асабліва ў раёнах з дробнымі паселішчамі, значна ўзмацняецца работа агрономаў па організацыі гаспадаркі, даходзячы ў першай групе да 25,3 проц. і нават да 27,8 проц., групе пры тэрыторыі ад 250 да 500 кв. кілёмэтраў, прычым рэзкае зьмяншэньне проценту гэтае работы мы назіраем у групе раёнаў з плошчаю звыш 500 кв. кілёмэтраў—зьмяншэньне ня больш чым у 5 раз, пры плошчы ад 250 да 500—зьмяншэньне больш чым у 4 разы (з 27,8 да 6,2 проц.) і ў групе да 250 кв. кілёмэтраў—процант зьмяншаецца толькі ў 3 разы—з 25,3 проц. да 8 проц.

Удзел у зямляўпарадкаваньні, наадварот, у кожнай групе павялічваецца, прычым у сярэдняй групе відаць найбольш інтэнсыўнае ўзмацненьне ўдзельнае вагі (з 6,6% да 12,4%).

Аналёгічную тэндэнцыю назіраем і ў графе ўдзелу ў коопэрацыі.

Мінімальную ўвагу агропрапагандзе мы назіраем у першай групе і ўзмацненьне ўвагі ў групе другой і трэцяй.

На падставе ўсяго аналізу мы можам зрабіць наступныя вынікі:

1) Памяншэньне плошчы тэрыторыі на аднаго агроработніка раёну (што роўназначна павялічэньню аграномічнага штату раёну) значна ўплывае на зьмест работы аграномаў у бок павялічэньня ўвагі да арганізацыі гаспадаркі.

2) Асабліва эфэктнае павялічэньне штату ў раёнах з больш дробнымі паселішчамі, або, інакш кажучы, дзе зямляўпарадкаваньне або зроблена, або ня так актуальна.

3) У раёнах з буйнымі паселішчамі першачарговае значэньне набывае работа па зямляўпарадкаваньні і што коштам скарачэньня работы па агрaпрапагандзе трэба значна ўзмацніць работу па зямляўпарадкаваньні ды арганізацыі гаспадаркі.

4) Што комплектаваньне агросеткі павінна быць шчыльна ўвязана з асаблівасьцямі раёнаў; там, дзе ёсьць спрыяючыя ўмовы для непасрэднае агроработы,—там штаты трэба ўзмацніць, а дзе спрыяючых умоў няма, там трэба пакінуць аднаго-двух пропагандыстых, а рэшту перакінуць у больш інтэнсыўныя раёны для абслугоўваньня зямляўпарадкаваньня і для арганізацыі гаспадаркі.

Аднак, гаварыць проста аб мэханічным павялічэньні штату агропэрсоналу было-б няправільна. Мы ўжо некалькі разоў падкрэсьлівалі, што ў справе арганізацыі агродапамогі надзвычайна вялікую ролю граюць і самі арганізацыйныя формы агрономічнае організацыі. Цяпер папрабуем лічбамі давесьці, што пры розных формах арганізацыі атрымліваюцца зусім іншыя суадносіны разьдзелу работы аграномаў. Мы папрабавалі падагуліць лічбы суадносін работы аграномаў пры розных арганізацыйных формах (гл. дадатак № 10), падзяліўшы раён на тры групы. У першую групу ўвайшло 14 раёнаў, дзе агрономы абслугоўваюць насельніцтва з раённага асяродку, як прадугледжана ў схэме № 1 і 2 (гл. разьдзел формы арганізацыі).

У другую групу ўвайшло 12 раёнаў з рознымі пераходнымі формамі, адзначанымі ў схэмах №№ 3, 4, 5, 6 і 7.

У трэцюю групу ўвайшло 10 раёнаў з выразнай формаю падзелу раёнаў на агровучасткі, якія прадугледжаны схэмамі №№ 8, 9 і 10.

Хаця гэтыя даныя толькі аднаго году, часта няпоўнага, аднак, і за кароткі пэрыод ужываньня новае формы значна адбілася на зьмесьце работы агрономаў і дала станоўчыя вынікі.

У сярэдніх лічбах па гэтых трох групах мы маем наступны малюнак:

**Уплыў организацыйных форм на зьмест работы агрономаў.**

| Формы організацыі | Агропропаг. | Паказ. мерапрыем. | Організац. гасп. | Зямляўпарадкав. | Коопэрацыя | Канцылярыя | Іншая | Канцыляр. плюс іншая |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1) Пры абслугоўваньні з аднаго цэнтру (схэма № 1 і 2) . . . | 22,7 | 15,1 | 16,8 | 8,1 | 4,5 | 16,2 | 15,0 | 31,2 |
| 2) Розныя пераходныя формы (схэма № 3-4, 5, 6, 7 і 8) . . | 23,6 | 16,4 | 14,7 | 9,8 | 6,5 | 15,8 | 13,2 | 29,0 |
| 3) Пры падзеле раёну на агровучасткі (схэма № 8, 9 і 10) . . | 30,2 | 14,6 | 16,3 | 10,2 | 6,7 | 12,4 | 9,6 | 22,0 |
| 4) Пры падзеле раёну на агровучасткі толькі без Мазыршчыны . | 28,3 | 12,5 | 23,7 | 12,7 | 5,3 | 9,8 | 7,7 | 17,5 |

З гэтае табліцы добра відаць, што з набліжэньнем агронома да насельніцтва (пры падзеле раёну на вучасткі) значна зьмяншаецца ўдзельная вага работы па канцылярыі (з 16,2 проц. да 9,8 проц.) і па іншай няплянавай, неагрономічнай рабоце з 15 проц. да 7,7 проц., што па абодвух разьдзелах дае памяншэньне з 31,2 проц. да 17,5 проц. Узмацняецца работа агрономаў у коопэрацыі з 4,5 проц. да 6,7 проц. і па зямляўпарадкаваньні з 8,1 проц. да 12,7 проц. Нязначна, але памяншаецца процант работы па паказальных мерапрыемствах з 15,1 проц. да 12,5 проц. Толькі вусная агропропаганда дае павялічэньне проценту з 22,7 проц. да 30,2 проц. з Мазыршчынай і да 28,3 проц. без Мазыршчыны. Мы думаем, што гэта зьява пераходная, выкліканая неабходнасьцю азнаямленьня насельніцтва з новаю формаю організацыі і

азнаямленьня самога агронома з насельніцтвам. Мы думаем, што ўжо на другі і трэці год пры падзеле раёну на вучасткі агропрапаганда значна зьменшыцца і яшчэ больш узмоцніцца разьдзел работы па арганізацыі гаспадаркі, па ўдзелу ў зямляўпарадкаваньні і коопэрацыі.

Самая-ж галоўная перавага вучастковае формы ад цэнтралізаванае заключаецца, паводле нашай думкі, у тым, што значна ўзмацняецца ўдзел агронома ў арганізацыі гаспадаркі. Калі пры цэнтралізаванай форме гэты ўдзел вызначаецца 16,8 проц., дык пры падзеле на падраёны ён дасягае 23,7 проц.

Мы знарок з апошняе групы выкрэсьлілі Мазыршчыну, дзе цалкам ажыцьцёўлены прынцып падзелу раёнаў на вучасткі, але дзе работа па ўвядзеньні шматпольля па об'ектыўных умовах (незалежна ад формы арганізацыі) ня можа мець шырокага размаху і таму раёны Мазыршчыны толькі тушуюць малюнак адносна арганізацыі гаспадаркі, хоць урэшце, яны даюць тыя самыя тэндэнцыі.

Таксама частка раёнаў Бабруйшчыны і Барысаўшчыны, дзе фактычна таксама ня можа быць фактычнае работы па шматпольлі, але ў якіх ёсьць пераходныя формы да вучастковага тыпу арганізацыі, таксама памяншаюць сярэдні процант арганізацыі гаспадаркі ў групе пераходных форм. Калі-ж з гэтае групы выключыць раёны Бабруйшчыны і Барысаўшчыны, дык і ў пераходнай групе мы будзем мець 19,0% удзелу агрономаў па арганізацыі гаспадаркі.

Такім чынам, можна лічыць, што пры абслугоўваньні насельніцтва заднаго цэнтру агрономы трацяць толькі 16,8% на арганізацыю гаспадаркі, пры розных пераходных формах—19 проц. і пры падзеле раёну на вучасткі гэты процант у сярэднім дасягае 23,7 проц.

Нам здаецца, што адных гэтых лічб даволі, каб прыняць рашучыя крокі да ажыцьцяўленьня гэтага прынцыпу ва ўсіх раёнах Беларусі. Трэба вырваць агрономаў з райвыканкомаўскіх канцылярый і кінуць на змаганьне за новую вёску, за новую культуру, за соцыялізм у сельскай гаспадарцы.

Аднак, і зьмена арганізацыйных форм яшчэ ня дасьць поўнага вырашэньня пытаньня,—трэба ні на хвіліну не забываць аб якасным складзе самога агропэрсоналу, асабліва кіраўнікоў работы па агродапамозе. Пры разглядзе складу агропэрсоналу нашае агросеткі мы ўжо адзначалі, што

ненормальны зьмест работы ўсяго агропэрсоналу Беларусі ў значнай ступені залежыць ад слабое падрыхтоўкі і кваліфікацыі нашага пэрсоналу.

Цяпер мы думаем у лічбах паказаць, як адбіваецца на зьмесьце работы ўсяго пэрсоналу адукацыя і стаж раённых агрономаў.

Для гэтага падамо наступную табліцу:

**Уплыў адукацыі і стажу райагрономаў на зьмест работы:**

| Адукацыя і стаж | Агропрапаганда | Паказ. мерап. | Арганізац. гаспадаркі | Зямляўпарадкав. | Коопэрацыя | Канцылярыя | Іншая | Канцылярыя плюс іншая |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вышэйшая са стажам да 3 год . | 24,8 | 17,9 | 11,1 | 7,4 | 6,2 | 15,4 | 17,2 | 32,6 |
| Ад 3 да 10 год . | 30,0 | 9,0 | 24,0 | 8,6 | 4,0 | 17,0 | 7,4 | 24,4 |
| Больш 10 год . . | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Разам . . . . | 26,0 | 15,8 | 14,1 | 7,7 | 5,7 | 15,8 | 14,9 | 30,7 |
| Сярэдняя са стажам да 3 год . . . | 14,7 | 17,8 | 8,0 | 12,8 | 4,2 | 19,8 | 22,7 | 42,5 |
| Ад 3 да 10 год . | 27,0 | 14,3 | 25,1 | 8,1 | 3,9 | 15,7 | 5,9 | 21,6 |
| Звыш 10 год . . | 27,5 | 15,5 | 21,3 | 13,2 | 7,5 | 8,5 | 6,5 | 15,0 |
| Разам . . . . | 24,1 | 15,4 | 19,8 | 10,6 | 4,9 | 15,0 | 10,2 | 25,2 |
| Ніжэйшая са стажам да 3 год . | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Ад 3 да 10 год . | 31,0 | 15,0 | 7,5 | 9,5 | 8,5 | 16,0 | 12,5 | 28,5 |
| Звыш 10 год . . | 23,7 | 14,3 | 15,5 | 9,3 | 8,7 | 12,2 | 16,3 | 28,5 |
| Разам . . . . | 26,2 | 14,5 | 12,8 | 9,3 | 8,7 | 13,5 | 15,0 | 28,5 |

Як бачым з гэтае табліцы, самыя лепшыя суадносіны ў рабоце ў той групе раёнаў, дзе на чале раённае арганізацыі стаяць агрономы з сярэдняй адукацыяй са стажам ад 3 да 10 год. Тут мы маем самы большы процант па арганізацыі гаспадаркі (25,1 проц.), самы меншы процант няплянавае работы (5,9 проц.), ня вельмі вялікі процант канцылярскае работы (15,7 проц.), хаця старэйшая група з сярэдняй адукацыяй мае самы малы процант канцыляршчыны (8,5 проц.).

На другім месцы стаіць група з сярэдняй адукацыяй, але з практычным стажам звыш 10 год, нашы агрономічныя дзядкі, дзе самы малы процант канцылярскае і няплянавае работы (разам 15 проц.), дзе досыць высокі процант работы па арганізацыі гаспадаркі (21,3 проц.), самы высокі процант удзелу агрономаў у зямляўпарадкаваньні (13,2 проц.). Што-ж да моладзі з сярэдняй адукацыяй і стажам да 3-х год, дык гэта самая нікудышная група. Дзякучы слабай падрыхтоўцы, яны больш сядзяць у канцылярыях (19,8 проц.) або выконваюць розныя даручэньні РВК—22,7 проц., што разам складае 42,4 проц. ад усяе работы агрономаў раёну. Асноўным-жа разьдзелам работы мінімум увагі—8 проц. на організацыю гаспадаркі і 4,2 проц. на работу па коопэрацыі.

Аналёгічны, але некалькі іншы малюнак даюць маладыя агрономы з вышэйшай адукацыяй, але са стажам да 3-х год. Тут таксама вельмі вялікі процант канцылярскае і няплянавае работы (32,6 проц.), малы процант па організацыі гаспадаркі—11,1 проц., але крыху большая ўвага вызначаецца коопэрацыі (6,2 проц.), агропропагандзе (24,8 проц.). На вялікі жаль, другая група з вышэйшаю асьветаю і са стажам да 10 год вельмі малая—усяго тры чалавекі, а з большым стажам і зусім няма, і таму мы ня маем магчымасьці дасканала высьветліць, як-бы была наладжана работа агрономаў з вышэйшай адукацыяй і вялікім стажам, але і гэта маленькая група падкрэсьлівае, што з павялічэньнем стажу значна ўзмацняецца (у 2 разы) процант удзелу агрономаў у організацыі гаспадаркі (да 24,0 проц.), у зямляўпарадкаваньні (8,6 проц.), і досыць значна памяншаецца процант няплянавае неагрономічнае работы (да 7,4 проц.).

Што-ж да групы з ніжэйшай адукацыяй, дык яна досыць монолітная і па стажу, і па характары работы. Гэта тыповыя прадстаўнікі земскае агрономіі, дзе на першым месцы агропропаганда словам (каля 31 проц.) і паказам (каля 15,0 проц.), добра наладжаная сваячасовая справаздачнасьць і розная адпіска (16,0 проц.) і далей усяго па крысе.

Нам здаецца, што такой катэгорыі працаўнікоў і не пад сілу абхапіць усю шырыню і глыбіню рэконструкцыйнага пэрыоду, з іх нельга шмат чаго патрабаваць і трэба спадзявацца што ў хуткім часе гэтая група ўступіць сваё месца для больш кваліфікаванага пэрсоналу, астаючыся самі на

ролях выканаўцаў, а не арганізатараў. Практычныя звычкі ды тэхнічная практыка работнікаў гэтае групы надзвычайна каштоўныя і павінны быць выкарыстаны на карысьць рэарганізаванай гаспадаркі.

Такім чынам нашы пажаданьні аб павялічэньні якасьці нашых агроработнікаў цяпер падмацованы лічбамі і мы будзем спадзявацца, што належныя органы прымуць адпаведныя крокі для ўздыму аўторытэту і працаздольнасьці нашае арганізацыі на самым баявым адказным фронце.

## Вывады.

Падагульняючы ўвесь паданы матэрыял, мы лічым неабходным зрабіць наступныя вывады:

1) Савецкі грамадзкі агроном ёсьць асноўны агент сельска-гаспадарчае палітыкі на вёсцы (у шырокім разуменьні гэтага слова)—актыўны ўдзельнік у яе распрацоўцы і беспасрэдны выканаўца яе ў масах вясковага насельніцтва.

2) Адпаведна гэтай прынцыповай устаноўцы савецкі агроном павінен быць ня простым „спэцам", ня лекарам паасобных хвароб, а агрономам-організатарам, які ажыцьцяўляе ў плянавым парадку рэорганізацыю сельскае і ў паасобку сялянскае гаспадаркі на соцыялістычных падставах, улічваючы ўсе дасягненьні агрономічнае навукі і дасьледчае справы.

3) Паколькі ў савецкай сыстэме грамадзкасьць не адлучана ад дзяржаўнасьці, пастолькі агрономічная організацыя зьяўляецца дзяржаўным апаратам у сыстэме земорганаў.

4) З узмацненьнем ўвагі партыі і ўлады да соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на правільную пабудову агродапамогі, рэальна паставіць агронома на вызначанае ў сыстэме соцыялістычнага будаўніцтва месца, бо толькі пры правільнай організацыі агродапамогі можна дасягнуць пэўных вынікаў у справе соцыялістычнага будаўніцтва ў сельскай гаспадарцы наогул і ў паасобку ў справе падвышэньня ўраджайнасьці.

5) Гісторыя разьвіцьця агродапамогі ў Расіі сьведчыць аб тым, што самы факт існаваньня агродапамогі (аб чым сьведчыць і сам тэрмін „дапамога") шчыльна зьвязаны з узмацненьнем увагі дзяржавы да запатрабаваньняў сельскае гаспадаркі, з тэй, аднак, прынцыповаю розьніцаю, што ў старыя часы гэтая ўвага выклікалася народным ліхам

(неўраджай, голад, шкоднікі) і жаданьнем аслабіць рэволюцыйны рух сялянства, а пры савецкай уладзе—жаданьнем выкарыстаць рэволюцыйны энтузіязм для плянавае соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі.

6) Аналізуючы гісторыю разьвіцьця агродапамагі на Беларусі, мы констатуем, што:

а) Беларуская агрономічная організацыя ёсьць адна з маладых у Саюзе па моманту нараджэньня.

б) Дзякуючы кароткаму тэрміну існаваньня на Беларусі земскае агрономіі, якая не пакінула ў спадчыну моцных земскіх традыцый, чаму лягчэй будаваць вытрыманую савецкую сыстэму.

в) Рэальнае ажыцьцяўленьне агродапамогі ў Беларусі пачалося толькі пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі і то некалькі год пазьней, чым у іншых частках Саюзу—з 1922 году.

г) За 10 год існаваньня БССР мы ў адносінах агродапамогі дасягнулі непараўнальнага з даваенным часам выніку як у адносінах колькасьці агропэрсоналу, так і ў сэнсе мэтодаў агроработы.

7) Аднак, адзначаючы нашыя дасягненьні, мы ні ў якім разе не павінны замазваць нашых недахопаў і таго, што яшчэ патрэбна зрабіць як у адносінах набліжэньня агродапамогі да насельніцтва, так і ў адносінах стварэньня адпаведных умоў для работы агрономаў ды іх правільнага выкарыстаньня.

8) Аналізуючы склад агропэрсоналу раёнаў, мы прыходзім да выніку, што:

а) наша агрономічная організацыя толькі формальна можа быць названа беларускай, а на справе—слаба карыстаецца беларускай мовай;

б) пераважная большасьць агроработнікаў Беларусі—моладзь, сялянскага пахаджэньня, беспартыйная;

в) па адукацыі большасьць агрономаў з сярэдняй і нават ніжэйшай адукацыяй і вельмі малы процант з вышэйшай с.-г. асьветай і то з малым практычным стажам.

9) Тыя факты, што людзі з вышэйшай адукацыяй неахвотна ідуць на работу ў раён і што сярэдняя працягласьць часу работы аднаго агронома ў раёне крыху больш аднаго году (вялікая цякучасьць агропэрсоналу), сьведчыць, аб тым,

што да сучаснага моманту ў нізавой агросетцы ня было спрыяючых умоў для работы.

10) Канечна патрэбна стварэньне адпаведных умоў для работы агрономаў на вёсцы, канечна патрэбна—„сартаваньне і ачыстка“ наяўнага агропэрсоналу ад чуждага элемэнту, адшуканьне форм прыцягненьня ў нізавую агросетку агрономаў, якія канчаюць Беларускую с.-г. акадэмію.

11) Аналізуючы організацыйныя формы агрономічнае організацыі, мы прыходзім да выніку, што поўная *дэцэнтралізацыя* агрономічнае організацыі на практыцы *сябе не апраўдала*, што патрэбна некаторая цэнтралізацыя і ўзмацненьне жывое сувязі работнікаў НКЗБ і акрза з раёнамі ў форме інструктаваньня і кантролю за ажыцьцяўленьнем на мясцох с.-г. політыкі.

12) Трэба распрацаваць сталую сыстэму пашырэньня агрономічнае сеткі па тэрыторыі БССР, у залежнасьці ад ступені інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі, яе кірунку і тэмпу рэконструкцыі, рашуча адмовіўшыся ад роўнамернага абслугоўваньня ўсіх адміністрацыйных раёнаў (паводле пэрспэктыўнага пляну НКЗБ вызначаецца падзел усіх раёнаў на 4 падраённыя вучасткі).

13) Сярод нізавых аграработнікаў назіраецца напружнае шуканьне новых організацыйных форм у межах раёну. На тэрыторыі БССР мы констатавалі існаваньне дзесяці схэм агрономічнае організацыі, прычым большасьць раёнаў прынцыпова лічыць найбольш рацыянальнай форму вучастковае організацыі (падзел адміністрацыйнага раёну на вучасткі), а не раённую (спэцыялізаваную), што ў данай ступені разьвіцьця агродапамогі мы лічым прогрэсыўнай зьявай.

14) Разглядаючы ўсю сыстэму агрономічнае дапамогі насельніцтву, мы ні ў якім разе ня можам згадзіцца з тым становішчам, якое існуе цяпер, калі для організацыі і абслугоўваньня колгасаў і вытворча-коопэрацыйных аб‘яднаньняў вылучаны адзін агроном на раён. Для ўсебаковага абслугоўваньня колгасаў і коопэрацыйных аб‘яднаньняў павінна існаваць спэцыяльная сетка куставых агрономаў-колгасьнікаў па лініі колгасцэнтру, а організацыяй насельніцтва ў колгасы і коопэрацыйныя аб‘яднаньні павінны займацца ўсе агрономы агрономічнае сеткі і лічыць гэтую работу першачарговаю.

15) Адносна зьместу работы ўсіх агрономаў нашы даныя яскрава падкрэсьліваюць, што ў большасьці раёнаў Беларусі агрономы больш 30 проц. часу трацяць на канцылярскую ды іншую няплянавую, неагрономічную работу, прычым мы выявілі, што ў большай ступені гэтаю работаю займаюцца самі райагрономы, што фактычна райагрономы сталі на палажэньне „справаводаў“ па зямельнай частцы.

16) Сярод фактараў, што ўплываюць на зьмест работы агрономаў, мы констатавалі наступныя:

а) Памяншэньне нагрузкі агронома плошчаю тэрыторыі (што роўназначна павялічэньню штатаў) узмацняе агрономічны сэктар работы ў раёне.

б) Колькасьць і дробнасьць паселішч на аднаго аграработніка значна зьмяняе твар работы агрономаў—значна ўзмацняецца ўдзел агрономаў у рабоце па організацыі гаспадаркі пры дробных паселішчах і, наадварот, узмацняецца ўдзел у зямляўпарадкаваньні пры буйных паселішчах у раёне.

в) Організацыйныя формы таксама вельмі ўплываюць на зьмест работы агрономаў, даючы большы процант агрономічнае работы пры вучастковай форме, чым пры цэнтралізаванай (у межах раёну), асабліва па адказных разьдзелах работы, як організацыя гаспадаркі, зямляўпарадкаваньне і рэзкае скарачэньне канцылярскае ды іншае няплянавае, неагрономічнае работы.

г) Адукацыя і стаж агропэрсоналу, асабліва райагрономаў, моцна ўплываць на суадносіны падзелу работы ўсіх агрономаў, даючы лепшыя суадносіны ў групе райагрономаў з сярэдняй адукацыяй, але з вялікім практычным стажам і ў групе з вышэйшай адукацыяй са стажам больш 3-х год. Моладзь як з вышэйшай, так і асабліва з сярэдняй адукацыяй даюць прыблізна такія-ж суадносіны ў рабоце, як і агрономы з ніжэйшай адукацыяй, але з вялікім практычным стажам, суадносіны гэтыя наогул вельмі нездавальняючыя.

17) Трэба па ўсёй БССР ажыцьцявіць прынцып падзелу адміністрацыйных раёнаў на агрономічныя вучасткі ў залежнасьці ад прыродных і экономічных асаблівасьцяй раёнаў (у інтэнсыўных раёнах агровучасткі павінны быць менш чым у экстэнсыўных) і стварыць рашучы пералом у поглядах мясцовых органаў улады ды організацый на выкарыстаньне агрономаў па простым прызначэньні, дзеля чаго трэба

выдаць у форме закону спэцыяльнае палажэньне аб агрономічнай організацыі.

18) І, урэшце, канечна патрэбна стварэньне ў БССР спэцыяльнага навукова-дасьледчага асяродку для вывучэньня зьместу і мэтодаў работы савецкіх грамадзкіх агрономаў, каб на падставе гэтага вывучэньня можна было рацыяналізаваць і перабудоўваць работу нашых агрономаў і на падставе іх практыкі вучыць нашу чырвоную зьмену. Толькі на падставе дасканалага вывучэньня нашых дасягненьняў і недахопаў мы здолеем выпрацаваць такія шляхі, па якіх уся агрономічная організацыя рашуча і няўхільна будзе весьці сялянскую гаспадарку да пастаўленае мэты—да соцыялізму.

# Ergebnisse.

Nach Zusammenfassung des gesamten Materials halten wir es für notwendig, folgende Schlüsse zu ziehen:

1. Der Sowjetagronom ist der Hauptvertreter der Agrarpolitik auf dem Lande (im weiten Begriff dieses Wortes)—der aktive Teilnehmer an ihrer Ausbildung und ihr unmittelbarer Vollstrecker unter den Massen der Landbevölkerung.

2. In Übereinstimmung mit dieser prinzipiellen Einstellung darf ein Sowjetagronom kein gewöhnlicher „Spezialist", kein Arzt für einzelne Krankheiten sein, sondern ein agronomischer Organisator, der nach einer planvollen Ordnung die Reorganisation der Land-und besonders Bauernwirtschaft auf sozialistischer Grundlage unter Berücksichtigung aller Errungenschaften der Agronomie und wissenschaftlichen Forschung durchführt.

3. Sofern im Sowjetsystem das Gesellschaftswesen vom Staatswesen nicht getrennt werden kann, bildet auch die agronomische Organisation im System der landwirtschaftlichen Organe einen staatlichen Apparat.

4. Seitdem die Aufmerksamkeit der Partei und der Regierung sich in erhöhtem Masse der Rekonstruktion der Landwirtschaft zugewandt hat, muss auch eine zweckmässige Organisation der agronomischen Hilfe besonders in Betracht gezogen werden; dem Agronomen muss der ihm im System des sozialistischen Aufbaus gebührende Platz tatsächlich angewiesen werden, denn nur bei richtiger Organisation der agronomischen Hilfe können im sozialistischen Aufban in der Landwirtsahaft überhaupt und besonders hinsichtlich der Erhöhung der Ernteerträge bestimmte Resultate erzielt werden.

5. Die Entwicklungsgeschichte der agronomischen Hilfe in Russland legt davon Zengnis ab, dass die Tatsache des Bestehens der agronomischen Hilfe (wovon auch der Fachauschruck „Hilfe" zeugt) eng mit der erhöhten Aufmersamkeit der Regierung gegenüber den Bedürfnissen der Landwirtschaft verbunden ist, jedoch mit dem prinzipiellen Unterschiede, dass in früheren Zeiten diese Aufmerksamkeit durch besondere Katastrophen (Missernte, Hunger, Schädlinge) und

durch das Bestreben, die revolutionäre Bewegung der Bauernschafht abzuschwächen, hervorgerufen wurde, während die Sowjetregierung vom Bestreben geleitet wird, den revolutionären Enthusiasmus für planmässige sozialistische Rekonstruktion der Landwirtschaft auszunutzen.

6. Indem wir die Entwicklungsgeschichte der agronomischen Hilfe analysieren, konstatieren wir:

a) Die weissruthenische agronomische Organisation ist ihrem Alter nach eine der jüngsten in der Union;

b) dauk dem Umstande, dass die Agronomie der Semstwo nur kurze Zeit in Weissruthonien bestanden und keine starken Traditionen als Erbe hinterlassen hat, ist es leichter, das erprobte Sowjetsystem aufzubauen;

c) die reale Verwirklichęng der agronomischen Hilfe begann in Weissruthenien erst nach der Oktoberrevolution und zwar einige Jahre später als in anderen Teilen der Union—im Jahre 1922;

d) in den zehn Jahren des Bestehens der WSSR haben wir im Verhältnis zur Vorkriegszeit unvergleichliche Resultate in der agronomischen Hilfe erreicht, sowohl was die Zahl der Agronomen als auch die Methoden der agronomischen Tätigkeit anbetrifft.

7. Indem wir unsere Erfolge feststellen, dürfen wir jedoch in keinem Falle unsere Mängel und alles, was noch getan werden muss, um die agronomische Hilfe der Bevölkerung näher zu bringen, bemänteln; ebenso müssen entsprechende Bedingungen für die Tätigkeit der Agronomen und ihre regelrechte Heranziehung durch die Bevölkerung geschaffen werden.

8. Wenn man den Bestand des agronomischen Personals analysiert, kommen wir zu folgenden Resultaten:

a) unsere agronomische Organization kann nur formell weissruthenisch genannt werden, in der Tat bedient sie sich wenig der weissruthenischen Sprache;

b) die überwiegende Mehrzahl der agronomischen Mitarbeiter der WSSR sind junge Leute ländlicher Herkunft, parteilos;

c) ihrer Bildung nach hat die Mehrheit der Agronomen mittlere und sogar niedere Bildung genossen; nur ein geringer Prozentsatz hat landwirtschaftliche Hochschulbildung, hat jedoch nur kurzfristige Praxis.

9. Die Tatsache, dass Personen mit höherer Bildung ungern im Rayon tätig sind und die mittlere Tätigkeitsdauer eines Agronomen im Rayon ein Jahr nur wenig übersteigt (häufiger Wechsel des

agronomischen Personals) zeugt davon, dass bis zum heutigen Tage im niederen agronomischen Netze keine günstigen Arbeitsbedingungen existierten.

10. Natürlich müssen entsprechende Bedingungen für die Tätigkeit der Agronomen auf dem Lande geschaffen werden, natürlich muss eine „Sortierung und Säuberung" des vorhandenen agronomischen Personals von fremden Elementen stattfinden und müssen Wege zur Heranziehung von Agronomen, Absolventen der Weissruthenischen Landwirtschaftlichen Akademie, in das untere agronomische Netz gefunden werden.

11. Wenn wir die Formen der agronomischen Organisation analysieren, kommen wir zum Resultat, dass volle Dezentralisierung der agronomischen Organisation sich in der Praxis nicht bewährt hat, dass eine gewisse Zentralisation und Kräftigung eines regen Zusammenwirkens der Mitarbeiter des Kommissariats für Landwirtschaft der WSSR und des Bezirkslandabteilung mit den Rayons in Form von Instruktion und Kontrolle der Durchführung der Agrarpolitik notwendig sind.

12. Es muss ein festes System für die Erweiterung des agronomischen Netzes auf dem Territorium der WSSR ausgearbeitet werden, in Abhängigkeit von der Intensifikationsstufe der Landwirtschaft, von ihrer Richtung und dem Zeitmass ihrer Rekonstruktion, wobei von einer gleichmässigen Bedienung aller administrativen Rayons entschieden abgesehen werden denmuss (nach dem Perspektivplan des Kommissariats für Landwirtschaft der WSSR wird eine Einteilung aller Rayons in vier den Rayons unterstellte Distrikte bestimmt).

13. Unter den niederen agronomischen Mitarbeitern macht sich angestrengtes Streben nach neuen Organisationsformen in den Grenzen des Rayons bemerkbar. Auf dem Territorium der WSSR haben wir das Bestehen von zehn Schemas für agronomische Organisation festgestellt, wobei die Mehrheit der Rayons prinzipiell die Form einer Distriktsorganisation (Einteilung des administrativen Rayons in Distrikte) für am meisten zweckmässig ansicht, nicht aber die Rayonform (die spezialisierte), was wir auf der gegenwärtigen Entwicklungsstufe der agronomischen Hilfe als fortschrittliche Erscheinung gelten lassen.

14. Betrachtet man das ganze System der der Bevölkerung zu leistenden agronomischen Hilfe, so können wir uns auf keinen Fall mit der jetzigen Lage einverstanden erklären, die für Organisation und Bedienung der Wirtschaftskollektive und kooperierten Produk-

tionsvereinigungen einen Agronomen für den Rayon bereitstellt. Zur allseitigen Bedienung der Wirtschaftkollektive und kooperiert Vereinigungen muss ein spezielles Netz von Agronomen für Wirtschaftskollektive und Kooperation mit einem kollektivwirtschaflichen Zentrum bestehen; die Organisation der Bevölkerung in Wirtschaftskollektive und kooperierte Vereinigungen muss in den Händen aller Agronomen des betr. agronomischen Netzes liegen und diese Tätigkeit muss als erste der laufenden Arbeiten betrachtet werden.

15. Was den Inhalt der Tätigkeit aller Agronomen betrifft, so tritt an unserem Material klar hervor, dass in den meisten Rayons Weissrutheniens von den Agronomen mehr als 30% ihrer Zeit zu Kanzlei-und anderer unplanmässiger, nicht agronomischer Arbeit verwandt wird, wobei wir konstatiert haben, dass sich grösstenteils die Rayonagronomen persönlich damit beschäftigen, dass die Rayonagronomen tatsächlichlich die Stellung von „Geschäftsführern" in landwirtschaftlichen Angelegenheiten einnehmen.

16. Unter den Faktoren, welche den Inhalt der Tätigkeit der Agronomen beeinflussen, haben wir folgende konstatiert:

a) die Belastung des Agronomen mit kleinerem Territorium (was gleichbedentend mit Vergrösserung des Personalbestandes ist) kommt der direkten agronomischen Tätigkeit im Rayon zugute;

b) die Anzahl und Grösse der Ansiedlungen, die einem agronomischen Mitarbeiter zufallen, ändert die Art seiner Tätigkeit zusehends: bedeutend intensiver ist die Teilnahme der Agronomen an der Wirtschaftsorganisation in Rayons mit kleinen Ansiedlungen, während umgekehrt in Rayons mit grösseren Ansiedlungen ihre Teilnahme an der Regelung der Siedlung überwiegt;

c) die Organisationsformen beeinflussen ebenso den Charakter der Tätigkeit der Agronomen, indem sie einen grösseren Prozentsatz agronomischer Arbeit bei der Distriktform leisten als bei der zentralisierten (in den Grenzen des Rayons), besonders bei Arbeitsverteilungen unter Übernahme der Verantwortung für Wirtchaftsorganisation, Siedelung und bei energischer Einschränkung der Kanzlei- und der anderen nichtplanmässigen und nicht agronomischen Tätigkeit;

d) die Bildung und praktische Erfahrung des Agronompersonals, besonders der Rayonagronomen, übt einen grossen Einfluss auf die Arbeitsverteilung unter alle Agronomen aus; sie ergiebt bessere Beziehungen in der Gruppe der Rayonagronomen mit mittlerer Bildung, aber mit grosser praktischer Erfahrung und in der Gruppe

mit höherer Bildung und mehr als dreijähriger Praxis. Die jiungen Mitarbeiter mit höherer und besonders mit mittlerer Bildung ergeben in ihrer Arbeit ungefähr dieselben Beziehungen wie die Agronomen mit niederer Bildung aber grosser Praxis; diese Bezichungen sind im ganzen sehr unbefriedigend.

17. Man muss in der ganzen WSSR das Prinzip der Einteilung aller administrativen Rayons in agronomische Distrikte durchführen, und zwar im Einklang mit den natürlichen und ökonomischen Eigentümlichkeiten der Rayons (in intensiven Rayons müssen die agronomischen Distrikte kleiner sein als in den extensiven) und einen entschiedenen Umschwung in den Ansichten der örtlichen Regierungsorgane und Organisationen hinsichtlich der Ausnutzung der Agronomen ihrer eigentlichen Bestimmung gemäss hervorrufen, zu welchen Zwecke spezielle gesetzliche Bestimmungen über die agronomische Organisation herausgegeben werden müssen.

**Зводная ведамасьць даных аб велічыні адміністрацыйных**

| №№ чарговыя | НАЗВА РАЁНУ і АКРУГІ | Плошча | | Радыус | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | У гектарах | У кілёмэтрах | 1-шы | 2-гі | 3-ці |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | **Менская акр.** | | | | | |
| 1 | Сьмілавіцкі . . | 79000 | 790 | — | — | — |
| 2 | Самахвалавіцкі . | 96600 | 966 | 12,8 | 14,9 | 14,9 |
| 3 | Узьдзенскі . . | 86000 | 860 | 18 | 18 | 19 |
| | У сярэднім . . | 87200 | 872 | 15,4 | 16,5 | 16,9 |
| | **Барысаўская акр.** | | | | | |
| 4 | Халопеніцкі . . | 126500 | 1265 | 8,5 | 10,7 | 26,6 |
| 5 | Бярэзінскі . . | 175000 | 1750 | 20 | 22 | 23 |
| 6 | Крупскі . . . | 197000 | 1970 | 16 | 18 | 18 |
| 7 | Плешчаніцкі . . | 93950 | 939,5 | 7,5 | 14 | 21,4 |
| | У сярэднім . . | 148112 | 1481,1 | 13,0 | 16,2 | 22,2 |
| | **Слуцкая акр.** | | | | | |
| 8 | Капыльскі . . | 109300 | 1093 | 12 | 13 | 20 |
| 9 | Старобінскі . . | 141800 | 14180 | 15 | 20 | 21 |
| 10 | Любаньскі . . | 114760 | 1147,6 | 17 | 21,4 | 21,4 |
| 11 | Старадароскі . . | 230500 | 2305 | 21,3 | 32 | 32 |
| | У сярэднім . . | 149090 | 1490,9 | 16,33 | 21,6 | 23,6 |
| | **Бабруйская акр.** | | | | | |
| 12 | 2-гі Бабруйскі . | 138200 | 1382 | 25 | 30 | 32 |
| 13 | Жлобінскі . . | 150000 | 1500 | 11 | 16 | 16 |

*Дадатак № 1.*

**раёнаў і пералік асноўных паказьнікаў на 1 аграработніка.**

| Радыус | | Лік сельсаветаў | Лік паселішч | Лік сялянскіх гаспадарак | Душ насельніцтва | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 4-ты | Сярэдні | | | | Усяго | Вясковага |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| — | 22 | 10 | 264 | 7256 | 40118 | 36674 |
| 23,5 | 16,5 | 16 | 486 | 8474 | 47713 | 47713 |
| 20 | 1875 | 11 | 319 | 5200 | 30308 | 27807 |
| 21,7 | 19,1 | 12,3 | 356,3 | 6976,6 | 39381 | 37398 |
| 48 | 23,9 | 11 | 312 | 6957 | 39500 | 37800 |
| 40 | 26,25 | 15 | 388 | 8465 | 49260 | 46280 |
| 40 | 23 | 11 | 167 | 5802 | 35587 | 33346 |
| 37,3 | 20,3 | 11 | 479 | 5649 | 31523 | 29783 |
| 41,4 | 23,4 | 12 | 336,5 | 6718,25 | 38968 | 36802 |
| 20 | 16,25 | 14 | 301 | 9609 | 52848 | 48645 |
| 70 | 31,5 | 15 | 250 | 7859 | 42696 | 41797 |
| 53,5 | 28,3 | 10 | 273 | 6081 | 33517 | 32500 |
| 37,3 | 30,65 | 11 | 280 | 7936 | 43240 | 41240 |
| 45,2 | 26,5 | 12,5 | 276 | 7871,2 | 43075,2 | 41045,5 |
| — | 29 | 13 | 332 | 7512 | 42461 | 41668 |
| 28 | 17,75 | 14 | 224 | 7762 | 58087 | 40631 |

| №№ чарговыя | НАЗВА РАЁНУ і АКРУГІ | Плошча | | Радыус | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | у гектарах | у кілёмэтрах | 1-шы | 2-гі | 3-ці |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 14 | 1-шы Бабруйскі. | 95000 | 950 | — | — | — |
| 15 | Сьвіслацкі . · | 140400 | 1404 | 14 | 15 | 25 |
| 16 | Клічаўскі . . . | 113800 | 1138 | — | — | — |
| | У сярэднім . . | 127480 | 1274,8 | 16,7 | 20,3 | 24,3 |
| | **Мазырская акр.** | | | | | |
| 17 | Лельчыцкі . . | 165700 | 1657 | 23,5 | 25 | 38 |
| 18 | Жыткоўскі . . | 204840 | 2048.4 | 21,25 | 24 | — |
| 19 | Нараўлянскі . . | 156400 | 1564 | 20 | 25 | 50 |
| 20 | Калінкавіцкі . . | 148800 | 1488 | 12 | 15 | 28 |
| 21 | Каралінскі . . | 115200 | 1152 | 13 | 17 | 23 |
| | У сярэднім . . | 158190 | 1581,9 | 17,7 | 21,2 | 34,7 |
| | **Гомельская акр.** | | | | | |
| 22 | Увараўскі. . . | 101500 | 1015 | 17 | 25 | 38 |
| 23 | Носаўскі . . . | 70500 | 705 | 5 | 8 | 16 |
| 24 | Гомельскі. . . | 60200 | 602 | 13 | 13 | 22 |
| 25 | Дзятлаўскі . . | 39349 | 393,5 | 20 | 30 | 30 |
| 26 | Сьвяцілаўскі. . | 109150 | 1091,5 | 17 | 27 | 28 |
| | У сярэднім . . | 76140 | 761,4 | 14,4 | 20,6 | 26,8 |
| | **Калінінская акр.** | | | | | |
| 27 | Чэрыкаўскі . . | 112300 | 1123 | 12,5 | 13,0 | 16.5 |
| 28 | Мсьціслаўскі. . | 85000 | 850 | 7,0 | 20 | 20 |
| | У сярэднім . . | 98650 | 986,5 | 9,7 | 16,5 | 18,2 |

| …ці | Радыус |  | Лік сельсаветаў | Лік паселішч | Лік сялянскіх гаспадарак | Душ насельніцтва |  |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
|  | 4-ты | Сярэдні |  |  |  | Усяго | Вясковавага |
|  | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| - | — | 16,0 | 15 | 262 | 8837 | 47728 | 47728 |
| 5 | 25 | 19,75 | 9 | 245 | 4937 | 30367 | 24350 |
| - | — | 21,4 | 13 | 245 | 5516 | 30829 | 30066 |
| 4,3 | 26,5 | 20,8 | 12,8 | 261,6 | 6912,8 | 41894,4 | 36888,6 |
| 3 | 48 | 33,62 | 12 | 147 | 5263 | 30694 | 29432 |
| - | — | 22,62 | 9 | 294 | 4306 | 23417 | 20445 |
| 0 | — | 32,0 | 14 | 92 | 6500 | 35100 | 34200 |
| 3 | 80 | 33,75 | 13 | 87 | 6722 | 43070 | 36967 |
| 3 | 50 | 25.75 | 11 | 346 | 4747 | 26700 | 25489 |
| 4,7 | 59,3 | 30,0 | 11.8 | 193,2 | 5507,6 | 31796.2 | 29306,6 |
| 3 | — | 26,7 | — | 315 | 9163 | 48298 | 48298 |
| 5 | 30 | 14,75 | — | 102 | 6547 | 32947 | 31247 |
| 2 | 26 | 18,5 | — | 115 | 6437 | 34879 | 34879 |
| 0 | 30 | 27,5 | — | 45 | 4439 | 25000 | 25000 |
| 8 | 32 | 26 | — | 101 | 8350 | 44850 | 44850 |
| 6,8 | 29.5 | 22,7 | — | 135,6 | 6987,2 | 37194,8 | 36854,8 |
| 6,5 | 27,0 | 17,25 | 15 | 223 | 7506 | 41160 | 36716 |
| 0 | 37 | 21,0 | 12 | 215 | 10434 | 52263 | 44734 |
| 8,2 | 32 | 19,1 | 13,5 | 219 | 8970 | 46711,5 | 40725 |

| №№ чарговыя | НАЗВА РАЁНУ і АКРУГІ | Плошча | | Радыус | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | У гектарах | У кілёмэтрах | 1-шы | 2-гі | 3-ці |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | **Магілёўская акр.** | | | | | |
| 29 | Шклоўскі . . . | | 984 | 7,49 | 16,5 | 22,5 |
| | **Аршанская акр.** | | | | | |
| 30 | Дубровенскі . . | 92640 | 926,4 | 5 | 15 | 30 |
| 31 | Талочынскі . . | 102900 | 102,9 | 10 | 15 | 27 |
| 32 | Дрыбінскі . . | 71593 | 715,93 | 10 | 15 | — |
| 33 | Багушэўскі . . | 90300 | 903 | — | — | — |
| | У сярэднім . . | 8936 | 893,6 | 8,3 | 15 | 28,5 |
| | **Віцебская акр.** | | | | | |
| 34 | Сураскі . . . | 124860 | 1248,6 | 19 | 23 | 28 |
| 35 | Лёзьнянскі . . | 90181 | 901,8 | 8 | 8 | 32,1 |
| 36 | Гарадоцкі. . . | 111900 | 1119 | 19,2 | 21,4 | 26,6 |
| 37 | Бешанковіцкі . | 97600 | 976 | 16 | 16 | 17 |
| 38 | Сіроцінскі. . . | 105200 | 1052 | — | — | — |
| 39 | Сеньненскі . . | 134700 | 1347 | 22 | 23 | 24 |
| | У сярэднім . . | 110740 | 1107,4 | 16,8 | 18,3 | 25,5 |
| | У сярэднім па 39 раёнах. . | 117360 | 1173,6 | 14,6 | 18,8 | 25,2 |

| Радыус | | Лік сельсаветаў | Лік паселішч | Лік сялянскіх гаспадарак | Душ насельніцтва | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 4-ты | Сярэдні | | | | Усяго | Вясковага |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 28,9 | 18,7 | 19 | 265 | 9011 | 54473 | 46179 |
| 30 | 20 | 13 | 164 | 8267 | 54657 | 46292 |
| 33 | 22,3 | 14 | 418 | 8004 | 45267 | 41663 |
| — | 12,5 | 9 | 118 | 5225 | 29315 | 27315 |
| — | 20 | 9 | 340 | 5800 | 33260 | 32083 |
| 31,5 | 18,7 | 11,2 | 260 | 6824 | 40624,7 | 36838,2 |
| 30 | 25 | 13 | 461 | 7905 | 42488 | 38593 |
| 32,1 | 20,1 | 10 | 322 | 9737 | 40113 | 36146 |
| 42,8 | 27,5 | 13 | 851 | 8789 | 55006 | 47975 |
| 23,5 | 18,1 | 13 | 424 | 8043 | 43823 | 41334 |
| — | 22,3 | 12 | 582 | 8110 | 45962 | 44273 |
| 25 | 23,5 | 14 | 395 | 9488 | 50092 | 47092 |
| 30,7 | 22,7 | 12,5 | 505,8 | 8678,6 | 46247,3 | 42568,8 |
| 36,2 | 22,9 | 12,5 | 288,4 | 7217,3 | 40031,3 | 37670 |

| № № чарговыя | НАЗВА РАЁНУ і АКРУГІ | % вясковага насельн. | Сярэдняя велічыня паселішча | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Лік гаспадарак | Плошча ў гектар. | Лік насельніцтва | Лік вясковага насельн. |
| 1 | 2 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| | **Менская акр.** | | | | | |
| 1 | Сьмілавіцкі . . | 91,41 | 27,48 | 299 | 151,96 | 138,91 |
| 2 | Самахвалавіцкі . | 100 | 17,43 | 199 | 98,17 | 98,17 |
| 3 | Узьдзенскі . . | 91,74 | 16,3 | 270 | 95 | 87,17 |
| | У сярэднім . . | 94,4 | 20,3 | 256 | 115,0 | 108,1 |
| | **Барысаўская акр.** | | | | | |
| 4 | Халопеніцкі . . | 95,69 | 22,3 | 405 | 126,6 | 121,1 |
| 5 | Бярэзінскі . . | 93,92 | 21,81 | 451 | 127 | 119,2 |
| 6 | Крупскі . . . | 93,98 | 35 | 1179 | 213 | 200 |
| 7 | Плешчаніцкі . . | 94,48 | 11,8 | 196 | 66 | 62 |
| | У сярэднім . . | 94,52 | 22,42 | 557,8 | 133,15 | 125,6 |
| | **Слуцкая акр.** | | | | | |
| 8 | Капыльскі . . | 92,04 | 31,9 | 363 | 175 | 161 |
| 9 | Старобінскі . . | 98,89 | 31 | 567 | 171 | 167 |
| 10 | Любаньскі . . | 96,96 | 22 | 420 | 122 | 119 |
| 11 | Старадароскі. . | 95,37 | 28 | 823 | 154 | 147 |
| | У сярэднім . . | 95,6 | 28,3 | 543,3 | 155,5 | 148,5 |
| | **Бабруйская акр.** | | | | | |
| 12 | 2-гі Бабруйскі . | 98,13 | 23 | 416 | 128 | 125 |
| 13 | Жлобінскі . . | 85,1 | 32 | 615 | 238 | 162 |

*Працяг дадатку № 1.*

| Гушчыня насельніцтва | На 1 аграработніка прыпадае: | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| На кв. кілёмэтр | Сельсавет. | Паселішч | Гаспадар. | Вяськов. насельн. | Плошча ў гектар. |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 51 | 3-4 | 88 | 2419 | 12225 | 26333 |
| 48,7 | 4—3 | 97 | 1695 | 9543 | 19320 |
| 35,21 | 3—4 | 106 | 1733 | 9269 | 28692 |
| 44,77 | — | 97 | 1949 | 10346,7 | 24781,7 |
| 31 | 3—4 | 78 | 1739 | 9450 | 31625 |
| 28 | 4 | 97 | 2116 | 11570 | 43750 |
| 18 | 3—4 | 42 | 1450 | 8336 | 49250 |
| 33 | 2¾ | 120 | 1212 | 7446 | 23488 |
| 27,5 | — | 84,25 | 1629,25 | 9200,5 | 37028,25 |
| 48 | 5—7 | 75 | 2402 | 12161 | 27325 |
| 30,1 | 4-6 | 63 | 1965 | 10449 | 35400 |
| 29 | 3—4 | 91 | 2027 | 10833 | 28253 |
| 19 | 3—4 | 93 | 2645 | 13747 | 76833 |
| 31,5 | — | 80,5 | 2259,8 | 11797,5 | 41952,7 |
| 31 | 5 | 83 | 1878 | 10417 | 34550 |
| 39 | 3-4 | 49 | 1552 | 8126 | 30000 |

| №№ чарговыя | НАЗВА РАЁНУ і АКРУГІ | % вясковага насельн. | Сярэдняя велічыня паселішча | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Лік гаспа-дарак | Плошча ў гектар. | Лік насель-ніцтва | Лік вяскова-га насельн. |
| 1 | 2 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 14 | 1-шы Бабруйскі. | 100 | 34 | 363 | 182 | 182 |
| 15 | Сьвіслацкі . . | 80,18 | 20 | 573 | 124 | 99 |
| 16 | Клічаўскі . . . | 97,2 | 22 | 464 | 126 | 122 |
| | У сярэднім . . | 88,1 | 26,2 | 486,2 | 159,6 | 138,0 |
| | **Мазырская акр.** | | | | | |
| 17 | Лельчыцкі . . | 95,88 | 36 | 1127 | 209 | 200 |
| 18 | Жыткоўскі . . | 87,3 | 15 | 697 | 80 | 70 |
| 19 | Нараўлянскі . . | 97,49 | 71 | 1700 | 382 | 372 |
| 20 | Калінкавіцкі . . | 85,83 | 77 | 1710 | 495 | 425 |
| 21 | Каралінскі . . | 95,46 | 14 | 333 | 77 | 74 |
| | У сярэднім . . | 92,2 | 42,6 | 1113,4 | 248,6 | 228,2 |
| | **Гомельская акр.** | | | | | |
| 22 | Увараўскі. . . | 100,0 | 29 | 322 | 153 | 153 |
| 23 | Носаўскі . . . | 94,83 | 54 | 691 | 323 | 306 |
| 24 | Гомельскі. . . | 100,0 | 56 | 523 | 303 | 303 |
| 25 | Дзятлаўскі . . | 100,0 | 99 | 874 | 556 | 556 |
| 26 | Сьвяцілаўскі . . | 100,0 | 83 | 1081 | 444 | 444 |
| | У сярэднім . . | 98,9 | 66,2 | 698,2 | 356,0 | 352,4 |
| | **Калінінская акр.** | | | | | |
| 27 | Чэрыкаўскі . . | 89,2 | 39 | 504 | 185 | 165 |
| 28 | Мсьціслаўскі. . | 85,6 | 48 | 395 | 243 | 208 |
| | У сярэднім . . | 87,4 | 41 | 449,5 | 214 | 186,5 |

| Гушчыня насельніцтва | На 1 агроработніка прыпадае: | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| На кв. кілёмэтр. | Сельсавет. | Паселішч | Гаспадар. | Вясков. насельн. | Плошча ў гектар. |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 50 | 3 | 65 | 2209 | 11932 | 23750 |
| 22 | 3—4 | 82 | 1646 | 8117 | 46800 |
| 27 | 5 | 64 | 1379 | 7514 | 28450 |
| 33,8 | — | 68,6 | 1731,6 | 9221,6 | 32710 |
| 19 | 4 | 49 | 1754 | 9810 | 55233 |
| 11 | 2—4 | 98 | 1435 | 6815 | 68250 |
| 22 | 5 | 18 | 1300 | 6840 | 31280 |
| 29 | 3—4 | 22 | 1680 | 9242 | 37200 |
| 23 | 2—3/4 | 87 | 1187 | 6372 | 28800 |
| 20.8 | — | 54,8 | 1471,2 | 7815,8 | 44152,6 |
| 48 | — | 105 | 3054 | 16099 | 33833 |
| 47 | — | 51 | 3273 | 15623 | 35261 |
| 58 | — | 57 | 3218 | 17439 | 30100 |
| 63 | — | 23 | 2219 | 12500 | 19674 |
| 41 | — | 25 | 2087 | 14950 | 27287 |
| 51,4 | — | 52,2 | 2770,2 | 15322,2 | 29231 |
| 37 | 5 | 74 | 2502 | 12239 | 37433 |
| 61 | 3—4 | 54 | 2608 | 11183 | 21250 |
| 49 | — | 64 | 2555 | 11711 | 29341,5 |

| №№ чарговыя | НАЗВА РАЁНУ і АКРУГІ | % вясковага насельн. | Сярэдняя велічыня паселішча | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Лік гаспадарак | Плошча ў гектар. | Лік насельніцтва | Лік вясковага насельн. |
| 1 | 2 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| | **Магілеўская акр.** | | | | | |
| 29 | Шклоўскі . . . | 84,8 | 34 | 371 | 206 | 174 |
| | **Аршанская акр.** | | | | | |
| 30 | Дубровенскі . . | 84,7 | 50 | 565 | 333 | 282 |
| 31 | Талочынскі . . | 92,0 | 19 | 246 | 108 | 100 |
| 32 | Дрыбінскі. . . | 93,2 | 44 | 607 | 257 | 231 |
| 33 | Багушэўскі . . | 96,5 | 17 | 266 | 98 | 94 |
| | У сярэднім . . | 91,6 | 32,5 | 421 | 199 | 176,7 |
| | **Віцебская акр.** | | | | | |
| 34 | Сураскі . . . | 91,6 | 17 | 271 | 92 | 84 |
| 35 | Лезьнянскі . . | 90,0 | 30 | 280 | 124 | 112 |
| 36 | Гарадоцкі. . . | 87,2 | 10 | 131 | 65 | 56 |
| 37 | Бешанковіцкі. . | 94,3 | 19 | 230 | 103 | 97 |
| 38 | Сіроцінскі. . . | 96,3 | 14 | 181 | 79 | 76 |
| 39 | Сеньненскі . . | 94,0 | 24 | 341 | 127 | 119 |
| | **У сярэднім . .** | 92,2 | 19,0 | 239,0 | 98,3 | 90,7 |
| | У сярэднім па 39 раёнах. . | 94,1 | 33,3 | 539,7 | 181,0 | 174,7 |

| Гушчыня насельніцтва | На 1 аграработніка прыпадае: | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| На кв. кілёмэтр. | Сельсавет. | Паселішч | Гаспадар. | Вяскоў. насельн. | Плошча ў гектар. |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 55 | 4 | 53 | 1802 | 9236 | 19681 |
| 59 | 4—5 | 55 | 2756 | 15430 | 30880 |
| 44 | 3—4 | 104 | 2001 | 10416 | 23225 |
| 41 | 1½ | 18 | 871 | 4552 | 11932 |
| 37 | 2¼ | 85 | 1450 | 8021 | 22575 |
| 45,2 | — | 65,5 | 1769,5 | 9604,7 | 22153 |
| 34 | 4 | 115 | 1976 | 9673 | 31212 |
| 44 | 2½ | 80 | 2434 | 9036 | 22545 |
| 49 | 3—4 | 213 | 2197 | 11994 | 27975 |
| 45 | 3—4 | 106 | 2011 | 10333 | 24400 |
| 43 | 3 | 146 | 2027 | 11068 | 26300 |
| 37 | 3—4 | 99 | 2372 | 11773 | 33675 |
| 42,0 | — | 126,5 | 2169,5 | 10646,1 | 27684,5 |
| 38,1 | — | 77.6 | 2007,1 | 10383,5 | 32149.5 |

*Дадатак № 2.*

**Скарочаная характарыстыка адміністрацыйных раёнаў БССР паводле апісаньняў агрономаў.**

| №№ анкет | Назва раёнаў і акруг | Лік падраёнаў | Прыродна-гістарычная і эканомічная характарыстыка падраёнаў | Кароткая характарыстыка сярэдняе (тыповае) гаспадаркі па падраёнах | | | | | | | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Усёй зямлі | Ральлі | Сенажаці | Іншае | Усяго душ | Працоўных | Коняй | Кароў | Сьвіней | |
| | **Менская акруга** | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Сьмілавіцкі | 2 | Па кірунку гаспадаркі раён падзяляецца на 2 часткі: | | | | | | | | | | |
| | | | 1) паўночная частка—з зярнёвай сыстэмай гаспадаркі, з слаба разьвітай жывёлагадоўляй . . . . . . | 10,0 | 7,0 | 2,0 | 1,0 | 6,0 | 3,5 | 1,5 | 2,0 | 2—3 | |
| | | | 2) паўднёвая — зярнёва-бульбяна-травяная з разьвітай жывёлагадоўляй . . . | 5,25 | 4,0 | 1,0 | 0,25 | 6,0 | 3,5 | 1,0 | 2,0 | 3—4 | |
| 2 | Самахвалавіцкі | 2 | Паводле эканомічных адзнак падзяляецца на: | | | | | | | | | | |
| | | | 1) аддалены ад Менску—зярнёвы, мазазямельны . . | 3,5 | 2,75 | — | — | 4,0 | 2,0 | 1,0 | 1,0 | — | |
| | | | 2) падменскі — жывёлагадоўчы з пашыраным засевам траў. | 10,0 | 8,0 | — | — | 6,0 | 5,0 | 2,0 | 3,0 | 3—0 | |

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | Узьдзенскі | 3 | Паводле глебавых умоў выдзяляюцца 2 падраёны, але ў абодвух кірунак аднолькавы—зярнёва-жывёлагадоўчы. | — | 3,2 | — | — | 5,3 | 2,0 | 1.0 | 2,0 | — |
| | **Барысаўск. акруга** | | | | | | | | | | | |
| 4 | Халопеніцкі | 2 | Па прырода-экономічных умовах падзяляецца на 2 падраёны: | | | | | | | | | |
| | | | 1) бязьлесны, пералюднены, з ападзоленымі суглінкавымі глебамі, трохпалёвы, з гноевай жывёлагадоўляй . . | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | | | 2) лясісты, рэдка заселены, балоцісты, глебы пескавыя, трохпалёўка з наяўнымі адзнакамі пералогу, мясная жыжывёлагадоўля . . . | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Бярэзінскі | 2 | Па прыродна-экономічных адзнаках два падраёны: | | | | | | | | | |
| | | | 1) пяскі, шмат балот і лесу, заработкі на баку, нагульная жывёлагадоўля . . | 6,0 | 3,5 | 1,0 | 1,5 | 6,0 | 3,0 | 1.0 | 3,0 | 2—0 |
| | | | 2) супясковы, менш лясісты, больш с.-г., продаж конскага маладняка, адкорм сьвіней . | 5.0 | 4,0 | 0,5 | 0,5 | 6,0 | 3,0 | 1,0 | 3,0 | 3—0 |

*Працяг дадатку № 2.*

| №№ анкет | Назва раёнаў і акруг | Лік падраёнаў | Прыродна-гістарычная і эканомічная характарыстыка падраёнаў | Кароткая характарыстыка сярэдняе (тыповае) гаспадаркі па падраёнах | | | | | | | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Усёй зямлі | Ральлі | Сенажаці | Іншае | Усяго душ | Працоўных | Коняй | Кароў | Сьвіней | |
| 6 | Крупскі | 2 | 1) Пясковы, страката-польна-зярнёвы | — | 3,7 | 1,7 | — | — | — | 0,94 | 1,58 | — | |
| | | | 2) суглінкавы, альняна-жывёла-гадоўчы, лепш за першы | — | 3,27 | 0,95 | — | — | — | 0,89 | 1,68 | — | |
| 7 | Плешчаніцкі | 1 | Прыблізна аднолькавы, экстэнсыўна-зярнёвы, жыта больш 1/3 часткі, на 90 % апрацоўваюць глебу сахой | — | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| | **Слуцкая акруга** | | | | | | | | | | | | |
| 8 | Капыльскі | 3 | 1) Лясісты, лёгкія глебы, травяна-зернявы (траў 7,0 %, зярнёвых—74,6%). | — | -- | — | — | — | — | — | — | -- | |
| | | | 2) сярэдня-лясісты, глебы валунныя суглінкі, траў 7,1 %, зярнёвых 78,7% | — | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| | | | 3) менш лясісты, больш шчыльна заселены, значнае пашырэньне травасеву—10,1%, зьмяншэньне зярнёвых—74,7% | — | — | — | — | — | — | — | — | — | |

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | Старобінскі | 3 | 1) Палявы, глебы — супесь і суглінак, плодазьмены — пашыраны засеў траў і караньплодаў . . . . | 6,5 | 5,0 | 1,5 | — | — | — | — | — | — | |
| | | | 2) пераходны да палескага, глебы дробна-пескавыя, мясная жывёла-гадоўля з пераходам да малочнае .<br>3) палескі — глебы буйна пескавыя, мясная жывёлагадоўля . . . . | 16,0 | 3,0 | 6,0 | 7,0 | — | — | — | — | — | |
| 10 | Любаньскі | 3 | 1) Сугліністыя і супясковыя глебы, жывёлаводны, пашыраюцца травы . .<br>2) зьвязныя пяскі, слабей выяўлены жывёлагадоўчы кірунак . . . . .<br>3) сыпкія пяскі і шмат балот, раён пашырэньня мэліорацыі . . . . . | — | 5,0 | 2,9 | — | 5,0 | 3,0 | 1,0 | 3,0 | — | |
| 11 | Старадароскі | 1 | Раён аднолькавы, зярнёвы — з ухілам у бок жывёлагадоўлі | 4,7 | 2,8*) | — | — | 5,4 | 4,0 | 2,0 | 3,0 | — | *) 2,8 засеўная плошча гаспадаркі |

*Праця̂г дадатку № 2.*

| №№ анкет | Назва раёнаў і акруг | Лік падраёнаў | Прыродна-гістарычная і эканомічная характарыстыка падраёнаў | Кароткая характарыстыка сярэдняе (тыповае) гаспадаркі па падраёнах | | | | | | | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Усёй зямлі | Ральлі | Сенажаці | Іншае | Усяго душ | Працоўных | Коняй | Кароў | Сьвіней | |
| | **Бабруйская акруга** | | | | | | | | | | | | |
| 12 | 2-гі Бабруйскі | 1 | Аднолькавы, зярнёвы з ухілам у жывёлагадоўлю . . | — | 4,5 | 1,5 | — | 6,0 | 3,5 | 1,0 | 2,0 | 2 | |
| 13 | Жлобінскі | 4 | 1) Пяскі і лёгкія суглінкі, зярнёва - жывёлагадоўчы кірунак . . . .<br>2) лёгкія суглінкі—кірунак гаспадаркі прыблізна аднолькавы . . .<br>3) суглінкі —жывёлагадоўля больш разьвіта, пашыраецца засеў траў . .<br>4) ападзоленыя суглінкі—кірунак гаспадаркі, як і ў папярэднім . . . | — | 4,9 | — | — | 5,0 | 2,1 | 1,37 | 2,4 | — | |
| 14 | 1-шы Бабруйскі | 2 | Па глебах і адлегласьці ад рынку вызначаюцца 2 падраёны: . . . .<br>1) падгародні — інтэнсыўны<br>2) аддалены — экстэнсыўны. | 7.0 | 5,0 | 1.5 | 0,5 | 5,0 | 3,5 | 1.0 | 3.0 | 5,0 | |

